*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*



# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 10 чэрвеня 1988 г. № 24 (3434) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.



◆

**МЭТА ПЕРАБУДОВЫ — У ПОЎНАЙ МЕРЫ РАСКРЫЦЬ ГУМАНІСТЫЧНУЮ ПРЫРОДУ І СТВАРАЛЬНУЮ МАГУТНАСЦЬ САЦЫЯЛІЗМУ, ДАСЯГНЕННЕ ГЭТАЙ МЭТЫ НЕАДДЗЕЛЬНАЕ АД РАЗВІЦЦЯ ДЭМАКРАТЫІ І ПУБЛІЧНАСЦІ, САМАКІРАВАННЯ НАРОДА, РАДЫКАЛЬНАЙ ЭКАНАМІЧНАЙ РЭФОРМЫ, МАРАЛЬНАГА АЧЫШЧЭННЯ ГРАМАДСТВА, ВЫЯЎЛЕННЯ ТВОРЧЫХ МАГЧЫМАСЦЕЙ, ЯКІЯ ЗАКЛЮЧАНЫ Ў СВАБОДНЫМ І ЎСЕБАКОВЫМ РАЗВІЦЦІ ЧАЛАВЕКА.**

(З Тэзісаў Цэнтральнага Камітэта КПСС да XIX Усесаюзнай партыйнай канферэнцыі).

◆



Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР вязальшчыца Брэсцкай доследна-эксперыментальнай фабрыкі верхняга трыкатажу В. Цакоўская (на здымку—у цэнтры) нядаўна выбрана дэлегатам XIX Усесаюзнай партыйнай канферэнцыі. Падзяліцца гэтай радаснай для яе навіной з бацькамі Валянціна Іванаўна завітала ў родную вёску.

Фота С. КРЫЦКАГА.

## Акорды «Ручаіны»



Выступаюць госці з Ноўгарада.

Традыцыйнымі сталі ў Мінску святы народнай творчасці. Іншая справа, што ў адных раёнах горада яны маюць ужо сталую прапіску, у другіх — толькі набіраюць разгон. Вось і ў мінулую суботу сабраліся на плошчы Ісая Казінца тыя, хто жыве ў мікрараёне Курасоўшчына. Даведаўшыся пра свята народнай песні «Ручаіна», аб якім паведамлялі «Вячэрні Мінск» і афішы, зазірнулі ў гэты куток сталіцы і жыхары іншых мікрараёнаў...

Усе ўдзельнікі свята з плошчы Ісая Казінца ў тэатралізаванай калоне накіраваліся ў старадаўні парк, у адметны гістарычны куток Мінска, які добра было б зберагчы. Тут вядучыя свята — традыцыйны Несцерка і сама... Песня запрасілі ўсіх на канцэрт, у якім прынялі ўдзел самадзейныя калектывы Мінска і сталічнай вобласці, а таксама госці з Ноўгарада — ансамбль песні і танца «Садко».

Свята наладзіў Дом культуры і тэхнікі Мінскага вытворчага аб'яднання «Інтэграл».

**А. БЕЛАВОКІ.**

Фота М. МІНКОВІЧА.

З АПОШНЯЙ ПОШТЫ

## ВЯРТАННЕ НА ЗЯМЛЮ

Нумар «ЛіМа» за 3 чэрвеня г. г. уражвае! Ён такі важкі, насычаны гарачым матэрыялам, жывымі думкамі — нічога лішняга.

Гарачыя, што б'юць у цэль, выступленні ўдзельнікаў пленума праўлення СП БССР «Гісторыя народа і літаратура». Працяг грунтоўнага артыкула Б. Сачанкі «Бэндэ». І, нарэшце, гэта... На здымку — чарапы і косці. А калі дачытаны апошнія радкі: «...А яны яшчэ спрабуюць казаць пра нейкія «прынцыпы», — адчуваеш бяссілле слоў, якімі можна было б перадаць гэты стан катарсісу...

Нават пры ўсім тым, што апошнія год-два крывавае аблічча сталіншчыны было выяўлена ва ўсёй яго агіднасці ў дзесятках, калі не ў сотнях публікацый — газетных і часопісных, у кнігах, кінафільмах, спектаклях, — нават пры ўсім тым артыкул З. Пазняка і Я. Шмыгалёва — падзея. Гэта — дакумент, варты самага шырокага распаўсюджвання, прачытання, вывучэння.

Ёсць небяспека, даследуючы сталіншчыну, узнесціся ў завоблачныя вышыні філасофствавання, пабудаванага па схеме «з аднаго боку — з другога боку». Аўтары публікацыі «Курапаты — дарога смерці» вяртаюць нас на зямлю ў літаральным сэнсе гэтага слова. Гэтае вяртанне неабходна, бо пры ўсіх пошуках ісціны, пры ўсіх даследаваннях феномена сталіншчыны з яго «пазітывам» і «негатывам» нельга забываць пра зямлю, пра тыя мільёны (менавіта мільёны, а не тысячы, як сарамліва гаварылі мы раней), што ляжаць у ёй і патрабуюць суда Гісторыі, суда нашчадкаў.

Ніхто з іх не павінен быць забыты, як і тыя, хто загінуў у барацьбе з фашызмам. Генацыд супраць уласнага народа і гітлераўскі фашызм — з'явы, бадай, аднаго парадку. І ў тым, і ў другім выпадку — непераадольная прага ўлады, імкненне перарабіць свет паводле свайго меркавання, пагарда да чалавечай асобы.

Дык ці ж падымецца пасля гэтай дакументальнай хронікі пяро ў рознага роду андрэевых, якія талкуюць пра нейкія міфічныя прынцыпы, зручныя тым, хто дазваляе сабе жыць, нічога не бачачы і нічога не чуючы?!

**А. ВАРАВА.**

г. Мінск.

## *ДА XIX УСЕСАЮЗНАЙ ПАРТЫЙНАЙ КАНФЕРЭНЦЫІ*

Анкета «ЛіМа»

# БОЛЬШ ДЭМАКРАТЫІ, БОЛЬШ САЦЫЯЛІЗМУ!

**«Якія праблемы вы ўзнялі б, на чым засяродзілі б увагу, калі б вам давялося выступіць з трыбуны XIX *партыйнай канферэнцыі?»* — *з такім пытаннем «ЛіМ» звярнуўся да* некаторых сваіх чытачоў. У мінулых нумарах газеты былі надрукаваны адказы Г. Далідовіча, К. Тарасава, Э. Ялугіна (20 мая), І. Вашкевіча, А. Казловіча (27 мая), Г. Вашчанкі, А. Рашчынскага (3 чэрвеня).**

**Сёння слова бяруць пісьменнікі А. Кудравец і В. Якавенка.**

**Анатоль КУДРАВЕЦ**



# УСЯСІЛЬНАЯ ФОРМУЛА?..

Падмена справы словам — хвароба не толькі «застойных» гадоў і не Кастрычнікам яна народжана. «Шумим, братец, шумим...» — гэта было сказана нашмат раней, але на глыбокую перспектыву. У тым ліку і нашу, савецкую. У сувязі з гэтым прыгадаем хоць бы неаднаразовую трывожную перасцярогу У. І. Леніна наконт пустапарожняй «палітычнай траскатні».

Ігнараванне эканамічных законаў развіцця грамадства, дэфармацыя, а пасля і здрада ідэям Рэвалюцыі гэтую хваробу асобных людзей ператварылі ў хваробу грамадства, у многім надалі ёй статус дзяржаўнай палітыкі.

Колькі вялікіх, патрэбных і быццам бы добра задуманых спраў было пахавана пад барабанны грукат актывістаў усякіх (часам самых палярных) навацый, фанфарыстаў уяўнага руху, тых, для каго слова і шумавы эфект — і пачатак і канец усяго: і рэвалюцыйны лозунг, і рэвалюцыйнае дзеянне, і канечны вынік.

Маршыраванне на месцы ў стройна вымераных калонах, — самае большае, на што хапала іх. А калі яшчэ падключацца тэлебачанне ды рэпарцёры са спрынтарскім прыдыханнем... Гэта ўжо зорны час збору ўраджая — гімнаў, рэляцый, узнагарод.

Сказаць, што на цяперашнім драматычным этапе, які перажывае наша краіна, мінула незваротна небяспека падмены рэальнага ўяўным, — значыць, свядома заплюшчваць вочы на тое, што адбываецца ў грамадстве, ці — павінна адбывацца, але чамусьці не адбываецца. Інакш: ігнараваць горкі вопыт недалёкага мінулага і з адкрытым наплявізмам ставіцца да таго, што будзе заўтра. А значыць, — і да лёсу Перабудовы, і надзей, якія з ёй звязваюцца.

Залішне актыўная эксплуатацыя чаго б там ні было прыводзіць да знясілення таго, што эксплуатуецца, і ў канечным выніку — выключэння яго з сістэмы рэальнага жыцця. Так у эканоміцы, так у сферы духоўнай. Гэта мае самыя прамыя адносіны і да бяздумнай эксплуатацыі слова, не падмацаванай культурнай традыцыяй. Колькі добрых слоў мы страцілі на такіх практыкаваннях! А за словамі стаялі вялікія ідэі, якім людзі верылі. Прымусіць іх паверыць у новыя ідэі ў пяты ці шосты раз — задача на мяжы немагчымага. І ўсё ж яны паверылі ў Перабудову!

Перабудова... Відаць, на сёння гэта самае хадавое слова. Кожны ўкладвае ў яго свой сэнс і сваё разуменне. І сваю выгаду. Адчуваецца, што гэтаму *паняццю* ўжо цяжка вытрымліваць шматзначныя нагрузкі. Хаця б таму, што яно не можа быць аднолькава выгадным і для тых, хто выношваў перабудову, і для тых, хто супраць яе. І тут адно спадзяванне — на XIX партканферэнцыю.

Раздумваеш пра Перабудову, і ўсё больш трывожыць *магчымасць перакідвання цэнтра цяжару* са сферы грамадства — эканоміка, права, ідэалогія — на плечы асобнага чалавека.

«Ты перабудаваўся?» — гэта пытанне не проста носіцца ў паветры, а яго вось-вось пачнуць тыражыраваць друк і гучнагаварыцелі, развешаныя па ўсіх вуліцах.

«*Кожны чалавек...*» — гэта так. «Пачынаць з сябе...» — зноў жа...

Але, пачуўшы гэтае, узмоцненае сучаснай тэхнікай пытанне, ці не кінуцца многія выстройвацца ў чаргу, каб першымі адрапартаваць: «Я перабудаваўся». І будуць шукаць даведкі і сведак, што гэта так. І ці не будуць тут першымі ўсё *тыя ж перадавікі справаздач?* Тым болей, што і кааператары, відаць, не застануцца збоку, а, даганяючы дзелавую Амерыку, панавыпускаюць маек і іншага шырспажыву з роспісам цераз усе грудзі: «Я перабудаваўся».

Васіль Быкаў не пойдзе шукаць такую майку, а як байцы супраць «акопнай праўды»?.. Хто іх ведае...

І Пімену Панчанку гэты лозунг без патрэбы, бо ўсё жыццё ён сцвярджае, што без культуры немагчыма перамога ніякай рэвалюцыі, знізу яна ідзе ці зверху. Што нацыянальная культура падразумявае і нацыянальную мову як абавязковы першаэлемент, і гістарычную памяць — хай горкую, балючую, але сваю. Бацькоў не выбіраюць, іх прымаюць такімі, якія яны ёсць.

Панчанку без патрэбы, а нецярплівым ахвотнікам заўтра ж вывесіць касмічны транспарант аб скасаванні ўсіх нацый і народнасцей?..

Колькі існуе чалавецтва, столькі чалавек перабудоўваецца. І, разам з тым, як даказваюць вучоныя, застаецца нязменным у асноўным тое, што дае яму права называацца homo sapiens. І вось гэты чалавек разумны добраахвотна дазваляе банапарцікам тыпу Сталіна рабіць з ім усё, што захочацца. З народам, з народамі. Высылаць, знішчаць, марыць голадам. І рабіць гэта не дні — дзесяцігоддзі, якія потым спрасуюцца ў формулу пад назвай сталінізм.

Чаму такое стала магчымым? На гэта пытанне пакуль што ніяк не могуць знайсці адказ ні філосафы, ні гісторыкі.

А адказ на яго, па-мойму, быў знойдзены яшчэ ў 1939 годзе, у пару самага разгулу яжоўска-берыеўскага тэрору, які да той пары паспеў стварыць безадказную гільяцінную машыну, якая ўвесь час шукала працы, і ёй увесь час не хапала чалавечага матэрыялу.

Адказ гэты быў у камедыі Кандрата Крапівы «Хто смяецца апошнім» і заключаўся ўсяго ў некалькіх словах: «Тулягі мы. Усе мы Тулягі».

Сказана было жорстка ў адносінах да людзей, але гэта была праўда. І яны таго заслужылі.

Гільяціна не заўважыла пратэсту, ці зразумела яго як яшчэ адно пакорлівае нахіленне галавы: усе мы тулягі, рабіце з намі, што хочаце.

Наступныя дзесяцігоддзі пладзілі новых і новых туляг. Толькі калі тулягі 1939 года маглі і самі сабе, і прылюдна прызнацца, **хто** яны, то пазнейшыя баяліся гэта зрабіць нават самнасам з сабой. Баяліся і не хацелі. Такое становішча многіх задавальняла. Стала **выгадна** быць слабым чалавекам, які сам *нічога не можа і ні за што* не адказвае. «Мы — маленькія людзі. А вырашаюць «там», недзе на небе».

Мыслілі прыкладна так: «Мора нап'ецца і берагам дастанецца». І праўда: было і мору, даставалася і берагам. А што там далей ад берагоў — голая пустыня ці горкія саланчакі — іх не кранала. Успомнім хаця б нядаўнія крымінальныя вертыкалі і гарызанталі: Узбекістан — Масква, Казахстан — Масква, мазырская справа, краснадарская справа і інш.

Стварэнне *пакалення людзей*, якія ўсяго баяцца, — можа, адно з самых страшных злачынстваў сталінізму. Страх пайшоў у патомства, убіўся ў гены.

Ні часы хрушчоўскага інстынктыўнага рыўка да чалавечай натуры, ні тым больш — часы брэжнеўскага двухадзінства: гавару адно, а раблю процілеглае — *нічога не памянялі.*

Туляга гатовы ісці на ўсё. Ён гатовы добраахвотна поўзаць на каленях толькі з тым, каб узяць матэрыяльны рэванш — рублём, пуцёўкай у санаторый, кватэрай. А пасля, запёршыся на тры замкі, будзе паказваць кукіш у кішэні: «Вось вам, вось вам!..» А што яно, гэта «вось»?

Мы столькі гаворым пра Перабудову, шукаем новыя рычагі, якія б рушылі яе хоць на сантыметр далей. І часта зусім забываем пра правераныя і надзейныя старыя. Наколькі мне вядома, п'еса «Хто смяецца апошнім» не ідзе ні ў адным тэатры краіны. У тым ліку ў Беларусі, на радзіме народнага пісьменніка. А трэба было б, каб яна прайшла праз кожны тэатр, каб яе паглядзеў кожны чалавек. Выбіваць з чалавечай душы мімікрыю тулягі — ці не ёсць гэта найпершая сённяшняя задача літаратуры? І ці не ёсць гэта задача найцяжэйшая?

Трэба навучыць чалавека паважаць сябе. Праўда, для гэтага трэба, каб і грамадства ўзяло на сябе абавязковую долю адказнасці: стварыла ўмовы для павагі чалавека, стварыла надзейны механізм абароны чалавека, на якой бы грамадскай ступеньцы ён ні быў. Каб чалавек, а не ўсё іншае — план, працэнт, недабудаваны свінарнік, «што пра нас падумаюць», — стаў самацэннай каштоўнасцю. Каштоўнасцю не на словах, а на справе.

Не ў варожасці з гэтай высокай гаворкай будуць і такія факты. Кіламетровыя чэргі каля вінных магазінаў пры адсутнасці сухога закона — хіба гэта лепшы прыклад павагі да чалавека?.. Талонная сістэма на цукар пры яго падушным дастатку — ці не тое ж самае?

Водападзел поспеху і тармажэння Перабудовы, на маю думку, праходзіць паміж адміністрацыяй і культурай. Шмат аднаго і мала другога. А павінна быць наадварот. Больш культуры — менш адміністрацыі.

Пад адміністрацыяй я разумею не столькі армію столаначальнікаў — хаця 18 мільёнаў чыноўнікаў занадта многа! —

**«ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ**

# АДРАДЖАЦЬ ЛЕНІНСКІЯ НОРМЫ ЖЫЦЦЯ

**У працоўных калектывах рэспублікі, як і па ўсёй краіне, працягваецца абмеркаванне Тэзісаў ЦК КПСС да XIX Усесаюзнай партыйнай канферэнцыі. Рабочыя, калгаснікі, інтэлігенцыя аднадушна адабраюць курс партыі, накіраваны на перабудову грамадства, паскоранае развіццё яго. Разам з тым уносяць шматлікія прапановы, звязаныя з далейшай дэмакратызацыяй жыцця, публічнасцю і галоснасцю, павышэннем ролі КПСС.**

**Абмеркаванню Тэзісаў ЦК КПСС быў прысвечаны і агульны сход камуністаў і беспартыйных, які адбыўся ў сераду ў Доме літаратара. Гаворка праходзіла ў дзелавой, прынцыповай і дэмакратычнай атмасферы. Адмовіліся ад традыцыйнага ў падобных выпадках прэзідыума. Мікрафоны былі ўстаноўлены непасрэдна ў зале, і кожны мог падысці да іх, свабодна выказаць свае думкі.**

**Адкрыў сход сакратар партыйнага бюро СП БССР Г. Пашкоў, які, адзначаючы важнасць будучай канферэнцыі ў жыцці партыі, усяго савецкага грамадства, спыніўся на асноўных момантах Тэзісаў ЦК КПСС.**

**Старшынстваў на сходзе А. Грачанікаў.**

**У абмеркаванні Тэзісаў прынялі ўдзел А. Сідарэвіч, А. Кудравец, В. Зуёнак, Я. Пархута, Я. Садоўскі, В. Тарас, Л. Прокша, В. Якавенка, К. Тарасаў, А. Шабалін, А. Пісьмянкоў, Г. Колас, У. Някляеў, У. Федасеенка, В. Шырко, Б. Сачанка, У. Дамашэвіч, В. Гігевіч, С. Эльнінд, Н. Гілевіч, М. Танк.**

**Выступаючыя закранулі такія пытанні, як тэрміны знаходжання людзей на выбарных партыйных і дзяржаўных пасадах, справядлівае вырашэнне ў краіне нацыянальнага пытання, павышэнне на сучасным этапе ролі Саветаў, усталяванне прававых норм гарантыі перабудовы, правядзенне атэстацыі камуністаў, дзейнасць кантрольных органаў партыі.**

**На сходзе выступіў загадчык аддзела культуры ЦК КПБ Я. К. Вайтовіч**

**НАШ КАР.**

# Даніна памяці Каліноўскага



Пісьменнікі сярод вучняў СШ № 1 імя К. Каліноўскага г. п. Свіслач. У цэнтры — народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль.

**На Гродзеншчыне, у мясцінах, звязаных з жыццём Кастуся Каліноўскага, *пабывалі* народны пісьменнік Беларусі Я. Брыль, В. Адамчык, Я. Лецка, У. Рубанаў. Да іх далучыліся гродзенскія літаратары — сакратар абласнога аддзялення СП БССР А. Карпюк, Д. Бічэль-Загнетава, Ю. Голуб, а таксама гісторык М. Ткачоў.**

***Пісьменнікі выступілі* перад вучнямі і настаўнікамі сярэдняй школы № 1 гарадскога пасёлка Свіслач, якая носіць імя нацыянальнага героя. Выступленні адбыліся і ў школе-інтэрнаце, СШ № 2.**

**Назаўтра госці наведалі былую сядзібу К. Каліноўскага, дзе цяпер *праводзяцца* раскопкі, каб праз некаторы час на месцы старога будынка ўзвесці дом-музей кіраўніка паўстання 1863 года.**

Тэкст і фота А. КАЛЯДЫ

а яе сутнасць, псіхалогію, метады. Адміністраванне, камандаванне. Культ пасады, а не культ аўтарытэту.

А культура... Гэта не толькі адзін-два паказальныя хоры сямідзесяцігадовых бабулек на ўсю Магілёўскую вобласць: дзякуй ім, што жывуць і так шчыра, як у апошні раз, вядуць мелодыю; і гэта не адзін Блахін на ўсю савецкую субкантынентальную дзяржаву; гэта і не дзесяць англійскіх (нямецкіх, французскіх) фраз на ўсё жыццё для чалавека з вузам і атаваранай аспірантурай.

Гэта трошкі іншае. Гэта і незагубленае Палессе, і незасоленая Старобіншчына, і неўзарваная Чарнобыльская АЭС, і ненабітая нітратамі, як дынамітам, бульбіна. Гэта і песня, якую людзі спяваюць, ідучы на працу і з працы. Дзе хто калі яе чуў? І ці скора пачуе?..

А перш за ўсё — гэта чалавек з адкрытым, смелым, нестандартным мысленнем. Ён будзе, калі пойдзе сёння ў школу і будзе вучыцца па новых падручніках.

Будзем шчырымі: на перабудову культура яшчэ слаба працуе. Як слаба працуе і інтэлект з усёй сваёй узрыўной рэвалюцыйнай сілай. Трымаць іх у запасе і неэканамічна, і негуманна. Часу для раскачкі і роздуму не засталося. А ўсё нечага чакаем.

Сталінізм... Ды няўжо яна такая ўсясільная, гэтая формула?

Ці, можа, правы Кандрат Крапіва са сваёй камедыяй?..

**Васіль ЯКАВЕНКА**



# ЗАЙМАЦЦА СВАЁЙ СПРАВАЙ

У многіх сельскіх райкомах і не ўяўляюць іншай работы, як камандаваць вытворчасцю замест спецыялістаў. Адзін сакратар райкома партыі прызнаўся мне: ануліруй сёння ў раёне райком—людзі будуць працаваць не горш. І гэта лішні раз пацвярджае, што партыйныя камітэты займаюцца часам не сваёй справай. Падмяняючы адказных асоб і спецыялістаў, яны стрымліваюць праяву актыўнасці і развіццё самой ініцыятывы на месцы. У выніку энергія партыйных органаў траціцца ўпустую. Партыйныя работнікі, па словах В. Авечкіна, нібы адпачываюць на чужым полі дзейнасці, затое свая ніва занядбана.

Гэта сёння прывычна.

Мяне даўно здзіўляе тая абставіна, што цэнтральныя партыйныя органы капіруюць гаспадарчыя. Як дзіўна чытаць, што ў структуры рэспубліканскага Цэнтральнага Камітэта знаходзяцца «Аддзел цяжкай прамысловасці», «Аддзел гандлю і бытавога абслугоўвання», «Сельскагаспадарчы аддзел» з сектарам механізацыі і электрыфікацыі і інш. Па-мойму, зыходзячы з задач, якія стаяць перад партыяй, гэтыя аддзелы павінны б называцца так: «Аддзел камуністычных адносін на прадпрыемствах цяжкай прамысловасці», «Аддзел камуністычных адносін у гандлі і быце», «Аддзел камуністычных адносін на сяле» і г. д. і да т. п. Істотна змянілася б справа.

А выраз «камуністычныя адносіны» вельмі ёмісты, ён убірае ў сябе і сацыяльныя, і эканамічныя адносіны. Удасканаленне камуністычных адносін, перакананы, павінна стаць галоўным у рабоце партыі.

З вялікім задавальненнем прачытаў у Тэзісах ЦК КПСС да XIX Усесаюзнай партыйнай канферэнцыі вось гэтыя радкі: «У святле перабудовы па-новаму паўстае роля КПСС як кіруючай і арганізуючай сілы ў савецкім грамадстве.

ЦК КПСС зыходзіць з ленінскай канцэпцыі партыі як палітычнага авангарда рабочага класа, усіх працоўных. Партыя, грунтуючыся на марксісцка-ленінскім вучэнні, заклікана распрацоўваць тэорыю і стратэгію грамадскага развіцця, унутраную і знешнюю палітыку, фарміраваць ідэалогію сацыялістычнага абнаўлення, весці палітычную і арганізатарскую работу ў масах, выхаванне і расстаноўку кадраў».



Перад пачаткам гутаркі: Максім Танк, Марцэлі Косман і Ніл Гілевіч. Фота Ул. КРУКА.

**Беларусь наведаў польскі гісторык і пісьменнік Марцэлі Косман. У 1979 годзе ў выдавецтве «Асолінэум» выйшла яго «Гісторыя Беларусі». На творчым рахунку пісьменніка трыццаць кніжак, сярод іх асаблівай папулярнасцю карыстаецца даследаванне «Па слядах герояў трылогіі» (маецца на ўвазе трылогія Г. Сянкевіча «Агнём і мячом», «Патоп», «Пан Валадыёўскі») — гэтая кніга вытрымала чатыры выданні.**

**Польскі госць прыехаў на Беларусь у сувязі з падрыхтоўкай да другога выдання «Гісторыі Беларусі». Ён пазнаёміўся з памятнымі мясцінамі Мінска, Навагрудка, Міра, Нясвіжа, зрабіў паездку на возера Свіцязь.**

**Марцэлі Косман меў гутарку ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі, у якой прынялі ўдзел старшыня праўлення СП БССР Максім Танк і першы сакратар праўлення Ніл Гілевіч.**

## ВІНШУЕМ!

**За плённую літаратурную дзейнасць і актыўны ўдзел у грамадскім жыцці Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР узнагародзіў пісьменніка КАРЫЗНУ Уладзіміра Іванавіча Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.**

## З ПОШТЫ «ЛіМа»: ПРАЦЯГ РАЗМОВЫ

### ● «МАТЧЫНА МОВА» І МАЛАДЫЯ МАМЫ

### ● ДЫК АДКУЛЬ ЖА НАЗВА?

### ● «АСВЕТА» ЧАКАЕ... ЗАСНАВАЛЬНІКА

●

У «ЛіМе» за 20 мая была змешчана інфармацыя «Гаворка ішла пра школу...»

Вельмі непрыемны ўжо сам той факт, што ў Беларусі патрэбна праводзіць сходы, каб агітаваць бацькоў аддаваць сваіх дзяцей у беларускія класы. Чаму так атрымліваецца? У Беларусі кожны год адкрываюцца ўсё новыя і новыя школы і амаль усе яны рускія. Напрыклад, у нас, у Салігорску, зараз працуе адзінаццаць школ і ніводнай беларускай. Дык вось, калі адкрываюцца школы рускія, ніхто не праводзіць ніякіх сходаў. Школа проста адкрываецца і працуе. Чаму ж тады патрэбна праводзіць агітацыю за беларускія школы?

Здзівіла мяне і выступленне І. П. Шамякіна на апошнім пленуме ЦК КПБ, прысвечаным пытанням адукацыі. Я чакала ад яго большага. Прапанова выкладаць беларускую мову з першага класа справы не палепшыць. Калі вучні тры гадзіны ў тыдзень займаюцца беларускай мовай і болей не маюць моўнай практыкі, мова для іх становіцца як замежная. Зусім іншая справа, калі ўсе прадметы выкладаюцца па-беларуску. Школьнікі слухаюць настаўніка, самі адказваюць па-беларуску, рыхтуюцца дома па беларускіх падручніках. Гэта дазволіць ім дасканала ведаць родную мову.

Часта ў публікацыях сустракаю выраз «матчына мова» і не згодна з ім. Сучасныя маладыя мамы вельмі дрэнна валодаюць роднай мовай, а са сваімі дзецьмі размаўляюць па-руску.

У дзіцячых садах усе заняткі праводзяцца на рускай мове. У мяне трое дзяцей. Старэйшаму сыну дванаццаць год, сярэдняму споўнілася нядаўна сем, малодшай дачцэ хутка будзе год. Дык вось, дзесяць год мы ўжо цесна звязаны з дзіцячым садам. Даводзіцца па некалькі разоў у год бываць на розных раніцніках. І толькі аднойчы, сёлета (сын-першакласнік займаецца ў садзіку) пачула на ранішніку з вуснаў хлопчыка верш аб Радзіме на беларускай мове. Вось вам і матчына мова. А зусім нядаўна пачула размову дзвюх выхавацельніц аб адной дзяўчынцы. Адна з іх сказала: «Маша як з'ездзіць на выхадныя да бабулі, дык так ужо па-дзеравенску размаўляе». Аказваецца, вывад зусім просты. Як была наша беларуская мова мужыцкай да рэвалюцыі, так яна і засталася, толькі звацца стала «дзеравенскай». Бо калі б было інакш, то навошта былі б гэтыя ўсе палемікі. Слоў многа, а справы пакуль што з месца не крануцца. Я, напрыклад, зрухаў не бачу.

І яшчэ лічу: усё, што выпускае беларуская прамысловасць, павінна мець беларускія назвы і прадавацца з этыкеткамі на роднай мове, як гэта робіцца ў іншых рэспубліках.

**В. ПРЫШЧЫЦ.**
г. Салігорск.

●

**У штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва» за 18 красавіка гэтага года быў надрукаваны гісторыка-краязнаўчы артыкул «Ля вытокаў Белай Русі». Публікацыя, трэба прызнацца, цікавая і змястоўная, бо каму з нас не хочацца ведаць, адкуль мы родам і калі мы сталі беларусамі. І хоць рэдакцыя папярэдзіла, што гэта яшчэ адна версія паходжання назвы «Белая Русь», якую прапануе выкладчык Гомельскага дзяржаўнага універсітэта А. Рогалеў, артыкул трэба лічыць навуковай работай. Тым больш, што аўтар яго з'яўляецца яшчэ і правадзейным членам Геаграфічнага таварыства СССР.**

**Матэрыял пра гэта ж самае з'явіўся і ў першым нумары новага маладзёжнага часопіса «Крыніца». Гэта — «Чаму Белая Русь — Белая», аўтарам якога з'яўляецца К. Тарасаў.**

**А. Рогалеў тлумачыць паходжанне назвы так: «белая» — гэта «цэнтральная (у геаграфічным сэнсе), а таксама важная, *самая галоўная, найбольш значная зямля*». У пацвярджэнне сваёй версіі ён прыводзіць выказванні расійскіх гісторыкаў В. Тацішчава, М. Стрыйкоўскага, якія ў свой час — у канцы XIV і XV стагоддзях — «Белай Руссю» называлі Маскоўскую дзяржаву, якая ў той час стала ўжо цэнтрам рускіх земляў. Інакш, хоць у нечым і падобна, тлумачыць паходжанне назвы «Белая Русь» К. Тарасаў. Ён таксама прызнае, што назва гэтая ўзнікла ў «цэнтральнай» рускай зямлі, якой у XII стагоддзі з'яўлялася Уладзімірска-Суздальская зямля. Князь яе Андрэй Багалюбскі — як адзначае К. Тарасаў — у 1169 годзе ажыццявіў паход на Кіеў і захапіў яго, абрабаваў, і ён страціў статус сталіцы ўсёй Русі. Цэнтр рускіх земель перамясціўся на ўладзімірскія землі. Менавіта князь Андрэй Багалюбскі і ўвёў у свой тытул прыбаўку «князь беларускі», што азначала князь Белай Русі. Аднак тлумачэнне ім гэтай назвы было іншае. Вось як піша пра гэта К. Тарасаў: «Андрэй Багалюбскі палічыў, што Кіеў страціў чысціню праваслаўя, бо там жылі і мелі храмы каталікі, іудзеі, магаметане, язычнікі... а ён князь Белай Русі— зямлі чыстага праваслаўя».**

**Вось і ўзнікае пытанне: назва «белая, Белая Русь» паходзіць ад «цэнтральнай, важнай, самай галоўнай, найбольш значнай» зямлі, дзе яна ўзнікла, альбо ад зямлі «чыстага праваслаўя»? Зразумела, што версія — гэта яшчэ не сцвярджэнне абсалютнай ісціны і бяспрэчнага гістарычнага факта, але ж і яна павінна быць абаснавана. У даным жа выпадку гаворка вядзецца пра асноўны аспект беларускай гісторыі, пра яе вытокі. З гэтага і павінны нашы дзеці вывучаць мінулае сваёй краіны. Таму публікацыя такога матэрыялу ў маладзёжным часопісе, адрасаваным і школьнай моладзі, мае выключнае значэнне, адыгрывае ролю вучэбнага матэрыялу па гісторыі. Разыходжанні ў інтэрпрэтацыі гістарычных падзей і фактаў, дыскусійныя прапановы розных версій на гэту тэму тут недапушчальны. Патрэбен строгі і аб'ектыўны падыход да гісторыі, да ўсіх гістарычных падзей, пачынаючы ад яе вытокаў.**

**В. ХІЛІМОНАЎ,**
**ветэран вайны і працы.**
г. п. Мір.

●

Лічу вельмі правільнай думку аб арганізацыі таварыства «Асвета» ці «Беларуская школа» («ЛіМ» за 26.02 і 22.04.88 г.), але думаю, што трэба пашырыць сферу дзейнасці такой грамадскай арганізацыі. Нядаўна «Литературная газета» паведаміла аб арганізацыі ў Грузінскай ССР таварыства імя Руставелі, задача якога — захаванне грузінскай мовы і культуры. Думаю, што Беларусі такое таварыства патрэбна не менш. Яно магло б насіць імя Ф. Скарыны, М. Багдановіча, а, магчыма, У. Караткевіча. Галоўныя яго задачы — захаванне мовы, нацыянальных звычаяў, выхаванне любові да зямлі продкаў. Відаць, тут трэба ўлічыць вопыт беларускага культурнага таварыства на Беласточчыне, даваенных нацыянальна-культурных таварыстваў беларусаў у Літве і Латвіі. Ініцыятарамі стварэння таварыства змаглі б выступіць Саюз пісьменнікаў, Беларускі фонд культуры, АН БССР.

Хацелася б, каб у рабоце таварыства маглі прымаць удзел не толькі жыхары БССР. У мясцінах, дзе жыве шмат беларусаў, можна было б арганізаваць на асновах самаакупляльнасці курсы беларускай мовы. Між іншым, не перашкодзілі б яны і ў Мінску, іншых гарадах рэспублікі.

Дарэчы, у Маскве пры падтрымцы пастаяннага прадстаўніцтва СМ УССР створана нядаўна таварыства ўкраінскай культуры «Славуціч».

Горка чытаць словы т. Леўшанкова («ЛіМ» за 29.04.88 г.), што беларусы могуць быць першымі каля рысы, за якой народ знікае. Але трэба чэсна сабе прызнацца, што крочыць да яе засталося нядоўга. Час спыніцца.

І яшчэ адно. Як вядома, з 1989 г. пачынаецца выпуск бібліятэкі «Скарбы сусветнай літаратуры». Думаю, не памылюся, калі скажу, што па крайняй меры адзін з трох першых тамоў — том Т. Шаўчэнкі — асядзе надоўга на паліцах кнігарань. Вельмі не хацелася б, каб добрая ідэя была загублена. Раскупяцца толькі тыя кнігі, якія карыстаюцца павышаным попытам, а канкурыраваць з выданнямі на рускай мове, якіх хапае, — справа безнадзейная.

Газета «Книжное обозрение» рэгулярна праводзіць апытанні «Што выдаваць», раячы выбраць найбольш цікавыя назвы з прапанаванага спісу кніг. Гэтак жа трэба было б зрабіць і з праспектам «ССЛ», пакуль яшчэ не позна. Думаю, «ЛіМ» змог бы адвесці месца для такой анкеты. Кнігі павінны выдавацца для чытача, а не для складскіх паліц.

**С. ПАПОЎ,**
**выкладчык.**
г. Масква.

●

Чытаючы беларуска- і рускамоўную прэсу нашай рэспублікі, я назіраю такую з'яву. У той час, як «ЛіМ» досыць часта друкуе злабадзённыя артыкулы літаратараў, гісторыкаў аб культурна-моўнай сітуацыі, што склалася ў Беларусі, на старонках «Советской Белоруссии», «Знамени юности» не стрэнеш аніводнай згадкі ўвогуле пра тое, што такая праблема існуе. Калі ў «ЛіМе» раз-пораз з'яўляюцца досыць аб'ектыўныя асвятленні дзейнасці патрыятычных згуртаванняў, накшталт «Талакі», «Узгор'я», «Паходні», «Сябрыны-Краю» і інш., то адпаведныя нататкі ў рускамоўнай прэсе часцяком альбо належаць некампетэнтным аўтарам, альбо з'яўляюцца проста фальсіфікацыямі.

«...В настоящее время проблема внимательно изучается...», «...наметились положительные сдвиги...», «...в то же время есть куда более важные проблемы...», «...так называемая языковая ситуация в Белоруссии — проблема надуманная...» — перачытваю я адказы на свае лісты ў «Знамя юности». Быццам размова ідзе не пра ўратаванне культуры цэлага народа, а пра нейкую змову, крамолу, сэнс якой мне, цёмнай, не дадзена зразумець. А вось журналісты рускамоўных выданняў не губляюць палітычнай пільнасці і «арыентуюцца» ў сітуацыі.

**В. СЛАБІНА,**
**настаўніца біялогіі і хіміі.**
в. Рудня,
Гарадоцкі раён.

## ПАЭЗІЯ

**Сяргей ПАНІЗНІК**



### «87»

Усё мяняецца ў прыродзе.
Прыродзе верны і народ.
А што змянілася ў народзе
за Восемдзесят Сёмы год?
На пераэмены, на падмены
былі багатымі гады.
А што зрабіў для Перамены
ну хоць бы я, ну хоць бы ты?
Што памянялася ў настроях,
ці разагнуліся на міг?
Мо змена ўся — дзяльба на трое,
замест разліву на дваіх?
. . . . . . . . . . .
Бярог мой бацька «на насёны»
надзею спелых каласоў.
Няхай жа верне Трыццаць Сёмы
пакутны вырай галасоў.
Няхай жа верне Сорак Першы
бязмернасць прыгранічных страт...
Імёны верных, мужных, лепшых —
на справядлівасці парад!
Калі Радзіма ўсе мільёны
барацьбітоў збярэ на сход, —
разгушкае густыя кроны
і Восемдзесят Смелы год.
. . . . . . . . . . .
Рэвалюцыйныя памкненні —
апора нашай грамады,
што будуць Чэснымі гады:
ў Семнаццатым адкрыў іх Ленін.
Усё мяняецца ў прыродзе:
ад кропелькі — усё падрад...
Які народ — такі урад.
Народу? Рад. Ураду рад.
Жыццё з ідэямі у згодзе —
уся краіна у паходзе.
. . . . . . . . . . .
І восемдзесят восьмы пот
сцірае
Перабудовы год.

### Бульбус

Глядзела жмудзь,
глядзелі прусы:
знайшоўшы Нёмана рыгво,
выток шукалі беларусы.
Знайшлі. Аселі.
Харастве!
Расклалі бульбашы начынне —
і ахнулі па той прычыне,
што ў іх укралі па дарозе.
таемны бульбус.*
У трывозе
майстры шытва,
майстры злітва
жавалі рэдзьку, рэпу, моркву...
Як продак мой зямлю не поркаў,
а бульбы вёсачка Літва
не мела:
яблыкі зямныя
хавалі дзесьці людзі злыя.
І высціг вестачку прынёс:
за акіянам бульбус рос.
Калумб яго нам і прывёз.
О, елі бульбу ад душы
русіны, ляхі, латышы...
І хто тады ліцьвінам стаўся,
таксама бульбай наядаўся.
Забагацелі бульбашы!
Браў бульбус
штурмам
кірмашы:
свет накарміў,
залез і ў брагу,
каб наталіць людскую смагу.
А бульбашы-гаспадары?
Яны прыціхлі да пары.
Бывае, той-сёй і згадае
пра бульбашоў, калі іх лае,
або захоча беларуса
прывабіць да свайго хаўруса.
Там, дзе славянская хаціна, —
замардаваная лаціна.
Але ёсць козыр незнішчальны,
як помнік вечна-велічальны:
свяшчэнны бульбус бульбашоў.
Наш корань ад яго пайшоў!
Ці сала купім, ці салату —
не будзе яблыкам разладу:
без форсу бульбус і без фарсу,
прыдатным стане ён і Марсу.
Харошы друг для ўсіх зямлян,
ён добра помніць, як абедалі
яцвягі, прусы і літва...
Глядзіць наш плод з энцыклапедыі —
і кругам ходзіць галава.

* (бульбус) (лац.) — яблык.

### Сведкі

Ды ўпаў жа камарычак з высакосці,
Ды пабіў жа, ды пацёр жа свае косці.

Камарыныя косці
прыхаваныя лісцем.
Камарыныя госці
па Сібіру таўкліся.

Шлях з цэнтральнага пульта
вызначалі аслізна.
Потым гэта ўсё культам
назавецца прыблізна.

Камарыныя госці —
нібы рэкруты д'ябла
сёння ўсё яшчэ просяць
забароненых яблык.

Будзем Ісціну ведаць?
Плод Пазнання акрэслім?
Колькі ёсць яшчэ сведак
самых дзікіх рэпрэсій.

Камарыныя госці...
Кожны — помнік маўчанню.
Колькі ж праведнай злосці
вы паелі начамі.

Гэта ж колькі вы здзекаў
прынялі, пагасілі.
Колькі велічных зэкаў
ў безмагільным насіллі...

Камарыныя госці,
ваша слава — на шалі.
Толькі праўда ўскалосіць
паўпустыя скрыжалі.

Не з касмічнай жа цвілі,
не з варожых Галактык
прыляцеў Джугашвілі —
смертаноснейшы тактык?

Дзе з'явіўся насільнік
і даносчык-суцяга —
з-пад заморскае сіні?
Не, з-пад роднага сцяга.

Камарыныя госці
справядлівасць дагоняць:
вінаватага хвосцік
вунь тырчыць і сягоння.

Толькі Праўда — заслона.
Толькі сэрца — граніца,
што пачварнаму, злому
зноў пад сцяг — не прабіцца!

## ПА СЛЯДАХ ВЫСТУПЛЕННЯЎ «ЛіМа»

### «БЫЎ НА ВУЛІЦЫ ГЕРЦЭНА ДОМ...»

Агляд чытацкай пошты пад такім загалоўкам («ЛіМ», 22 студзеня г. г.) разгледжаны ГалоўАПУ пры Мінскім гарвыканкоме. Наменік галоўнага архітэктара горада паведаміў у рэдакцыю, што работы па дэмантажы канструкцый будынкаў у квартале Музычнага завулка і вуліц Гандлёвай і Герцэна (у тым ліку і дом № 2, пра знос якога пісалі чытачы) сапраўды былі выкананы з адступленнямі ад устаноўленага парадку, рэгламентаванага «Інструкцыяй аб парадку ўліку, забеспячэння захавання, утрымання, выкарыстання і рэканструкцыі нерухомых помнікаў гісторыі і культуры». «Гэта стала вынікам таго, — піша тав. А. І. Грэчын, — што на ўсіх этапах не ўлічвалася асаблівая архітэктурна-гістарычная каштоўнасць забудовы Верхняга горада, і работы вяліся па аналогіі з рэканструкцыяй Траецкага прадмесця, у тым парадку, які ўстаноўлены для капітальнага рамонту будынкаў. Каб выключыць падобныя парушэнні ў будучым і карэнным чынам палепшыць рэстаўрацыю і рэканструкцыю аб'ектаў гістарычнай забудовы горада Мінска, неабходна зацвердзіць адзіны аўтарскі калектыў, які будзе несці адказнасць за якасць і гістарычную дакладнасць праектных рашэнняў, а таксама паскорыць стварэнне дырэкцыі па рэгенерацыі гістарычнай забудовы».

Зараз такія захады зроблены. Прынята рашэнне аб кансервацыі адселеных і часткова дэманціраваных будынкаў Верхняга горада, аб стварэнні адзінай дырэкцыі, зацверджаны адзіны аўтарскі калектыў. Кіраўнікам арганізацый, якія мелі дачыненне да парушэння ўстаноўленага парадку пры дэмантажы дома № 2 па вуліцы Герцэна, даручана прыцягнуць вінаватых да адказнасці.

Адгукнуўся на публікацыю і Мінскі гарадскі савет Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры. Выконваючы абавязкі старшыні прэзідыума савета В. Ф. Кішэня паведаміў, што пытанне аб разбурэнні дома па вуліцы Герцэна было разгледжана на пасяджэнні архітэктурнай секцыі пры Мінскім гарадскім савеце таварыства яшчэ летась. На пасяджэнні каардынацыйнага савета па рэканструкцыі гістарычнай часткі г. Мінска 3 лютага г. г. кіраўніцтву ГалоўАПУ, Цэнтральнага райвыканкома, ВА «Белрэстаўрацыя», інстытута «Белжылпраект», ВА «Мінскпрамбуд» было прапанавана прыняць меры дысцыплінарнага ўздзеяння да асоб, якія мелі дачыненне да разбурэння дома. Матэрыялы аб зносе дома былі накіраваны ў пракуратуру г. Мінска. Аднак, як паведаміў В. Кішэня, пракуратура не знайшла чамусьці падстаў для ўзбуджэння крымінальнай справы.

Апошняя акалічнасць засмучае. Зноў, каторы ўжо раз, вінаватыя не пакараны. Атрымліваецца, што іх проста няма. Ці не ў гэтай беспакаранасці найпершая прычына таго, што многія нашы помнікі гісторыі і культуры знаходзяцца ў заняпадзе, што дзесяткі іх незваротна гінуць? Час, даўно час ужо і, як кажуць, уладу ўжыць.

### «ЯК АСВОЙВАЮЦЬ ЛОШЫЦУ»

Такі ліст змясціў у «ЛіМе» 4 сакавіка г. г. галоўны архітэктар «Мінскпраекта» М. Жлоба. У ім наш чытач з вялікім душэўным болем пісаў аб тым, як на тэрыторыі, адведзенай пад стварэнне парку ў раёне праспекта газеты «Правда», праводзіліся бескантрольныя земляныя работы, нявечыўся і забруджваўся першапачатковы ландшафт.

Ліст быў разгледжаны ў ГалоўАПУ Мінгарвыканкома. Галоўны ландшафтны архітэктар горада В. В. Крывашэеў паведаміў у рэдакцыю, што вінаваты ў такой, шчыра скажам, злачыннай дзейнасці будаўнічыя арганізацыі, падведамасныя камбінату «Мінскбуд», якія ігнаруюць заканадаўства і ўстаноўлены парадак вядзення будаўнічых работ у горадзе.

«ГалоўАПУ, — піша тав. Крывашэеў, — зрабіла шэраг захадаў для неадкладнага спынення ўсялякіх работ на тэрыторыі будучага парку, уключаючы вусныя звароты да кіраўніцтва адказных арганізацый, падрыхтоўку прадпісанняў на адрас Мінскага вытворчага аб'яднання індустрыяльнага домабудаўніцтва, аддзела па кантролі за правядзеннем раскопак Мінгарвыканкома, Маскоўскага райвыканкома (ад 4.03.88 г.).

У сваю чаргу аддзелам па кантролі за правядзеннем раскопак падрыхтаваны прадпісанні на адрас УМБР-154 і МВАІДа, у якіх вызначаны меры і тэрміны аднаўлення першапачатковага рэльефа, расліннага грунту, ліквідацыі звалак (ад 16.03.88 г.)».

Усё гэта нібыта добра — захады, прадпісанні, вусныя звароты і г. д. Аднак — ці дзейсныя яны, гэтыя меры? Людзі «ігнаруюць заканадаўства і ўстаноўлены парадак вядзення будаўнічых работ», а іх зноў і зноў угаворваць «вуснымі зваротамі» і «прадпісаннямі»? Нам здаецца, іх проста трэба раз і назаўсёды абавязаць выконваць гэтае самае заканадаўства.

І таму нам падаўся больш дзелавым водгук на лімаўскую публікацыю старшыні Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па ахове прыроды В. А. Казлова. У ягоным лісце ў рэдакцыю паведамляецца: за парушэнне водаахоўнага рэжыму на водазаборы рэчкі Лошыцы на начальніка ўчастка УМБР-154 А. Бохана накладзены штраф у памеры 100 рублёў; на такую ж суму аштрафаваны і галоўны інжынер УМБР-191 трэста № 35 камбіната «Мінскбуд».

Завяршае сваё паведамленне аб прынятых мерах па нашай публікацыі тав. Казлоў наступнымі словамі: «У сувязі з тым, што парушэнні паўтараюцца рознымі арганізацыямі Мінбуда БССР, міністру накіравана пісьмо з патрабаваннем навесці парадак у падведамасных арганізацыях і ліквідаваць парушэнні. Адпаведнае пісьмо накіравана выканкому Мінскага райсавета народных дэпутатаў».

### «ХОПІЦЬ»

Пісьменнік Анатоль Казловіч у дапісе з такою, шчыра скажам, трывожнаю і недвухсэнсоўнаю назваю расказаў пра адзін канкрэтны выпадак меліяратарскай «стараннасці» («ЛіМ», 15 красавіка г. г.).

Адказ на публікацыю рэдакцыя атрымала з Дзяржаўнага камітэта БССР па ахове прыроды. Піша старшыня камітэта тав. Казлоў В. А. «Устаноўлена, што ў цяперашні час інстытутам «Саюздзіпрамеліявадгас» пачаты праектна-пошукавыя работы па рэканструкцыі асушанага ў 60-я гады меліярацыйнага аб'екта.

Улічваючы, што перадпраектныя рашэнні па гэтым аб'екце не абмяркоўваліся з мясцовым насельніцтвам, абласная інспекцыя па ахове прыроды прапанавала праектнаму інстытуту і саўгасу «Прамень» Капыльскага раёна прыпыніць работы да высвятлення адносін з насельніцтвам. У гэтай сувязі Салігорскай дырэкцыяй па будаўніцтве меліярацыйных аб'ектаў гэты аб'ект выключаны з плана праектна-пошукавых работ на 1988 год».

### «КОЛІШНІ ВІЛЕНСКІ — ЗБЕРАГЧЫ»

1 красавіка ў «ЛіМе» быў змешчаны ліст В. Касмылёва, у якім чытач, гаворачы пра рэканструкцыю Мінскага чыгуначнага вакзала, ставіў пытанне аб неабходнасці зберагчы, надаўшы яму першапачатковы выгляд, стары вакзальны будынак — колішні Віленскі вакзал Мінска, своеасаблівы гістарычны помнік, сведку многіх важных рэвалюцыйных і культурных падзей. Чытач ставіў гэтае пытанне невыпадкова. Справа ў тым, што ў друку неаднаразова паведамлялася: у выніку рэканструкцыі будынак старога вакзала будзе знесены.

На гэты чытацкі ліст рэдакцыя атрымала адказ з ГалоўАПУ Мінгарвыканкома за подпісам намесніка галоўнага архітэктара горада В. Д. Нікіціна. Вось ён: «Зараз вядзецца будаўніцтва 1-ай чаргі рэканструкцыі Мінскага чыгуначнага вакзала. 1-ая чарга не закранае і не мяняе існуючых будынкаў. Зацверджанага праекта 2-ой чаргі рэканструкцыі, дзе прадугледжвалася б сувязь існуючых будынкаў з новабудоўлямі, няма. Далейшую распрацоўку праекта чыгуначнага вакзала мяркуецца шырока абмеркаваць з грамадскасцю».

Што ж, дзякуй, як кажуць, і за гэта. Такая перспектыва дае хоць нейкае спадзяванне на тое, што адзін з нямногіх ацалелых помнікаў архітэктуры тысячагадовага Мінска будзе захаваны для нашчадкаў.

### «ПАМЫЛКІ ТРЭБА ВЫПРАЎЛЯЦЬ»

Пра якія памылкі ішла гаворка ў лісце старшага навуковага супрацоўніка Дзяржаўнага музея БССР А. Пятровіча, змешчаным у «ЛіМе» за 4 сакавіка сёлетняга года? Пра недакладныя і непрадуманыя найменні, нададзеныя некаторым вуліцам г. Мінска. Адказ на публікацыю, атрыманы ўсё з таго ж ГалоўАПУ Мінгарвыканкома, падпісаны намеснікам начальніка В. П. Іўлічавым. Адказ, шчыра скажам, досыць фармальны. Добра, што пытаннямі найменавання ці перайменавання вуліц горада цяпер займаецца спецыяльная і аўтарытэтная гарадская камісія, што паасобным вуліцам Мінска летась вернуты іхнія старыя, даўнія назвы (хоць, калі быць праўдзівымі да канца, дык не вуліцам, а адрэзкам вуліц: Старажоўскай, Лагойскаму тракту, Даўгінаўскаму тракту, Даўгабродскай вуліцы і г. д.). Аднак жа гаворка ў лісце ішла не толькі пра гэта. Наш чытач пісаў, скажам, пра адсутнасць логікі ў тым, што вуліцы маюць тую ці іншую назву, што найменні надаюцца ім часта выпадкова, а то і бяздумна. Тав. Іўлічаў тут з нашым чытачом не пагадзіўся (наконт вуліц Талстога і Зм. Бядулі, Бранявога завулка, вуліц Пінскай, Сонечнай і г. д.), хоць нам здавалася, што тав. Пятровіч усё ж меў падставы для сваіх сумненняў. Сапраўды, чаму вуліца носіць імя Зм. Бядулі? Пісьменнік на ёй ніколі не жыў. А між тым, вуліца, на якой да апошняга часу стаяла хата Зм. Бядулі, носіць імя Талстога. Вуліца, на якой нарадзіўся М. Багдановіч, зноў жа, названа не

(Заканчэнне на стар. 13).

 

## КНІГАПІС




СУЗОР'Е. Вершы. Пераклады. Успаміны. Публікацыі. Нататкі. «Советский писатель». Ленінградскае аддзяленне. 1988.

**Нядаўна ў Ленінградскім аддзяленні выдавецтва «Советский писатель» убачыла свет кніга пад назвай «Сузор'е». У яе ўвайшлі вершы, пераклады, успаміны, публікацыі, нататкі майстроў слова, імёны якіх вядомы ўсёй краіне, і маладых аўтараў, каго яшчэ шырокі чытач ведае менш. Ленінградскія літаратары маюць шырокае творчае супрацоўніцтва з паэтамі ўсіх пятнаццаці рэспублік Краіны Саветаў.**

**Зборнік склалі раздзелы: «Я твой паэт, рэвалюцыя!», «Спяваю Айчыну!», «За шчасце зямлі», «Сэрца маці», «Адной сям'ёй», «Якая цудоўная ты, Поўнач мая!», «Пад мірным небам», «Памяць вогненных гадоў», «Першапраходцы», «Беражыце кожны колас!» і «Знак дружбы і любові».**

**Чытач знойдзе тут вершы К. Куліева, Р. Гамзатава, І. Абашыдзе, Г. Эміна, Я. Ругоева, У. Бээкмана, Э. Межэлайціса і іншых у перакладах М. Дудзіна, А. Кушнера, А. Чапурова, М. Барысавай, В. Шэфнера і А. Цакунова.**

**У зборнік увайшлі і вершы беларускіх паэтаў — Я. Коласа, П. Глебкі, М. Танка, У. Дубоўкі, П. Панчанкі, А. Пысіна, С. Грахоўскага, А. Русецкага, Э. Агняцвет, Р. Барадуліна, А. Вялюгіна, А. Вярцінскага, Г. Бураўкіна, Н. Гілевіча, В. Іпатавай, А. Лойкі, В. Шніпа.**




С. ШУШКЕВІЧ. Сонца над маім асеннім садам. Вершы. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1987.

**Чарговая кніга паэзіі Станіслава Шушкевіча — споведзь аўтара аб пройдзеных шляхах-дарогах, шчырае слова аб людзях, з якімі яму давялося сустракацца, усхваляваны маналог аб любві да Бацькаўшчыны. Лірычны герой С. Шушкевіча — наш сучаснік, якога не толькі не зламалі віхуры лёсу, але і загартавалі яго, надалі моцы і сілы.**

**Асобны раздзел зборніка — «Адных — крапівою, другіх — мятаю» — складаецца з гумарыстычных і сатырычных твораў, у тым ліку і з пародый.**




А. БАЖКО. Выбраныя творы. Паэмы. Вершы. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1987.

**Алесь Бажко з поспехам выступае і ў прозе, і ў паэзіі. У аднатомнік увайшлі яго лепшыя паэтычныя творы. Сярод іх паэмы «Татры», «Карвіга пакідае хутар», «Блакітныя вербы», «Споведзь», вершаваная аповесць «Лясныя крушні», а таксама шматлікія вершы.**

## КРЫТЫКА, БІБЛІЯГРАФІЯ

# У ПРАСТОРЫ І Ў ЧАСЕ

**Галіна ТЫЧКА**

ЛЕТАСЬ у выдавецтве «Народная асвета» выйшла кніга Дзмітрыя Бугаёва «Васіль Быкаў. Нарыс жыцця і творчасці». Гэта не першае манаграфічнае даследаванне, прысвечанае творчасці народнага пісьменніка Беларусі. У 1976 годзе выдавецтва «Мастацкая літаратура» выпусціла ў свет манаграфію В. Бурана, у 1979 «Художественная литература» выдае кнігу Л. Лазарава, а ў 1980 «Советский писатель» — даследаванне І. Дзядкова. Ёсць яшчэ працы вядомых савецкіх крытыкаў і літаратуразнаўцаў (сярод іх А. Адамовіч, А. Бачароў, В. Каваленка, А. Кандратовіч, Я. Лецка), прысвечаныя паасобным творам ці пэўным этапам творчасці пісьменніка.

Кніга Д. Бугаёва сярод гэтых навуковых прац і даследаванняў займае асобнае месца: яна прызначана вучням сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту. І гэта ў многім вызначае спецыфіку і вартасць выдання. У сярэдняй школе творчасці В. Быкава па праграме адводзіцца, думаецца, усё ж недастаткова часу. У сёмым класе 4 гадзіны даецца на вывучэнне ранняй аповесці «Жураўліны крык», у дзесятым класе у праграму ўключаны «Сотнікаў» і «Абеліск», але гэтыя творы ўваходзяць у раздзел «Сучасная літаратура», на які адводзіцца ўсяго 9 гадзін, а ахоплівае гэты раздзел 24 творы сучаснай беларускай літаратуры.

Праўда, творы В. Быкава ёсць яшчэ ў спісах для пазакласнага чытання. Аднак па-за межамі школьнай праграмы застаецца аповесць «Знак бяды» — адна з вяршынь не толькі быкаўскай творчасці, але і ўсёй сучаснай беларускай літаратуры, і многія іншыя творы пісьменніка. Наўрад ці змогуць мець яснае ўяўленне са школьнай праграмы вучні і выпускнікі сярэдняй школы і аб складаных філасофска-маральных пошуках пісьменніка, аб месцы і значэнні быкаўскіх твораў у сучаснай савецкай літаратуры. Усе гэтыя пралікі і недахопы сучаснай школьнай праграмы і павінна ў нейкай ступені выправіць кніга Д. Бугаёва.

Арыентацыя на ўспрыманне школьніка асабліва адчуваецца ў першых раздзелах манаграфіі, дзе расказваецца пра шлях у літаратуру і творчыя пазіцыі пісьменніка. Стрымана і лаканічна распавядае крытык пра дзяцінства В. Быкава, яго нялёгкі ваенны шлях, пра ўмовы і абставіны, у якіх фарміраваўся і мужнеў характар і светапогляд будучага творцы. Д. Бугаёў вылучае на першы план тыя моманты ў біяграфіі пісьменніка, якія ў ранейшых даследаваннях закраналіся мала ці абміналіся зусім. Так, даследчык расказвае пра дзіцячыя і юнацкія захапленні В. Быкава мастацкай літаратурай. Імёны пісьменнікаў, назвы твораў беларускай, рускай, замежных літаратур, якія аказалі ўплыў на фарміраванне светапогляду і творчасць В. Быкава, Д. Бугаёў прыводзіць, зыходзячы з выказванняў самога пісьменніка.

Творчасць В. Быкава крытык разглядае ў храналагічным парадку, і гэта дазваляе лепш падаць яе як цэласную сістэму. Даследчык паказвае, як многія сітуацыі пераносяцца аўтарам з аднаго твора ў другі, каб канкрэтызаваць тую ці іншую думку, лепш выявіць праблему, якая хвалюе пісьменніка. Так, Д. Бугаёў заўважае, што пісьменніка даўно хвалявала тэма палону, бо В. Быкаў, як піша даследчык, «заўсёды востра рэагаваў на трагедыйныя праявы вайны. А ў лёсе палонных гэтая трагедыйнасць сканцэнтравалася наймацней». На думку Д. Бугаёва, так ці інакш гэтая тэма закранапася ў «Жураўліным крыку», «Здрадзе», «Пастцы», «Мёртвым не баліць», «Праклятай вышыні», але з найбольшай паўнатой выявілася ў аповесці «Альпійская балада». Тое ж самае можна сказаць і пра тэму здрады, якая закранаецца амаль ва ўсіх ранніх творах пісьменніка, але найярчэй увасобілася ў «Сотнікаве». Вобраз Рыбака, з якім звязаны асноўны матыў здрады, выклікаў асаблівыя розначытанні ў крытыцы. Насуперак меркаванням некаторых даследчыкаў, якія сцвярджалі, што ўся бяда ў «малой адукаванасці і слабай начытанасці» Рыбака, Д. Бугаёў выказвае думку, што «аўтар звязвае здраду з зніжанасцю маральна-этычных уяўленняў Рыбака, з недастатковай развітасцю яго духоўнага свету, які вызначаецца не толькі і, можа, не столькі ўзроўнем адукаванасці, колькі ўсім жыццёвым вопытам чалавека, яго светапоглядам, яго ідэйнымі перакананнямі, грамадзянскай сталасцю ці нясталасцю». І што цікава, гэтую ж думку, толькі трошкі ў іншым ракурсе, выказаў нядаўна і Ю. Сахракоў, які адзначыў, што ў аснове духоўнага падзення героя ў творах В. Быкава апошніх гадоў «далёка не заўсёды жывёльны страх, адчай, прага выжыць любой цаной, але і непахісная ўпэўненасць у сваёй інтэлектуальнай перавазе» («Наш современник», 1987, № 12).

Не толькі «Сотнікаў», але і іншыя аповесці В. Быкава маюць розначытанні ў крытыцы. Да прыкладу, тыя ж «Круглянскі мост» і «Мёртвым не баліць». Аналізуючы гэтыя творы, Д. Бугаёў слушна і пераканаўча аспрэчвае многія несправядлівыя ці памылковыя іх ацэнкі. І ў той жа час крытык часта і да месца спасылаецца на цікавыя выказванні даследчыкаў быкаўскай творчасці. Па-за ўвагай Д. Бугаёва не засталіся і вялікія манаграфіі, і шматлікія газетныя публікацыі, і водгукі чытачоў і крытыкаў на той або іншы твор пісьменніка. Арганічная сістэма быкаўскіх твораў у даследаванні Д. Бугаёва да таго ж паўстае ў кантэксце дасягненняў савецкай, і ў першую чаргу сучаснай беларускай літаратур.

Даследаванне Д. Бугаёва з цікавасцю прачытаюць не толькі вучні сярэдняй школы. Будзе карыснай гэтая кніга і для настаўнікаў роднай мовы і літаратуры. І менавіта таму ў кнізе, думаецца, варта было б больш увагі надаць тым быкаўскім творам, якія не ўвайшлі ў школьную праграму. І ў першую чаргу, несумненна, аповесці «Знак бяды». У параўнанні з грунтоўным аналізам аповесці «Сотнікаў», пра якую, дарэчы, добра і адносна нямала напісана ў школьным падручніку, аповесці «Знак бяды» ў кнізе Д. Бугаёва пашанцавала менш.

Не на карысць даследаванню і тое, што некаторыя слушныя меркаванні і выказванні крытыкаў, якія пісалі пра гэтую аповесць, Д. Бугаёў не ўлічыў і не прызнаў. Так сталася ў першую чаргу з артыкулам Я. Лецкі («Пярэдадзень эпапеі», «ЛіМ», 30.11.1984), многія палажэнні якога засталіся па-за ўвагай даследчыка, многія ж былі проста аспрэчаны. І, думаецца, не заўсёды пераканаўча. Ці так ужо памыляўся Я. Лецка, як здаецца Д. Бугаёву, калі сцвярджаў, што да «Знака бяды» ў В. Быкава не было такога «цэласнага і арганічнага народнага характару». У супрацьвагу гэтаму меркаванню Я. Лецкі Д. Бугаёў, абапіраючыся на аўтарытэт П. Панчанкі, прыводзіць «унушальную шарэнгу» быкаўскіх герояў, якія — «наш народ» і «глыбокія народныя характары». Вядома, ніхто не стане адмаўляць у прыналежнасці да беларускага народа ўсім тым героям В. Быкава, але, думаецца, Я. Лецка нездарма акцэнтаваў увагу на «цэласнасці і арганічнасці» гэтага характару менавіта ў аповесці «Знак бяды». Бо якраз тут з'яўляецца ў В. Быкава, паводле выказвання Я. Лецкі, «эпічнае асэнсаванне лёсу народа на скрыжаваннях гістарычнага быцця», якое дасягаецца «стыкоўкай калектывізацыі з вайной». Глыбокі антываенны пафас, якому Д. Бугаёў аддаў перавагу пры аналізе гэтага твора, не можа стаць вызначальнай рысай аповесці, бо гэта ўвогуле характэрная асаблівасць усёй быкаўскай творчасці. І да таго ж найярчэй яна праявілася якраз не ў «Знаку бяды», а ў «Кар'еры», дзе, як пісаў у рэцэнзіі на гэтую аповесць В. Жыбуль, «героі жывуць у свеце не менш перадваенным, чым пасляваенным».

Менавіта калектывізацыя, пад выглядам якой «праводзіўся генацыд, знішчалася і ўтоптвалася ў гразь гістарычная спадчына народа» (В. Распуцін), і Вялікая Айчынная вайна, калі гэты прыніжаны, абражаны ў сваіх лепшых пачуццях народ падняўся на абарону бацькаўшчыны, і ствараюць тое сілавое поле, той жыццёвы матэрыял, які ўжо сам пачынае дыктаваць пісьменніку і выбар цэнтральных герояў (пагадзіцеся, не вельмі ўжо звыклых для В. Быкава), і сістэму вобразна-выяўленчых сродкаў, і натуральны лад мовы, дзе выразна адчуваецца ўплыў паўночна-ўсходняга дыялекту. (Праўда, не ў яго сённяшнім скалечаным стане).

Увогуле, у кнізе Д. Бугаёва, у яго развагах пра той ці іншы твор пісьменніка, у яго ацэнках быкаўскіх герояў нязменна адчуваецца прысутнасць аўтара, самога В. Быкава. Даследчык удала выкарыстоўвае цытаты з публіцыстычных выступленняў, інтэрв'ю, мастацкіх твораў пісьменніка, каб пацвердзіць тую ці іншую сваю высновў. Гэта вельмі пераканаўча, калі, да прыкладу, аналізуецца мастацкі твор, вызначаюцца адносіны пісьменніка да жыцця і рэчаіснасці. Але, думаецца, у той жа час гэты прыём бывае і небяспечным, бо пісьменнік, як і кожны чалавек, можа быць суб'ектыўным, можа памыляцца. Тым больш, што і сам В. Быкаў, здаецца, не прэтэндуе на ісціну ў апошняй інстанцыі. І калі, напрыклад, І. Дзядкоў у сваёй манаграфіі аспрэчвае тэарэтычныя погляды В. Быкава на суадносіны формы і зместу ў мастацтве, аўтарытэт народнага пісьменніка ў вачах чытачоў ад гэтага не змяншаецца. Больш таго, воблік празаіка паўстае ў канкрэтных абрысах свайго часу і яго складаных праблем жывым і чалавечным, а не забранзавелым помнікам, догмай.

Сёння многія паўтараюць выказванне У. І. Леніна аб тым, што найлепшы спосаб забіць палітычнага дзеяча — ператварыць яго ў абраз. Думаецца, што і з вялікіх пісьменнікаў не варта рабіць абразы. Гэта не на карысць ні творцам, ні літаратуры.

У СВАІМ даследаванні Д. Бугаеў не абмінае публіцыстыку В. Быкава. У прыватнасці, даследчык аналізуе кнігу «Праўдай адзінай» (1984 г.), куды часткова ўвайшлі быкаўскія артыкулы, выступленні, інтэрв'ю. Асаблівая ўвага ў даследаванні Д. Бугаёва ўдзелена выступленню В. Быкава на VIII з'ездзе пісьменнікаў Беларусі, дзе выказвалася думка пра «важнасць для нацыі адзінай літаратурнай мовы, якую мы павінны ўсямерна шанаваць, берагчы, вельмі ашчадна развіваць і ўдасканальваць у рамках разумнае моўнае практыкі, а не гвалціць яе канцылярызмамі, не разносіць па рэгіянальных і хутаранскіх дыялектных закутках, ператвараючы ў моўны кангламерат, даступны хіба літаратурным снобам і малазразумелы народу». У сваёй кнізе Д. Бугаёў развівае і падтрымлівае думку В. Быкава, што «злоўжыванне дыялектызмамі вузкамясцовага значэння... вядзе да моўнага правінцыялізму, які аслабляе дзейснасць літаратуры, яе здольнасць актыўна ўплываць на шырокія масы». У якасці прыкладу такога злоўжывання даследчык прыводзіць творы В. Адамчыка і І. Пташнікава. І спасылаецца на выказванне В. Быкава ўсё на тым жа пісьменніцкім з'ездзе аб тым, што такія «правінцыяльныя (рэгіянальныя) тэндэнцыі... разбураюць нацыянальнае адзінства літаратурнай мовы».

Праблема «правінцыяльнай абмежаванасці» і «хутаранскіх закуткаў», думаецца, невыпадкова паўстала менавіта на VIII з'ездзе СП БССР. Водгалас тых перадз'ездаўскіх дыскусій і спрэчак, што распачаліся артыкуламі Г. Далідовіча і Я. Лецкі, надрукаванымі ў «ЛіМе», у многіх літаратурнакрытычных працах адчуваецца да сённяшняга дня. Што ж тады казаць пра выступенні на з'ездзе, выступленні, якія адбываліся па гарачых слядах падзей, у абвостранай дыскусійнай атмасферы, з натуральнымі ў такіх умовах зацятасцю і перабольшваннямі?! Менавіта такое падсвядомае перабольшванне, эмацыянальны перабор і адчуваюцца, на маю думку, у згаданым выступленні В. Быкава.

Праблема літаратурнай мовы і ўзаемаадносін яе з дыялектамі асабліва актуальная сёння, і не толькі для нашай рэспублікі. І, напэўна, выпадковым збегам абставін не растлумачыш той факт, што цікавасць да гэтага пытання асабліва абвастрылася ў 60-я гады, у час так званай «адлігі». І сёння, у часы перабудовы. І гэта заканамерна, бо праблема мае не толькі мовазнаўчы, але і сацыяльны, грамадскі аспект. «Родная мова, псіхалогія і традыцыя — святая тройца, дзякуючы якой іс-

**(Заканчэнне на стар. 6).**



 

# У ПРАСТОРЫ І Ў ЧАСЕ

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 5).

нуе сутнасць сутнасці: аснова асноў і сэнс сэнсу асобы — яе нацыянальная самасвядомасць», — піша ў артыкуле «Дзеля жыцця» («ЛГ», 17.02.1988) выдатны грузінскі пісьменнік Атар Чыладзе. Народ, які не можа стварыць духоўных каштоўнасці,— гіне. Гэтай выснове, бадай, ніхто не стане пярэчыць. Але ж для таго, каб стварыць гэтыя каштоўнасці, недастаткова, як гаворыць той жа А. Чыладзе, «толькі жадання ці таленту, неабходна і адрознае ад усіх светаўспрыманне, самабытны падыход да рэчаіснасці», а дакладней тая самая нацыянальная самасвядомасць, якая і складаецца з адзінства мовы, псіхалогіі і традыцыі. На жаль, у гэтую ісціну не могуць паверыць многія творцы, асабліва ў нашай рэспубліцы, спадзеючыся стварыць шэдэўры мастацтва без апірышча на нацыянальную глебу.

Агульны стан застою, калі ў нашым жыцці, як піша публіцыст А. Нуйкін, з'явілася «нават нешта ў выглядзе навуковых мафій», парушэнні прынцыпаў ленінскай нацыянальнай палітыкі не маглі станоўча паўплываць на развіццё нацыянальнай культуры, і на развіццё мовазнаўства ў прыватнасці. Збліжэнне нацый і зліццё моў, няма чаго хаваць, у нас ахвотна прыспешвалася, бо ў функцыянераў яшчэ з далёкіх часоў калектывізацыі заўсёды існавала спакуслівае жаданне, кажучы словамі аднаго з коласаўскіх герояў, выканаць распараджэнне начальства «больш як на сто працэнтаў».

Ці ж трэба дзівіцца, што наша літаратурная мова аказалася ў такім становішчы, калі ёй цяжка ўплываць на дыялекты, бо для іх развіцця «асноўнае значэнне... маюць «выпраменьванні здалёку» (Sfrohlungen aus der Ferne), якія прыносяць з сабой «культурныя элементы вядучага пласту» (Bildungselemente der fuhrenden Schicht), і якія распаўсюджваюцца з гарадскіх цэнтраў разам з новымі людзьмі, звычаямі, казкамі, песнямі і г. д.», сцвярджае нямецкі лінгвіст А. Бах. (Цытую па кнізе В. Жирмунского «Немецкая диалектология», М.-Л., 1956).

Нашы гарадскія цэнтры, як вядома, у асноўным рускамоўныя. І тыя «культурныя элементы», якія сёння ідуць на перыферыю, з'яўляюцца пераважна лексічнымі запазычаннямі з рускай мовы. Можна згадаць прыклады, якія прыводзіць у артыкуле «Беларускае савецкае мовазнаўства: здабыткі, праблемы, шляхі развіцця» (часопіс «Беларуская мова і літаратура ў школе», № 2, 1988) А. І. Жураўскі — дырэктар Інстытута мовазнаўства імя Я. Коласа АН БССР, член-карэспандэнт АН БССР: **«На воцат вуксус гавораць цяпер», «Кішэнь, а цяпер кажуць карман», «Калісь мужчыны галіліся, цяпер гавораць брыцца»** і г. д.

Вучоныя-дыялектолагі, у прыватнасці А. Крывіцкі («Сучасная беларуская літаратурная мова і народныя гаворкі», Мн., 1961), той факт, што запазычанні з рускай мовы ў беларускіх дыялектных гаворках «замацоўваюцца ў слоўніку, як правіла, толькі са зменнем гукавога складу адпаведна мясцовым асаблівасцям, ...мясцовая лексіка не прыстасоўваецца для назваў прадметаў, з'яў і працэсаў сучаснасці», тлумачыць як тэндэнцыю да занепаду гэтых гаворак.

У такой сітуацыі ці варта бачыць пагрозу адзінству агульнанацыянальнай літаратурнай мовы ў тым, што той альбо іншы пісьменнік ужыве дыялектнае слова, не зафіксаванае ці пададзенае ў слоўніках як абласное?! З кантэксту такое слова заўсёды можна зразумець. А колькі арганічных для мовы, несправядліва забытых слоў вярнулі да жыцця нашы літаратары! Так, напрыклад, У. Дубоўка ў гутарцы з А. Гардзіцкім («Дыялогі», Мн., 1968) успамінаў, што яго прымушалі складаць спецыяльны слоўнік да зборніка «Трысцё» для слоў: **апантаны, водар, імклівасць, строма, трысцё, багавінне, ашчаперыць**, а сёння гэтыя словы трывала ўвайшлі ў агульнанародны ўжытак.

Як можна баяцца сёння пагрозы «дыялектычнага затаплення», калі носьбітаў дыялектаў у нашай літаратуры становіцца з кожным годам усё менш і менш? У. Дамашэвіч так піша пра сённяшніх маладых літаратараў: «Мова, за рэдкім выключэннем, засмечана, часам няма элементарнай пісьменнасці».

Нармалізацыя граматычнага ладу і слоўнікавага складу беларускай літаратурнай мовы — справа неадкладная. І гэта справа — агульнанародная. І асаблівае значэнне тут набывае грамадзянская пазіцыя пісьменніка, яго слова, яго аўтарытэт. Гэта вельмі важна ў нашай моўнай сітуацыі, калі погляды беларускіх мовазнаўцаў не заўсёды вызначаюцца паслядоўнасцю і аб'ектыўнасцю. Варта прыгадаць артыкул М. Бірылы «Роўная сярод роўных». Альбо ўжо згадваны артыкул А. Жураўскага, у якім вучоны спасылаецца на выказванне вядомага рускага мовазнаўцы А. Шахматава: «Дзіўна было б наогул, калі б вучоная ўстанова замест таго, каб паказваць, як гавораць, асмельвалася б вызначаць, як трэба гаварыць». Чым жа растлумачыць тады такое раздражненне ў наступным выказванні самога А. Жураўскага: «У наш час у друкаваных выданнях усё радзей можна сустрэць назоўнікі **напамін, напамінак,** дзеясловы **напомніць, прыпомніць, успомніць,** замест іх больш часта сталі ўжывацца **згадка, згадаць, нагадаць, прыгадаць, узгадаць,** якія ўжо трапляюць і ў слоўнікі, паколькі слоўнікі павінны рэгістраваць усё, што замацоўваецца ў друкаваных выданнях»? Несур'ёзна ў вуснах вучонага гучаць наступныя аргументы: «...для некаторых аўтараў (маюцца на ўвазе ўсе, хто ўжывае словы **згадка, згадаць, выснова, сярэднявечча, нагода, слынны, афіцыйны** і т. п.—**Г. Т.**) аўтарытэт эмігранцкіх выданняў аказваецца вышэйшым, чым меркаванні народнага пісьменніка Беларусі (К. Крапівы. — **Г. Т.**), які да таго ж з'яўляецца рэдактарам усіх (!?) сучасных важнейшых слоўнікаў беларускай літаратурнай мовы». (Перад гэтым А. Жураўскі да ліку важнейшых адносіў і руска-беларускі слоўнік пад рэдакцыяй А. Александровіча).

Аднак, думаецца, што ў вачах гэтых самых аўтараў (большасць з якіх і чуць не чула пра тыя эмігранцкія выданні, з якіх нібыта «запазычвае» гэтую лексіку) аўтарытэт нашых мовазнаўцаў-акадэмікаў быў бы значна вышэйшым, калі б яны прытрымліваліся больш аб'ектыўных і паслядоўных поглядаў. Цяжка зразумець А. Жураўскага, які ў сваім артыкуле з затоеным смуткам гаворыць аб тым, што 30—50-ыя гады «характарызаваліся адноснай устойлівасцю лексічных норм», а ў 60-ыя гады беларуская літаратурная мова «ўступіла ў стадыю дэнармалізацыі, разбурэння традыцыйных, граматычных і лексічных норм». Застаецца згадаць, што гэтая дэнармалізацыя ў беларускай літаратуры пачынаецца з выхаду ў свет «Палескай хронікі» І. Мележа, у якой пісьменнік свядома звярнуўся да дыялектнай лексікі, бо, як пісаў ён пазней у «Жыццёвых клопатах», быў «перакананы, што гэта патрэбна. Людзі ў творах павінны гаварыць так, як у жыцці. Па-зямному, пасапраўднаму».

Разгубіцца чытач і тады, калі на адной старонцы артыкула А. Жураўскага сустрэне ўшчуванні В. Адамчыку, І. Пташнікаву, Г. Далідовічу за празмернае захапленне дыялектызмамі, а на другой — прачытае, што «ўдалай можна лічыць мову персанажаў таго ж рамана Пташнікава «Алімпіяда», дзе героі сапраўды гавораць сучаснай дыялектнай мовай». Няўжо для таго, каб «можна было лічыць удалай» і мову персанажаў гістарычных раманаў В. Адамчыка і Г. Далідовіча, пісьменнікам варта перайсці адно на сучасную дыялектную гаворку? Гаворку, у якой па прызнанню самога А. Жураўскага, «адбываюцца значныя зрухі ў бок збліжэння з рускай мовай», а паводле іншых мовазнаўцаў — тэндэнцыі да занепаду.

Артыкул А. Жураўскага мае самае непасрэднае дачыненне да нашай сярэдняй школы. У нейкай ступені ён успрымаецца як рэкамендацыя для настаўніка роднай мовы. І таму кожная думка, кожная выснова павінны быць максімальна прадуманыя, пазбаўленыя ўсякага суб'ектыўнага, другаснага, прыватнага.

Д. Бугаёў у сваёй кнізе звяртае ўвагу на «быкаўскую бескампраміснасць у адстойванні сваіх перакананняў». Што ж, такая бескампраміснасць не дзіва. Але, напэўна, яшчэ большую грамадзянскую мужнасць трэба мець, каб прызнаць памылковасць сваіх перакананняў. І хочацца верыць, што гэта пад сілу не аднаму В. Быкаву. А пра тое, што погляды самога В. Быкава на гэтае пытанне перажылі пэўную эвалюцыю, сведчыць яго найлепшы, на сённяшні дзень, твор — «Знак бяды», дзе дыялектныя паўночна-ўсходнія «лацно» і «варахоб'е» натуральна ўваходзяць у кантэкст літаратурнай мовы.

І як не было б «Палескай хронікі» І. Мележа, трылогіі В. Адамчыка, рамана І. Пташнікава «Алімпіяда» без выкарыстання дыялектнай стыхіі, не было б без гэтага і аповесці В. Быкава «Знак бяды», іншых твораў нашай літаратуры, глыбоканацыянальных і гэтым цікавых і іншым народам. Бо ўсе гэтыя творы набылі шырокую вядомасць менавіта з-за адлюстравання ў іх бацькаўшчыны «ва ўсім: і ў прасторы, і ў часе, і ў атмасферы сацыяльна-псіхалагічных, этнаграфічна-бытавых, інтымна-эмацыянальных калізій дзеючых асоб, і, зразумела, у асаблівасцях мясцовага маўлення». Так піша М. Абабурка ў кнізе «Развіццё мовы беларускай мастацкай літаратуры» (Мн., 1987.). Як бачыце, гэтае сцвярджэнне належыць таксама вучонаму-мовазнаўцу...

# З глыбіні вякоў

**Л. Дайнека. След ваўкалака. Раман. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1988.**

Прыкмечана не мною: цікавасць беларусаў да сваёй гісторыі няспынна расце. І гэта натуральна. Ужо са школьнай парты чалавек задумваецца, адкуль карані яго, як жылі продкі, якімі шляхамі прыйшлі яны да Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Чым лепей высвятляе чалавек бліжняе поле мінулага, тым больш цікавяць яго дальнія пласты. Пытанне: «Хто мы і адкуль?» спалучаецца з пытаннем: «Хто я і які?»

Задаволіць такую дапытлівасць заклікана гісторыя. Яна ў некаторай ступені адказвае на такія пытанні. Аднак толькі ў некаторай.

Мне, напрыклад, у свой час даводзілася слухаць лекцыі і чытаць падручнікі Л. Абэцэдарскага па гісторыі Беларусі. Шчыра прызнаюся, не шмат прыкметнага і значнага асела ў памяці. Прамільгнула нейкая чарада разрозненых фактаў, падзей, імёнаў, не афарбаваных жывым вобразным словам, не прасякнутых чалавечымі пачуццямі. Далёкімі, чужымі, шэрымі здаваліся мне мае продкі ў адлюстраванні вучонага-гісторыка. Упэўнены, што такое ўспрыманне пачутага і вывучанага засталося ва ўсіх маіх аднагодкаў.

Можа, таму з асаблівай сілай прыцягвае да сябе мастацкае ўвасабленне гісторыі нашага народа. Няхай яно не заўжды дакладна дакументальнае, няхай пераважае не факт, а фантазія аўтараў, але чытач звычайна прымае іх з задавальненнем. Попыт на такую літаратуру вялікі.

Толькі што беларуская гістарычная раманістыка папоўнілася яшчэ адным творам, які заслугоўвае ўвагі масавага чытача. Гэта «След ваўкалака» Леаніда Дайнекі.

Пісьменнік адкрыў нам перыяд, які лічыцца, бадай, адным з найбольш складаных у

## ДУМКА ЧЫТАЧА

# «НЕ МАЮЧЫ НАМЕРУ ПАВУЧАЦЬ...»

Кожны чалавек сваё першае знаёмства з навакольным светам пачынае з самай мілагучнай і самай чароўнай матчынай мовы, з гаворак, якія бытуюць у родных мясцінах.

У розных куточках нашай рэспублікі народныя гаворкі маюць свае адметныя рысы і асаблівасці фанетычнага, марфалагічнага і словаўтваральнага характару. Мы ж сваю ўвагу спынім на лексічным складзе гаворак, а дакладней — на некаторых словах, якія чамусьці не знайшлі свайго месца ў лексікаграфічных крыніцах.

З упэўненасцю можна сцвярджаць, што сярод рыбаловаў і паляўнічых (і не толькі сярод іх) не знойдзецца такога дзівака, які не ведае, што такое ПРЫМАНКА. І хаця лексемай карыстаюцца паўсюдна, у беларускай мове, на жаль, яна вядома як дыялектная. Слову «прыманка» (тое, чым прынаджваюць птушак... рыбу, жывёл) адпавядае беларускае літаратурнае — прынада.

Давайце звернемся да твораў беларускіх пісьменнікаў.

«Ён (звер) браў прыманку, і сківіцы капкана замкнуліся, сціснуўшы горла» (Э. Самуйлёнак). «Яхім нёс на плячы чатыры вуды. На іх вісела вядзерца для прыманкі...» (П. Пестрак). «Ракі, ірвучы клюшнямі прыманку...» (В. Хомчанка). «Якраз жа ў той момант на прыманку бралася новая «рыбка»...» (Б. Сачанка).

Як бачым, лексема бытуе ў народных гаворках Верхнядзвінскага (тут прайшлі дзіцячыя гады Э. Самуйлёнка), Івацэвіцкага (радзіма П. Пестрака), Касцюковіцкага (радзіма В. Хомчанкі) і Хойніцкага (радзіма Б. Сачанкі) раёнаў. А з гэтага можна зазначыць, што слова мае распаўсюджанне адпаведна ў Віцебскай, Брэсцкай, Магілёўскай і Гомельскай абласцях.

А цяпер звернемся да беларускіх слоўнікаў. Чацвёрты том Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы ўбачыў свет ў 1980 годзе. Слова «прыманка» як дыялектнае або нават русізм складальнікамі апушчана. Аднак, разам з гэтым, узнікае пытанне, чаму ж лексема «матыль» тлумачыцца слоўнікам так: «Лічынка камара, якая жыве ў глеі і служыць ПРЫМАНКАЙ пры лоўлі рыбы»?

«Слоўнік народных гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе парганічча» слова «закроп» падае як «ПРЫМАНКА з пахучай травы»; «Тураўскі слоўнік» лексему «прытвор» — як «ПРЫМАНКА для пчол у пустым вуллі», лексему «творба» — як «ПРЫМАНКА для пчол», а лексему «творыць» — як ««Пырскаць, крапіць вулей ПРЫМАНКАЙ для прываблівання пчол». У «Матэрыялах для слоўніка Гродзенскай вобласці» (аўтар Сцяшковіч Т. Ф.) і слова «прыманка», і слова «прынада» тлумачыцца лексемай «ПРЫМАНКА».

Міжволі ўзнікае думка, што беларускія лексікографы — жадаюць таго ці не — усё ж вымушаны ўводзіць гэтыя словы ў свае даследаванні. Ці не таму, што яны перадаліся нам ад продкаў?

гісторыі беларускага народа: час княжання ў Полацку Усяслава Брачыслававіча (1044—1101 гг.). Тады прайшло яшчэ мала часу пасля пачатку хрышчэння Кіеўскай Русі, якое наклала глыбокі адбітак на ўсёй гісторыі ўсходняга славянства.

Падзеі, апісаныя ў рамане «След ваўкалака», мелі месца ў жыцці. Канва іх выразна *пракладзена ў летапісах*, у славутым «Слове аб палку Ігаравым». Аднак там была толькі канва. Прычым, як ужо сказана вышэй, гісторыкі падавалі нам не больш, як схему тых даўніх падзей.

Л. Дайнека ажывіў гэтую схему шматлікімі чалавечымі характарамі. Ён нібы кінуў яркі прамень у глыбіню стагоддзяў і высвеціў бурлівае жыццё людзей таго далёкага часу. І яны паўсталі перад намі ва ўсіх складаных узаемаадносінах, у няспынным змаганні, у крывавых сечах. Разам з тым у рамане паказаны і духоўны свет людзей розных сацыяльных груп і розных вераванняў. Густа пераплецены ў творы чалавечыя лёсы.

Галоўная тэма рамана, як мне здаецца, — працэс хрысціянізацыі Русі. Знамянальна, што твор завершаны якраз к тысячагоддзю гэтага гістарычнага факта. Ён дае нам аб'ектыўнае ўяўленне, як усё адбывалася тады, якія сілы сутыкнуліся ў бязлітаснай барацьбе.

Як вядома, разам з распадам Рымскай імперыі на Заходнюю і Усходнюю на дзве галіны раздзялілася і хрысціянства — на каталіцызм і праваслаўе. Цэнтрам каталіцызму застаўся Рым, цэнтрам праваслаўя — Візантыя. З Візантыі праваслаўе падалося на ўсход у Кіеўскую Русь.

А тут спрадвеку была свая рэлігія — славяне пакланяліся ідалам: Перуну, Сварогу, Даж*богу і іншым багам*. Яны перадаваліся з веку ў век і выражалі духоўныя патрэбы людзей дафеадальнага перыяду.

Хрысціянства *прыйшло* на Русь не толькі з крыжам, але і з мячом. Яно секла каменных і драўляных ідалаў з той жорсткасцю і лютасцю, як і галовы непакорных «паганцаў» — язычнікаў, якія не хацелі здраджваць старажытным багам. Супраціўленне непакорных было страшэнным.

Усё гэта вобразна паказана ў рамане «След ваўкалака». *Галоўнай, а дакладней, загалоўнай фігурай* у ім з'яўляецца полацкі князь Усяслаў. Невыпадкова яму далі мянушку Чарадзей. Вобраз гэты неадназначны, складаны. Прыняўшы хрысціянства, князь душой заставаўся яшчэ ў рэлігіі сваіх продкаў. За такую дваістасць атрымаў ад праціўнікаў і мянушку ваўкалака, пярэваратня.

Як вынікае з гістарычных крыніц і са «Слова аб палку Ігаравым» і што добра паказана ў рамане «След ваўкалака», — Усяслаў быў сапраўды выдатным воінам і таленавітым чалавекам. У рамане мы застаём яго ў цяжкі час: у 1067 годзе кіеўскія князі браты Яраславічы разбілі яго войскі на рацэ Нямізе, а потым заманілі ў Оршу быццам на перагаворы аб міры і захапілі ў палон. Завезлі яго ў Кіеў разам з сынамі Расціславам і Барысам, пасадзілі ў поруб (цямніцу) і прыкавалі да сцяны ланцугамі.

*Вераломства кіеўскіх князёў*, парушэнне клятвы, якую далі на крыжы, яшчэ больш пахіснула веру Усяслава ў праведнасць хрысціянства.

На такім фоне разгортваюцца далейшыя падзеі ў рамане. Злавеснай фігурай выступае кіеўскі ігумен Феадосій. Ён прагне крыві непакорнага полацкага князя і яго сыноў, бо лічыць іх няверными хрысціянамі. Гэта нягледзячы на тое, што Усяслаў збудаваў у Полацку цудоўны, слаўны на многія вякі храм Сафіі — дом хрысціянскай божай мудрасці.

Цяжкія выпрабаванні выпалі на долю Усяслава, але ён мужна перанёс усё і застаўся самім сабой — *напалову* хрысціянінам, напалову — язычнікам, «паганцам». Яму добра былі зразумелыя пачуцці і духоўныя патрэбы простых людзей, якія хаваліся ў пушчах ад прымусовага хрышчэння, вымушаны былі жыць дзікім, амаль звярыным жыццём. Затое яны захоўвалі свае абрады, маліліся сваім старажытным багам.

Аўтар рамана не ідэалізуе «паганцаў». Больш таго — паказвае, што і ў іх асяроддзі, у іх рэлігіі нямала жорсткасці і дзікунства. З вялікай пераканаўчасцю ён раскрывае, што ход гісторыі — не на баку «паганцаў», што яны асуджаны на выміранне, бо хрысціянства больш жывучае, больш прыстасаванае да феадальнага ладу. Век абшчыннага грамадства адыходзіў разам з яго вераваннем, культамі, побытам, мараллю. Царква верна служыла феадалам, а феадалы ўсімі сродкамі і сіламі падтрымлівалі царкву. Першабытныя багі аджылі сваё і — хоць і з крывавым супраціўленнем — здавалі адну пазіцыю за другою, саступаючы месца Хрысту.

Леанід Дайнека стварыў прывабныя вобразы простых людзей таго часу. Асабліва ўдаліся яму дзіця прыроды, вясёлы і мудры рыбак Ядрэйка, таленавіты малады кузнец Белавалод з яго прыгожай каханкай, а потым жонкай Ульяніцай, якой наканавана было пражыць вельмі мала. Светлым было іх каханне і горкай, цяжкай для Белавалода смерць Ульяніцы.

Тут, можа, не як папрок, а толькі як заўвагу, хацелася б адзначыць, што малавата паказаны ў рамане героі ў працы. Гэты бок іх жыцця толькі абазначаны.

Магчыма, сам час тут паўплываў: тады ж ішлі няспынныя войны паміж князямі за ўладу, кожны з князёў імкнуўся пашырыць свае землі, пакарыць суседзяў, нават родных братоў, нажыцца за іх кошт. Чытаеш раман і міжвольна задумваешся: якая гэта спрадвечная і страшная для народаў сіла — прага да ўлады, імкненне стаць над людзьмі, падпарадкоўваць іх сабе, узвышацца над усімі! Нездарма ж яшчэ геніяльны аўтар «Слова аб палку Ігаравым» пісаў з болем і трывогай пра згубныя міжусобныя войны рускіх князёў, заклікаў да адзінства, да ўмацавання рускай зямлі. І тым не менш хацелася б ведаць, як складаўся і праяўляўся побыт людзей таго часу.

Рамантычна намалявана ў творы сюжэтная *лінія* старшага дружынніка Рамана і баярскай дачкі Кацеры. З першага погляду пакахалі яны адзін аднаго, насуперак *волі* бацькі Кацеры — баярына Аляксея. Калі Раман з невялікай дружынай падаўся ў Кіеў, каб ўратаваць свайго любімага князя Усяслава, Кацера паследавала за ім і перажывала ўсе нягоды небяспечнага і складанага вандравання.

Хацелася б падкрэсліць высокую мастацкую вартасць гэтага твора. У ім багатая, сакавітая мова, якая адкрывае самы верны шлях да сэрца кожнага беларуса. І што асабліва прыемна: раман «След ваўкалака» нясе ў сабе водар мовы таго даўняга часу, і аднак жа чытаецца лёгка, няма патрэбы зазіраць у слоўнік старажытнай беларускай мовы.

Выклікае задавальненне чытача вобразнасць, паэтычнасць стылю, уменне аўтара знайсці трапную дэталь, якая выразна падкрэслівае і душэўны стан героя, і прыгажосць пейзажу не толькі блізкай нам лясістай Полаччыны, але і стэпавых прастораў поўдня краіны.

Перагортваеш апошнюю старонку рамана «След ваўкалака» і адчуваеш гарачую спагаду да нашых продкаў, якія ў бясконцых нягодах, абліваючыся крывёй і потам, у голадзе і холадзе тварылі гісторыю. І яшчэ такое ўражанне, быццам прычыніўся да ўласнага далёкага, далёкага дзяцінства.

**І. НОВІКАЎ.**

---

Пакуль што не прызнана пяцітомным слоўнікам і лексема КАТУШКА. А яна таксама мае *ўсе падставы на пэўнае месца* ў лексікаграфічных крыніцах.

«У сем гадзін, заспаўшы, пайшоў для праходкі са спінінгам. Круцячы катушку...» (Я. Брыль) «...вудзільна па знешняму выгляду было не горшае за сапраўднае, купленае — дубовае, разборнае... з адшліфаванымі да бляску кольцамі і трымацелямі катушкі». (І. Шамякін).

Слова ПЕЛЬКА «Тлумачальным слоўнікам беларускай мовы» пададзена з паметкай абласное. Для ілюстрацыйнага матэрыялу прыведзены вытрымкі з твораў В. Мысліўца і У. Ляўданскага. Аднак лексема вядома не толькі ў Мінскай вобласці. Яна зафіксіравана Ф. М. Янкоўскім у гаворках Глускага раёна («Дыялектны слоўнік», вып. 1959 г.), Л. Ф. Шаталавай у гаворках Расонскага раёна («Беларускае дыялектнае слова», 1975 г.). Як бачым, слова мае распаўсюджанне ў Магілёўскай і Віцебскай абласцях. Паглядзім далей. Адзначана яно Т. С. Янковай у «Дыялектным слоўніку Лоеўшчыны», а таксама ў «Тураўскім слоўніку». Слова ўласціва мове М. Лынькова: «..ці кайстру надзень ці камень на шыю ды ў пельку...» І мове Б. Сачанкі: «...а праз каробачкі, якія паставілі на Віцi яшчэ повідну ў высечаныя ў лёдзе пелькі».

Не знойдзем мы ў «Тлумачальным слоўніку беларускай *мовы» і слова* НАЖЫЎКА. Можна прывесці яшчэ шэраг слоў, якія бытуюць у народных гаворках і сустракаюцца ў *творах беларускай* мастацкай літаратуры. але пакінуты па-за ўвагай «Тлумачальным слоўнікам беларускай мовы». Толькі ў гэтым выпадку тэма нашых разважанняў выйдзе з русла рыбалавецкай тэрміналогіі.

Шчыра кажучы, пяцітомны *наш слоўнік мае шмат хібаў* і няўваг да роднае мовы, а таму над ім трэба яшчэ працаваць ды працаваць.

Магчыма, узброіўшыся дадатковым шэрагам цытат з твораў беларускай мастацкай літаратуры, аўтар гэтых нататак змог бы пацвердзіць свае меркаванні ў большай ступені. Але пасля знаёмства з артыкулам прафесара А. І. Жураўскага «Марым пра ідэальны слоўнік?» («ЛіМ» 5.ІІ. г. г.) вырашыла даслаць іх у незавершаным стане.

Бясспрэчна, што з довадамі дырэктара Інстытута мовазнаўства Акадэміі навук БССР нельга не згадзіцца. Вядомы вучоны пераканаўча абгрунтоўвае памылковасць разважанняў В. Скарахода і М. Стомы наконт некаторых слоў.

Аднак, думаецца, мары носьбітаў роднай мовы аб ідэальным слоўніку маюць рацыю, варта толькі кіравацца слушнай парадай, выказанай у артыкуле, і «час ад часу чытаць творы беларускай мастацкай літаратуры». Як шчыры аматар роднае мовы, я яшчэ зазірнула і ў нашы слоўнікі. Сёе-тое ў іх прама скажу, успрымаецца з сумненнем. Не маючы намеру «павучаць беларускіх лексікографаў», а толькі абапіраючыся на ўласныя назіранні, выказваю думку, што надышоў час весці размову пра ідэальны слоўнік роднай мовы без запытальнага знака.

**Т. СТАХЕЙКА,**
**філолаг.**

г. Мінск.

---

# ЦІ ЧЫТАЮЦЬ МОВАЗНАЎЦЫ ШЫЛЬДЫ?

Дырэктар акадэмічнага Інстытута мовазнаўства, член-карэспандэнт Акадэміі навук БССР А. І. Жураўскі ў артыкуле «Марым пра ідэальны слоўнік?» піша: «У апошні час у рэспубліканскім друку часта змяшчаюцца публікацыі аб нездавальняючым стане вывучэння беларускай мовы ў пачатковых і сярэдніх школах, аб звужэнні яе грамадска-культурных функцый і г. д. Усе гэтыя пытанні адносяцца да сферы сацыялінгвістыкі, іх вырашэнне залежыць у першую чаргу ад саміх носьбітаў беларускай мовы, а не ад мовазнаўцаў, як гэта здаецца некаторым». Да носьбітаў роднай мовы, як бачым, Жураўскі сябе не залічвае. Ён залічвае сябе толькі да мовазнаўцаў. Мовазнаўцы ж нашы лічаць свае функцыі другараднымі.

Каб вучоныя-мовазнаўцы сапраўды дбалі аб развіцці сацыялінгвістыкі, то яны даўно б распрацавалі навукова абгрунтаваныя прапановы аб пашырэнні грамадска-культурных функцый нашай мовы і свае рэкамендацыі прадставілі б ураду рэспублікі.

А. І. Жураўскі павучае М. Стому, В. Скарахода і С. Дубаўца: чытайце, маўляў, творы беларускіх пісьменнікаў і ўсё зразумееце. Кніжкі трэба чытаць. Гэта бясспрэчна. Але ці чытаюць нашы мовазнаўцы, напрыклад, шыльды на розных установах гарадоў, пасёлкаў і вёсак нашай рэспублікі? Каб яны іх чыталі, то заўважылі б, што ў рэспубліцы практычна няма шыльдаў «лазня», «цырульня», а ёсць толькі «баня», «парикмахерская»... Чаму дырэктар інстытута не піша пра гэта? Шыльды—гэта ж слоўнікі пад адкрытым небам. Па гэтых слоўніках вучыцца павінны дзеці, госці. Гэта ж грамадска-культурная функцыя мовы, гэта ж сацыялінгвістыка.

Чаму не турбуе дырэктара Інстытута мовазнаўства той прыкры факт, што на этыкетках, бірках і на ўпакоўках нашай прамысловай і сельскагаспадарчай прадукцыі практычна няма надпісаў на роднай мове? Не трэба спасылацца на нейкіх абстрактных носьбітаў мовы, калі мы сапраўды хочам ад слоў перайсці да справы, да перабудовы.

г. Слуцк. **Р. РОДЧАНКА.**

---

# Часопісы ў чэрвені

## «ПОЛЫМЯ»

У раздзеле паэзіі — вершы А. Звонака, Г. Бураўкіна, Ю. Голуба.

Змешчаны апавяданне А. Кудраўца «Пахахуцікі», фантастычна-дакументальная прыпавесць У. Някляева «Вежа».

Аповесць С. Страціева «Дзікія пчолы» (пер. з балгарскай У. Анісковіча) і вершы І. Шкляэўскага (пер. Р. Барадуліна) прапануюцца ў раздзеле «Новыя пераклады».

Падрыхтаваў творы А. Гаруна да друку і напісаў прадмову «Апавяданні Алеся Гаруна» У. Казбярук.

Друкуюцца педагагічныя нататкі С. Курылёвай «Выхаванне праўдай», артыкул С. Польскага «Педагогіка ў чыноўніцкім рангу», нарыс А. Жалязоўскага «На зямлі генерала Сандзіны», старонкі з дзённіка В. Бечыка (прадмова П. Панчанкі, публікацыя Л. Кароткай).

Пра стан сённяшняй беларускай прозы разважаюць П. Дзюбайла («У пошуках героя») і Г. Шупенька («Шукаць і *знаходзіць*»).

Новыя кнігі рэцэнзуюць А. Марціновіч, Э. Іофэ, І. Чарота.

Пад рубрыкай «Дзядоўнік на Парнасе» прадстаўлены творы А. Вялюгіна.

## «МАЛАДОСЦЬ»

З вершамі выступаюць В. Шніп, Ю. Бармута, Г. Пашкоў, А. Гуцаў.

Чытач пазнаёміцца з апавяданнямі М. Абабуркі, І. Капыловіча, заканчэннем аповесці А. Кажадуба «Дарога на замчышча», лірычнымі запісамі Я. Сіпакова «Наталенне смагі».

Пад рубрыкай «Дарогамі перабудовы» друкуецца нарыс А. Кукевіча «Задума, кінутая наперад».

«Тут не спяваюць птушкі» — роздум Г. Станкевіча аб выхаванні моладзі.

На пытанні анкеты «Маладосці» адказваюць тыя, хто рыхтаваў збор «Беларуская народная творчасць» — «Паэтычнасць, талент». Л. Забадоцкая рэцэнзуе кнігу прозы У. Рубанава «Цёплы пух адуванчыкаў» — «Радасць ціхая, радасць светлая...»

## «БЕЛАРУСЬ»

Пад рубрыкай «Да XIX канферэнцыі камуністаў краіны» слесар - зборшчык Мінскага станкабудаўнічага завода імя С. М. Кірава У. Палячонак разважае пра недапушчальнасць гульні ў дэмакратыю — «Узвысіцца да адказнасці».

Публікуюцца апавяданне А. Дударава «На сконе дня», пачатак нарыса В. Жука «Бераг левы — бераг правы», нататкі В. Вярбы «Анталогія аднаго ненапісанага верша»; вершы У. Марука, Л. Геніюш (прадмова М. Ермаловіча), П. Прудніка; працяг аповесці Ж. Сіменона «Пад страхам смерці» (пер. з французскай А. Асташонка).

«Насустрач рэвалюцыі...» — *на пытанні карэспандэнта* адказваюць аўтар рамана пра Цётку «Крыж міласэрнасці» В. Коўтун і даследчык літаратуры А. Мальдзіс.

Да 500-годдзя з дня нараджэння Ф. Скарыны прапануюцца фрагменты з паэмы М. Арочкі «Драма Скарыны» і артыкул А. Белага «Фрэска Скарыны ў Падуі».

«Па шляху ў свет дабра» — гутарка з мітрапалітам Мінскім і Беларускім Філарэтам.

## «НЁМАН»

Увазе чытача прапануюцца падборкі вершаў А. Дракахруста «Споведзь», Я. Міклашэўскага «Сляды» (пер. Ф. Яфімава, С. Яўсеевай, Г. Аўласенкі), Л. Лаўрэнкавай «Рэха».

Друкуюцца пачатак рамана В. Адамчыка «І скажа той, хто прыйдзе» (аўтарызаваны пер. Т. Залатухінай) і дакументальная аповесць А. Кавалёва «Звон мой — памяць».

У раздзеле «Публіцыстыка і нарысы» прадстаўлены Ю. Ва*лошын* — «Адмаўленне ад Гіпакрата» і А. Чарняўская — «Выпадковасць і заканамернасць».

Пра беларускі пейзаж разважае Г. Сачанка — «Ці сугучна душа Айчыне?».

«Нефармалы — хто вы?» — справаздача з пасяджэння *«круглага стала»*.

Кнігі рэцэнзуюць П. Васючэнка («Стронга» У. Ягоўдзіка), В. Локун («Гаспадар-камень» Г. Далідовіча), Ф. Куляшоў («Беларуская проза аб вайне і класічная традыцыя» В. Жыбуля), В. Тарас («І толькі надпіс...» Б. Бур'яна), І. Барысаў («Застаюся чэкістам!» Т. Гладкова).

не варухнуў, каб нечага дамагчыся самастойна. Дзеянне спектакля не даводзіць, не пераконвае, што Карыцын — таленавіты і змог бы нешта зрабіць ці нават здзейсніць. Хіба толькі на словах... Але словам гэтым не надта можна даць веры. Да таго ж, лічыць У. Няфёд, у спектаклі не даецца тлумачэння, як жа паўздзейнічаў на Карыцына менавіта застойны перыяд — аж да адмаўлення ад нармальнага жыцця і ладкавання на канапу. Крытык схільны тлумачыць драму Карыцына ягонымі асабістымі якасцямі героя, а таксама пераканаңы, што сам спектакль — сведчанне і прыклад застою нашага тэатра. На сцэну выцягваецца шмат бруду, але ніякіх ацэнак яму не даецца. Прадэманстраваны і новы тэатральны штамп: фанаграмаю транслюруюцца «Широка страна моя родная» ці «Утро красит нежным светом», а на сцэне — слёзы, драмы, бруд. Канчаткова заблыталі крытыка ўведзеныя ў спектакль сцэны з хіраманткаю; ён палічыў іх спекуляцыяй на таленце і папулярнасці С. Станюты.

Пастаноўшчык спектакля М. ПІНІГІН не пагадзіўся з меркаваннем У. Няфёда пра тое, што тэатр абавязкова павінен даваць урокі маралі, заклікаць, адбіваць, знішчаць, карчаваць ці сеяць. Пры гэтым ён спаслаўся на М. Лермантава, які ў «Героі нашага часу» абвясціў: «Не падумайце аднак... каб аўтар гэтай кнігі меў калі-небудзь ганарлівую мару зрабіцца выпраўляльнікам людскіх заган. Божа барані яго ад такога невуцтва!» М. Пінігін сказаў, што мы ўсе часцяком грашым схематычным успрыманнем жыцця.

**Слова на «вольнай трыбуне» бралі таксама Ю. ПАШКІН, Л. ГРАМЫКА, дырэктар купалаўскага тэатра І. ВАШКЕВІЧ, А. ГАНЧАРОЎ, Р. СМОЛЬСКІ і іншыя.**

Падрыхтавала
**Ж. ЛАШКЕВІЧ.**

---

змест п'есы: і сапраўды ж кепска, калі так пакутуе жанчына.

**Вядома, пытанне «як жыць?» на сучаснай купалаўскай сцэне прагучала не ўпершыню — варта згадаць хоць бы славуты дударэўскі «Парог». Але ж у спектаклі, пастаўленым на пачатку 80-х, тэатр не па сваёй волі ўнікнуў аналізу вельмі важных, калі не вырашальных абставін. Стваральнікі «Парога» мусілі задаволіцца тэкставым тлумачэннем Буслаевай драмы — маўляў, вельмі добра жылося небараку, усяго было досыць, ды так шмат, што піць пачаў. Адарваны ад рэальнай глебы, вобраз галоўнага героя незнарок паэтызаваўся, прыўзнімаўся на сцэнічныя катурны. Сапраўды жахлівая, пазнавальная постаць Бэры маячыла ў спектаклі недзе наводдаль — і хутка зусім знікала. Сацыяльных высноў, тым больш, абагульненняў рабіць не даводзілася. Такі быў час: існавала «думка», што алкаголікаў у нас можна пералічыць па пальцах...**

Ды не дзеля выстаўлення запозненых ацэнак варта азірнуцца назад, — больш важна ўсвядоміць новы ўзровень размовы, прапанаваны тэатрам на «...Уроках хіраманты»...

Дазволілі, дык цяпер і спавядаюць, — заўважыць хтосьці... Так, спавядаюць, — ды не ва ўсіх атрымліваецца. Тэатр не адрывае Карыцына ад рэчаіснасці, нікуды ўцячы яму не ўдаецца. Менавіта ў жыцці шукаюць стваральнікі сучаснай драмы прычыны няўдалага лёсу свайго героя. Актыўны, насычаны сацыяльны фон зніто́ўвае сцэнічныя падзеі, уплывае на ўчынкі Карыцына, вызначае мастацкую атмасферу відовішча. Галасы эпохі дысануюць у спектаклі са звычайным чалавечым болем. «Драма часоў актыўнага застою» — падкрэсліваецца ў праграмцы. І пэўна ж, — жыццё Карыцына рушыць насуперак урокам Хіраманткі.

Жыццё Карыцына набывае адзнакі фарсавасці, напаўняецца чалавечым болем. Рука дапамогі патрэбна сучасніку.

Як быць?

А што, калі ўсё бачанае — маральная мадэль сённяшняга тэатра?

Людміла ГРАМЫКА.

---

МУЗЫКА

# ЦІКАВА ЎСЁ...

## РОЗДУМ ПРА МАЛАДОГА КАМПАЗІТАРА

Пазнаёмілася я з музыкай Уладзіміра Кур'яна задоўга да таго, як ён паступіў на кампазітарскае аддзяленне Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі. Аднойчы нам з сяброўкай (тады яшчэ мы былі студэнткі) прапанавалі сходзіць у педагагічны інстытут на прэм'еру рок-оперы (!) «Масфан». Вы зразумееце клічнік у дужках: гэта ж было не менш як 15 гадоў назад, і, акрамя рок-оперы Э. Д. Уэббэра «Ісус Хрыстос — суперзорка» (мелодыі якой, здаецца, і цяпер не страцілі сваёй свежасці) ды рок-оперы А. Журбіна «Арфей і Эўрыдыка», мы нічога з гэтага жанру не ведалі, і ён заставаўся для нас даволі экзатычным. І раптам рок-опера — у Беларусі! Прозвішча кампазітара — Кур'ян...

**Зала была запоўнена слухачамі гэтак шчыльна, што маглі б пазайздросціць і славутыя маэстра. Задаволіўшы сваю цікаўнасць, мы зразумелі, што ў пачутым і ўбачаным было больш прыроднага таленту аўтара, чым сапраўднага майстэрства. Але ўразіла, што, не маючы прафесійнай кампазітарскай адукацыі, ён чыста інтуітыўна зрабіў нешта досыць цэласнае з паасобных, больш ці менш удалых, «кавалкаў» музыкі і песень, у якіх, безумоўна, праслухоўваліся меладычная абаяльнасць і рытмічная вынаходлівасць.**

**Наогул, такі смелы крок, як напісанне оперы (хай у рок-стылі), вельмі характэрны для Кур'яна. Праз колькі гадоў я нагадала Уладзіміру пра яго першы опус — як гэта ён рашыўся тады на оперу? «Усё гэта вынік наіўнай юнацкай самаўпэўненасці, — адказаў ён. — Мне здавалася, што гэтая мая рок-опера і ёсць той самы «твор для народа», дзе ўсё будзе ярка, прыгожа, эфектна, гучна. Я тады разважаў: мая опера — твор на любы густ! Бо прыйдзе на оперу сляпы — пачуе музыку; глухі — убачыць дэкарацыю; дзіця захопіцца (бо казка); стары — развесяліцца. Але, скончыўшы музвучылішча і Мінскі педінстытут, я прыйшоў у кансерваторыю, у клас Дзмітрыя Браніслававіча Смольскага, і ад маёй самаўпэўненасці не засталося і слядоў. У гады навучання зразумеў, які гэта неабсяжны мацярык — музыка, колькі вёрстаў ісці яшчэ мне да сапраўднай кампазітарскай тэхнікі, да сапраўднага авалодання прафесіяй...**

У кансерваторыі Уладзімір Кур'ян вучыўся кампазіцыі, а я выкладала ў іх на кафедры поліфанію. Памятаю, студэнты атрымалі хатняе заданне — напісаць харавую фугу. Прытым умовы (тэкст, форма, характар) павінны былі абраць самі.

Валодзя Кур'ян паказаў тады чароўную мініяцюру для дзіцячага хору, у якой свабодна абыгрываліся чыста санорныя спалучэнні: «дзінь-дон», «дзінь-дзінь-дон» (хор быў пра школьны званочак). Гэта было вынаходліва, грацыёзна, весела — тут прысутнічала нейкая (заўсёды цікавая для дзяцей) тэатральнасць, гульня — тое, што і потым акажацца характэрным для творчасці Кур'яна. Гэткі ж адметны і напісаны ім на 1 курсе, цёпла прыняты слухачамі фартэпіянны цыкл «Жартоўны тыдзень» — сем п'ес (па ліку дзён тыдня) з гарэзлівымі эпіграфамі да кожнай п'есы, прыдуманымі таксама аўтарам. Твор адразу запомніўся вынаходлівасцю, фантазіяй, жаданнем аўтара здзівіць слухача нечаканасцю гумарыстычных зваротаў, дасціпнымі знаходкамі ў фактуры. Рысы гэтыя ёсць нават у творах тых жанраў, якія па самой сваёй прыродзе лічацца складанымі, глыбока псіхалагічнымі, канцэптуальнымі. Напрыклад, напісаны ў 1983 годзе Першы струнны квартэт У. Кур'яна здзіўляе свежымі, цікавымі «здагадкамі» ў стварэнні нацыянальнага каларыту, санорнымі знаходкамі, неспадзяванымі эфектамі, якія імітуюць гучанне беларускіх нацыянальных інструментаў ці спосабы і прыёмы ігры на іх. Напісаны таксама ў студэнцкі час вакальны цыкл на вершы Р. Бёрнса (у перакладзе Я. Семяжона) — гэта ўжо сапраўдныя драматычныя сцэнкі, дзе ўласцівы У. Кур'яну элемент тэатральнасці — неад'емная частка самой ідэі твора.

Два гады назад у філармоніі прагучала вакальна - сімфанічная паэма У. Кур'яна «Памяці маці» (паводле паэмы Р. Барадуліна «Блакада»). І тут Уладзімір застаўся верны сабе: і тут — тэатральнасць. Але тэатральнасць у тым выглядзе, у якім яна можа быць у творы з такой глыбока драматычнай тэмай, як вайна і лёс людзей. Дзейныя асобы паэмы персаніфікаваныя ў розных аркестравых тэмбрах. Маці — голас народнай спявачкі, яе загінуўшы муж — голас народнай дудкі (партыя напісана спецыяльна для выканаўцы на народным інструменце). І самы драматычны і кранальны момант у паэме — найвыразны дыялог паміж маці і яе загінуўшым мужам, калі на самотныя фразы жанчыны адказвае не чалавечы голас (бо чалавека няма), а засмучаны голас беларускай дудачкі.

Калі б трэба было вызначыць галоўную рухаючую сілу У. Кур'яна ў творчасці, я назвала б дапытлівасць. Вось хоць бы такі выпадак: на студэнцкую канферэнцыю, якая праходзіла ў Ерэване, ён паехаў разам са студэнтам - цымбалістам. Паслухаўшы яго, Уладзімір раптам так зацікавіўся старадаўнім беларускім інструментам, што... забраў цымбалы ў свой гасцінічны нумар і ўсю ноч вывучаў (так сказаць, эмпірычным шляхам) розныя спосабы гуказдабывання на цымбалах, санорныя эфекты, выпрабоўваў нейкія адмысловыя прыёмы ігры на іх. У выніку гэтых практыкаванняў напісаў Варыяцыі для цымбалаў, якія неаднойчы атрымлівалі высокую ацэнку на розных пленумах, конкурсах і канцэртах. І заўсёды слухачы адзначалі незвычайнае гучанне цымбалаў.

Канцэртная п'еса У. Кур'яна для двух цымбалаў «Перазвоны» з выкарыстаннем беларускай народнай песні «Зязюля» таксама мае поспех у слухачоў. Яна была прадстаўлена на фестывалі «Мінская вясна», яе паказвалі ў канцэртах, на пасяджэнні секцыі камернай музыкі СК СССР у Маскве (у прысутнасці гасцей з Фінляндыі), на маладзёжным пленуме ў Горкім. Прычына поспеху п'есы ў яе дэмакратызме, у «пазнавальных» эстрадных рытмах, у нечаканых гарэзлівых меладычных і рытмічных «збоях». Але асабіста мне гэтая п'еса падабаецца менш за іншыя Кур'янавы опусы. Бачу тут рысы, якія мяне, прынамсі, насцярожваюць: ці не пайшоў кампазітар за не вельмі строгімі масавымі густамі, выбіраючы сродкі не вельмі строга, аддаючы даніну так званаму «сувенірнаму стылю» дзеля поспеху? Валодзя кажа на гэта: «Зразумела, кампазітар прагне пачуць свае творы і таксама зразумела, што хутчэй за ўсё ён пачуе тыя з іх, у якіх зацікаўлены самі выканаўцы, або тыя, якія — ты ведаеш — спадабаюцца публіцы, зацікавяць яе, прымусяць слухаць».

**Так, пачуць сваю музыку — не толькі жаданне, але і права кампазітара (гэта тое ж, што для маці — пабачыць сваё нараджанае дзіця). Ды, не ў дакор Уладзіміру, нагадаю, што былі выдатныя кампазітары, якія дзесяцігоддзямі чакалі выканання сваіх твораў (скажам, Чарлз Айвз), і гэта не давала ім падставу дагаджаць тым ці іншым густам. А перад маладым кампазітарам паўстае і праблема сцвердзіць сябе, выконвацца, атрымліваць заказы... Ён вольны ў сваім выбары — і залежны ад умоў, якія даюць прызнанне, пэўныя даброты жыцця.**

**Але ў маладога члена саюза багата магчымасцей паказваць сваю творчасць: гэта і маладзёжныя пленумы, і маладзёжныя семінары (у тутэйшым і ўсесаюзным маштабе), конкурсы, канцэрты з твораў маладых і нават маладзёжныя міжнародныя сустрэчы. Ужо ў кансерваторыі заўважаеш: адны студэнты цікаўныя і актыўныя, а ёсць такія, якіх не пачуеш на працягу ўсіх пяці гадоў вучобы. Вось У. Кур'ян удзельнічаў у шматлікіх творчых мерапрыемствах. Быў адзначаны дыпломам II ступені на Усесаюзным конкурсе сярод студэнтаў і аспірантаў, прысвечаным 30-годдзю Перамогі. Ён наогул імкнуўся ўдзельнічаць ва ўсіх конкурсах, і нават калі абвясцілі конкурс на лепшую песню для Таварыства ўратавання на водах, ён напісаў і музыку, і словы.**

Цікавяць яго ўсе жанры, формы і інструментальныя склады: «Я ніколі не пісаў для духавога аркестра. А тут раптам атрымаў заказ. Ну, успомніў, як 10 гадоў назад, калі служыў у арміі. іграў на трамбоне, — і напісаў сюіту. Мне гэта цікава».

І гэтае «мне цікава» — цудоўна! Яму цікава ўсё. Як заўжды ў маладосці. Але з часам афармляецца прыхільнасць аўтара да пэўнага жанру. Уладзімір заўважае: «У кансерваторыі і адразу пасля яе заканчэння я пісаў пераважна ў камерным жанры, але пісаў і песні. І прыкмеціў, што радасць ад удачы ў камерным жанры асаблівая. Таму што менавіта праца ў камерным жанры патрабуе ад кампазітара вытанчанага валодання прафесіяй. Тая ж стыхія, якая мне бліжэй за ўсё, — гэта тэатр».

І сапраўды. Цяпер У. Кур'ян працуе загадчыкам музычнай часткі Акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы. Але ж і кампазіцыі «Жартоўны тыдзень», «Фіндлей», і тым больш опера паводле п'есы Казьмы Пруткова «Фантазія» (дыпломная работа У. Кур'яна), — таксама тэатр. Выбар для дыпломнай працы такога складанага жанру, як опера, гаворыць сам за сябе. Прызнаюся, прачытаўшы п'есу, я нават не ўяўляла магчымым яе музычны варыянт. Але вынік працы маладога кампазітара скрэсліў мае сумненні: опера атрымалася яркая, вясёлая, з востраіндывідуальнай інтанацыяй у характарыстыцы кожнага персанажа, з добрай аўтарскай усмешкай. Добрая ўсмешка — не выпадковасць. Уладзімір лічыць: «Галоўнае ў прафесіі творцы — уласны погляд на з'явы жыцця, у мяне ж ён з пэўнай доляй іроніі, але іроніі добразычлівай. Вельмі цаню гумар і аптымізм».

**Працуючы ў тэатры, У. Кур'ян захапіўся музыкай да драматычных спектакляў. Найбольш удалыя яго работы (так лічыць ён сам) у «Ажаніцца — не журыцца» М. Чарота і Далецкіх, «Гаральд і Мод» М. Хігінса і Д. Кар'ера, «Там і тут» Д. Кавачэвіча. Добра, калі кампазітар лічыць, што знайшоў сябе, свой жанр і стыль. Але чалавек, здаецца, усё жыццё пазнае самога сябе, а ў маладым узросце займаецца гэтым з найвастрэйшай цікаўнасцю. Бывае, калегі слушна лічаць, што кампазітар здатны адкрыць новыя гарызонты ў пэўным жанры, ды ён заўзята працуе ў іншых жанрах. Чаму так адбываецца? Вось меркаванні У. Кур'яна: «Закончыўшы вучобу, ты выходзіш з-пад апекі настаўнікаў і шмат ніцяў цягне цябе ў розныя бакі. Пазней адны з тых ніцяў зробяцца танчэйшыя за волас, іншыя — таўсцейшыя за канат. І ўсё залежыць і ад унутраных памкненняў, і ад тваіх намераў, і ад асяроддзя, у якое ты трапляеш... Але ніколі не трэба забывацца пра доўг, які ты павінен аддаць. Я маю на ўвазе не тое, што ты пазычыў у сябра, хоць і гэта важна. А тое, што падаравала табе прырода-маці. Менавіта гэта для мяне доўг творцы».**



Талент здатны згасаць, пераканнні — размякчацца, густы — мяняцца і г. д. Як зберагчы свежасць успрымання свету, непасрэднасць пачуццяў, высціню перакананняў, трапятлівасць адносін да прафесіі? Калі настаўнік сочыць за самастойнымі крокамі тых, хто яшчэ ўчора быў сярод яго вучняў, ён адчувае трывогу: ці здзейсніцца не толькі кампазітар, але і Музыкант, і Грамадзянін? Уладзімір заўважае: «Галоўнае, каб гэтая трывога не пакідала мяне самога, каб у Кур'яне нашым заўсёды жыў яшчэ адзін Кур'ян, які б кожны дзень пытаўся: а што ты зрабіў сёння?»

Галіна ГАРЭЛАВА.

Фота А. ВАЙНШТЭЙНА.

ПОМНІЦЬ, ВЕДАЦЬ, ЗБЕРАГАЦЬ

# ЖУРАВЕЛЬ — І СІНІЦА

## СУМНАЯ ХРОНІКА АДНОЙ ДАЎНЯЙ ГІСТОРЫІ

СПАЧАТКУ невялікі экскурс у мінулае.

Думку аб стварэнні на Беларусі скансена — этнаграфічнага музея пад адкрытым небам — упершыню выказаў у 1908 годзе мастак Фердзінанд Рушчыц. У 1931 годзе пад яго начала̀м ініцыятыўная група ўзняла пытанне пра стварэнне ў ваколіцах Вільні скансена на тэрыторыі 50 гектараў. Планавалася сканцэнтраваць у ім помнікі матэрыяльнай культуры Віленскага, Навагрудскага, Беластоцкага і Палескага ваяводстваў. Але ва ўмовах буржуазна-памешчыцкай дзяржавы рэалізацыя гэтай задумы сутыкнулася з шэрагам цяжкасцей, у першую чаргу фінансавых. Работа групы спынілася на этапе выяўлення, апісання і фотафіксацыі помнікаў народнай архітэктуры. Багаты этнаграфічны матэрыял (фотаздымкі, чарцяжы, замалёўкі), сабраныя В. Дрэмай, Ю. Клосам і В. Карабевічам, стаў унікальным і сёння ўяўляе вялікую навуковую каштоўнасць.

У Савецкай Беларусі, як, між іншым, і ў іншых рэспубліках, да Вялікай Айчыннай вайны пытанне пра стварэнне нацыянальнага скансена не ўзнімалася. Магчыма, гэта было звязана з тым, што ў сяле Каломенскім пад Масквой планавалася будаўніцтва на тэрыторыі 200 га Парку архітэктуры народаў СССР, праект экспазіцыі якога прадугледжваў паказ народнага дойлідства ўсіх саюзных рэспублік, у тым ліку і Беларусі. Меўся яшчэ адзін праект — музейнага гарадка народнай архітэктуры СССР плошчаю 50 га абапал Масква-ракі.

Вайна перапыніла распачатую работу. Пасля перамогі ў першую чаргу, зразумела, неабходна было ўзнімаць з руінаў гарады, адбудоўваць вёскі, аднаўляць разбураную гаспадарку. Падмуркі аб'ектаў, якія пачалі будаваць перад вайной, збуцвелі, зараслі пальном і дзядоўнікам.

Пасля аднаўлення і ўмацавання эканамічнай асновы народнай гаспадаркі і ўздыму савецкай этнаграфічнай навукі зноў абуджаецца інтарэс да этнаграфічных экспазіцый. Справу паскорыла масавае будаўніцтва на сяле. Вёска непазнавальна і даволі імкліва мяняла сваё аблічча. Узнікла рэальная пагроза поўнай страты помнікаў народнай культуры папярэдніх стагоддзяў. Помнікі матэрыяльнай культуры, страціўшы сваё практычнае значэнне, падвяргаліся эрозіі часу і парахнелі на гарышчах хлявоў, у прыгрэбіцах, а то і проста спальваліся. На старонках рэспубліканскага друку адзін за другім з'яўляюцца артыкулы з усебаковым абгрунтаваннем пільнай неабходнасці стварэння беларускага скансена. Грамадскасць трывожыць паскоранае знікненне традыцыйных рэалій вясковага побыту. Яшчэ нейкі час, і будзе позна.

Адным з першых звярнуў увагу грамадскасці на гэтае становішча жыхар Кобрына А. Мартынаў. Трывога і заклапочанасць лёсам культурнай спадчыны беларускага народа гучала ў артыкулах газет і часопісаў ажно на працягу дзесяці гадоў. Ударылі ў набат і прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі — В. Аладаў, І. Ахрэмчык, П. Броўка, П. Глебка, К. Крапіва публікуюць 23 жніўня 1966 года адкрыты ліст «Створым этнаграфічны музей». З усіх куткоў Беларусі прыходзяць водгукі з палкай падтрымкай выказанай пісьменнікамі і вучонымі прапановы. Ва ўсіх іх гучыць трывожнае: «Калі?». Маўчыць толькі адна ўстанова. І менавіта тая, якая нясе гістарычную, маральную і, нарэшце, юрыдычную адказнасць за становішча культуры ў рэспубліцы. Але, на вялікі жаль, Міністэрства культуры, якое павінна было першым выказаць ініцыятыву, аказалася не на вышыні.

А тым часам там, дзе па-сапраўднаму дбалі аб культуры народа, аб захаванні духоўных і матэрыяльных скарбаў, актыўна ствараліся ўжо ў 50-х гадах музеі народнай архітэктуры і побыту. У пачатку 60-х гадоў у Савецкім Саюзе іх было ўжо ажно дзесяць. І толькі дзякуючы ўмяшанню ЦК КПБ справа зрушылася з месца. У канцы 1976 года Савет Міністраў БССР прыняў пастанову «Аб стварэнні дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і быту». Калі б Міністэрства культуры займала іншую пазіцыю, дык гэты гістарычны акт беларускага ўрада ў галіне нацыянальнай культуры пабачыў бы свет, прынамсі, на дзесяцігоддзе раней.

У студзені 1987 года споўніўся адзінаццацігадовы юбілей з дня прыняцця пастановы. За гэты час у краіне створана каля пяцідзесяці музеяў пад адкрытым небам. І не толькі ў сталіцах рэспублік, але і шмат у якіх абласных гарадах, напрыклад, у Архангельску, Ноўгарадзе, Кастраме. На Украіне пабудавана ажно чатыры скансены: у Кіеве, Львове, Пераяслаўлі-Хмяльніцкім і Ужгарадзе. У Эстоніі таксама чатыры: рэспубліканскі і тры рэгіянальныя. Акрамя таго, створаны нацыянальны парк. І ўсе даўно дзейнічаюць.

А ў нас за дзесяць гадоў няма не толькі музея, але нават яго праекта.

Як і чаму так сталася?

На гэтае пытанне дакладны адказ дала ў артыкуле «Музей? Праз 50 гадоў...» яшчэ ў кастрычніку 1983 года газета «Звязда», адзначыўшы, што прычына непаваротлівасці і бяздзейнасці заключаецца толькі ў адным — «у адносінах да самой справы». Але ціхую міністэрскую завадзь «Звязда» амаль што не скаланула, бо, як тады пісала газета, «...калі хочаш нешта зрабіць, знойдзеш сродкі, а калі лянуешся — прычыны». Нельга сказаць, што Міністэрства культуры не прарэагавала на выступленне газеты. З зайздроснай аператыўнасцю быў знойдзены «віноўнік» — кіраўнік рабочай групы С. А. Сергачоў. Але пасля вызвалення яго ад абавязкаў кіраўніка ўсё засталося па-ранейшаму, значыцца, вырвалі не той зуб, праекта як не было, так яго няма і цяпер.

Вернемся зноў у 1976 год. Згодна пастанове Савета Міністраў (9.12.1976 г.) былі створаны дзве групы: рабочая пры Міністэрстве культуры і навукова-метадычная ў аддзеле этнаграфіі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР. Перад навукоўцамі была пастаўлена задача распрацаваць навукова-метадычныя асновы стварэння Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і быту. Асвятліць такія пытанні, як метады і прынцыпы фарміравання музея, вызначыць гісторыка-этнаграфічныя рэгіёны, структуру, крытэрыі адбору помнікаў для перавозкі ў музей, стварыць тэматычна-экспазіцыйны план. Работа была выканана ў запланаваны тэрмін. Сем важкіх тамоў плана сталі той асновай, без якой немагчыма распрацоўка тэхніка-эканамічнага абгрунтавання, а затым і генеральнага плана праекта музея.

Рабочая група тым часам правяла вялікую работу па выяўленню, фіксацыі і збіранню экспанатаў будучага музея. Энтузіязм і шчырая зацікаўленасць супрацоўнікаў абярнуліся тым, што фонд помнікаў матэрыяльнай культуры (прылад працы, адзення, рэчаў штодзённага ўжытку і інш.) дасягнуў некалькіх тысяч экспанатаў. Але гэтыя скарбы, шмат якія з іх унікальныя, захоўваюцца пад замком і, што асабліва недаравальна, у неспрыяльных умовах.

У канцы 1978 г. БелНДІ горадабудаўніцтва распрацаваў тэхніка-эканамічнае абгрунтаванне (ТЭА), выкананае архітэктарамі М. Пракалеем, С. Сахаравай і С. Сергачовым. У заключэнні аддзела этнаграфіі ІМЭФ АН БССР ад 12 сакавіка 1979 г. яно атрымала станоўчую адзнаку, бо ў яго аснову былі пакладзены навукова-метадычныя прынцыпы стварэння музеяў пад адкрытым небам. Гэта знайшло канкрэтнае выяўленне ў вырашэнні шэрагу пытанняў, практычнае ўвасабленне якіх вызначала не толькі колькасныя параметры, але і тэматычна-экспазіцыйны характар беларускага скансена. Аднак у ім, як і ва ўсіх вялікіх, складаных і новых працах, меліся асобныя, як адзначалася, нешматлікія дэталі, якія патрабавалі ўдакладнення. Падрабязна выклаўшы і абгрунтаваўшы свае заўвагі, этнографы пісалі: «Тэхніка-эканамічнае абгрунтаванне Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і быту» пры ўмове ўліку адзначаных заўваг можа быць пакладзена ў аснову канчатковага праекта музея».

І вось тут, на гэтым этапе, адбылося нешта не зусім зразумелае. Насуперак заключэнню вучоных, якіх, між іншым, падтрымалі дырэктыўныя органы, у працэс праектавання ўключылася рабочая група Міністэрства культуры, і ўсё, як кажуць, пайшло шыварат-навыварат, і гэтае марнатраўства часу, дзяржаўных і грамадскіх грошай працягваецца да сённяшняга дня. Праект рабочай групы ў 1980 годзе быў адхілены і перададзены на распрацоўку ў аб'яднанне «Белрэстаўрацыя» Міністэрства культуры БССР.

Гэтакі ж лёс спасціг і праект «Белрэстаўрацыі». На абмеркаванні была выказана аднадушная думка — работа не атрымалася, маўляў, з-за адсутнасці кваліфікаваных кадраў. «Белрэстаўрацыя» такім чынам распісалася ў сваёй бездапаможнасці. Што не перашкодзіла спісаць з рахунка рабочай групы ў сваю карысць 7,5 тысячы рублёў. За што? Хіба толькі за тое, што безвынікова страціла яшчэ амаль чатыры гады? Так ведамасныя амбіцыі і гульня ў самадзейнасць за народны кошт прыйшлі да свайго заканамернага фіналу.

Разважанні ля разбітых начовак вымусілі гора-будаўнікоў звярнуцца за дапамогай у ДПІ «Мінскпраект». За распрацоўку праекта ўзяліся аўтары мемарыяльнага комплексу «Хатынь» Ю. Градаў і Л. Левін. У канцы 1986 года работа была завершана і прадстаўлена заказчыку, які пералічыў на рахунак праекціроўшчыкаў 57 тысяч рублёў. І што вы думаеце, у Міністэрстве культуры, закасаўшы рукавы, узяліся за работу? Памкнуліся кампенсаваць выкінутыя ў бездань часу дарэмна страчаныя дзевяць гадоў, што мінулі з дня завяршэння работы над ТЭА БелНДІ горадабудаўніцтва? Ні ў якім разе. Праект без абмеркавання засунулі пад сукно, дзе ён, забыты «бацькамі» беларускай культуры, праляжаў больш года і, магчыма, пыліўся б і дагэтуль, каб міністэрства не патурбавалі людзі, занепакоеныя лёсам музея.

Высветліць прычыну такой, мякка кажучы, затрымкі ў начальніка упраўлення музеяў і аховы помнікаў А. Канаваленкі было немагчыма. Толькі пазней стала вядома, што ён, адхіліўшы ад удзелу ў распрацоўцы задання на праектаванне супрацоўнікаў рабочай групы, узяўся за працу сам, але, як і трэба было чакаць, не змог правільна вызначыць не толькі агульны кошт будаўніцтва музея, але і першай чаргі. Памылка выплыла пры экспертызе задання ў Дзяржбудзе.

Секцыя этнаграфіі Рэспубліканскага таварыства аховы помнікаў неаднаразова прапаноўвала абмеркаваць праект ДПІ «Мінскпраекта», але работнікі Міністэрства культуры ўсялякімі спосабамі ўхіляліся ад сустрэчы, апошняе пасяджэнне секцыі спрабавалі нават сарваць, а трэці па ліку дырэктар рабочай групы Г. Ткацэвіч і начальнік упраўлення музеяў і аховы помнікаў Міністэрства культуры А. Канаваленка ігнаравалі запрашэнне, а дакладней, свае службовыя і грамадзянскія абавязкі. Дарэчы, іх у нейкай ступені можна і зразумець: што яны маглі сказаць ў апраўданне? Крытыку, нават справядлівую, мала каму прыемна слухаць. А яе было больш чым дастаткова. Не маглі ж яны парушыць субардынацыю і прыўзняць заслону над некаторымі міністэрскімі таямніцамі, што з генштабаўскай пільнасцю ахоўваюцца ад зацікаўленых арганізацый і грамадскасці. Ну, хоць бы расказалі, напрыклад, пра тое, к а м у і ч а м у раптам не спадабаўся праект ДПІ «Мінскпраект», які, між іншым, на працягу ўсяго часу праектавання не выклікаў ні ў кога з куратараў пярэчання?

Не менш цікава, якія дакументы былі прадстаўлены ў Савет Міністраў пры падрыхтоўцы новай пастановы (№ 367, 11.12.1987 г.). Нам здаецца, што, калі б у Савеце Міністраў ведалі пра гатовы, ніводнага разу не абмеркаваны праект Ю. Градава і Л. Левіна, і чаму ён адхілены ў сапраўднасці, дык наўрад ці праектаванне музея зноў бы даручылі «Белрэстаўрацыі», якая ўжо адзін раз з ганьбаю заваліла гэтую работу. На адзінаццаты год пасля пастановы СМ БССР ад 9 снежня 1976 года ўсё зноў вярнулася на «круги своя» і ўсё зноў пачалося з нуля. Ну, як тут не згадаць рускі фразеалагізм: «Бери мочало и начинай сначала». Мачала каштавала капейкі, а праектная эквілібрыстыка ўжо паглынула 90 тысяч рублёў. Ці Міністэрства культуры валодае неабмежаванымі асігнаваннямі?

Адзначыўшы ненармальнае становішча з будаўніцтвам музея, секцыя звярнула сур'ёзную ўвагу на недапушчальнасць будаўніцтва архітэктурных аб'ектаў без зацверджанага праекта, падкрэсліўшы, што такая самадзейнасць з'яўляецца вынікам валюнтарысцкіх рашэнняў і супярэчыць элементарным будаўнічым нормам і правілам. Секцыя пастанавіла: лічыць мэтазгодным завяршэнне работы па праектаванню музея даручыць ДПІ «Мінскпраекту»; пачатае з грубымі парушэннямі будаўніцтва царквы ў сектары «Падняпроўе» прыпыніць. Віноўнікаў прыцягнуць да адказнасці; арганізаваць шырокае абмеркаванне спецыялістамі праектных рашэнняў, распрацаваных «Мінскпраектам»; рэкамендаваць дырэкцыі музея разглядаць на пасяджэннях Вучонага савета ўсе найбольш важныя пытанні, звязаныя з забудовай экспазіцыйнай зоны; рэкамендаваць дырэкцыі музея распрацаваць план правядзення этнаграфічных экспедыцый па збору экспанатаў і прыняць дзейсныя захады да іх захавання.

Адзначым, што пра вартае жалю становішча экспанатаў гаварыла ў адной з перадач тэлебачання мастацтвазнаўца А. Фурс.

З выступлення Харкевіча Б. Л.: «Мы ў катастрафічным стане. Людзі звальняюцца... а аб'екты гніюць, ужо палова згніла... у экспедыцыях пытаюцца, калі будзе пабудаваны музей, калі хто перашкаджае «на версе», дык трэба іх зняць».

Магчыма, сапраўды хтосьці перашкаджае?

**Даведка:** З адабраных і прызначаных для перавозкі ў музей помнікаў народнай архітэктуры значная, калі не большая частка ўжо страчана. Беззваротна і незаменна.

Адначасова група этнографаў Інстытута МЭФ АН БССР, непасрэдна звязаная з распрацоўкай навукова-метадычных асноў стварэння Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і быту, занепакоеная, надзвычай трывожным становішчам з будаўніцтвам музея, звярнулася з лістом да старшыні Камітэта народнага кантролю БССР тав. Лагіра М. І.

Адчуўшы, што збіраюцца хмары над галавой, Міністэрства культуры заварушылася, але, на вялікі жаль, энергія яе асобных супрацоўнікаў была накіравана не на прызнанне і выпраўленне памылак, а на тое, каб хоць збольшага закамуфляваць сваю шматгадовую безадказнасць, раўнадушша, а галоўнае, разбазарванне дзяржаўных і грамадскіх сродкаў. З гэтай мэтай супрацоўнік «Белрэстаўрацыі» А. Лакатко ліхаманкава, літаральна за лічаныя дні, «распрацаваў» эскіз праекта скансена; выкананы каляровымі алоўкамі на кальцы, ён нават чыста тэхнічна непрыемна ўражваў сваёй паспешлівасцю і нядбайнасцю. З такой жа зайздроснай хуткасцю склікаецца Вучоны савет для абмеркавання праектаў БелНДІ горадабудаўніцтва (1979 г.), ДПІ «Мінскпраекта» (1986 г.) і эскіза «Белрэстаўрацыі» (красавік 1988 г.).

Не будзем спыняцца на перыпетыях гэтай гульні ў абмеркаванне. Па-першае, большасць членаў Вучонага савета не мела магчымасці напярэдадні азнаёміцца з праектам, па-другое, як высветлілася ў канцы, тэкст пастановы, якую хацела прабіць Міністэрства культуры, быў напісаны загадзя. Нельга назваць выяўленнем павагі да членаў Вучонага

савета і тое, што намеснік міністра культуры У. А. Гілеп узяўся сам весці пасяджэнне савета (адбылося яно 6 мая 1988 г.). У іншай сітуацыі на гэтую акалічнасць можна было б не звяртаць увагі, але тут рабіўся разлік на вопыт і аўтарытэт намесніка міністра. Не кожны падначалены набярэцца смеласці супярэчыць асобе на такой высокай пасадзе, тым больш, што міністэрская атмасфера кожнаму з іх добра знаёмая. Пра гэта, між іншым, адкрыта сказаў былы супрацоўнік міністэрства С. Борыс. Цытуем даслоўна: «Цяпер я не працую тут, таму магу гаварыць, што думаю».

Міністэрству, і ў гэтым таксама выявіліся яго вузкаведамасныя інтарэсы, неабходна было для выратавання сваёй рэпутацыі правесці чарнавы эскіз «Белрэстаўрацыі», які называлі праектам. Але гэты так званы праект амаль цалкам паўтараў распрацоўку БелНДІ горадабудаўніцтва, зробленую яшчэ ў 1979 годзе. Дык навошта было тады адзінаццаць гадоў гарод гарадзіць?

Бачыце, даводзіў аўтар, мы ўнеслі некалькі новых момантаў: прадугледжаны два ўваходы і ўключэнне вёскі Строчыца ў экспазіцыю музея, а тэрыторыя яго павялічваецца крыху больш, чым у два разы. Ідэя, закладзеная ў гэтым эскізе, сама па сабе не толькі не прафесійная, але і заганная. Перш за ўсё яна не вырашае інжынерных пытанняў, па-другое, дзе і хто калі бачыў ці чуў, каб музей народнай архітэктуры і быту пачынаўся з карчмы і панскага фальварку?

Далей. Уключыўшы вёску Строчыца ў экспазіцыю музея, мы ператворым яе па сутнасці ў рэзервацыю, а жыхароў у своеасаблівых абарыгенаў. Ці згодзяцца яны выконваць ролю жывых экспанатаў, аўтар пэўна не пацікавіўся. Як жыхары такой вёскі вытрымаюць штодзённы тлум, гвалт, шум машын і турыстаў, якія ўвесь час будуць шастаць па іхніх дварах? Кожны месяц, круглы год. У такіх умовах вёска не будзе нармальна функцыяніраваць як цэльны сацыяльна-гаспадарчы арганізм. Непазбежна ўсплывуць непрадказальныя супярэчнасці, развязаць якія будзе вельмі цяжка. Ды і забудова вёскі, рознастылёвая і эклектычная, не зробіць, мякка кажучы, гонару музею. Вёску, зразумела, варта захаваць, але за межамі музея.

«А мы яе перабудуем!»

Злавіце, паважаныя таварышы, спачатку сініцу, а ўжо тады лавіце жураўля.

Праект ДПІ «Мінскпраекта» прыдбаў больш прыхільнікаў, таму, відаць, У. Гілеп і не паставіў гэтае пытанне на галасаванне, хаця ў раней напісаным рашэнні ўхваляўся эскіз «Белрэстаўрацыі». У гэтым жа праекце рашэння адзначалася, што забудова сектара «Падняпроўе» вядзецца згодна з праектам... якога па сутнасці не існуе ў прыродзе. Бо ніводзін з іх не даведзены да ладу і не зацверджаны. Праекта няма. Пра гэта, дарэчы, гаварыў на пасяджэнні секцыі этнаграфіі, што адбылася 1 сакавіка 1988 г., дырэктар «Белрэстаўрацыі» С. Друшчыц. Вось пратакольны запіс яго адказу этнографу з Белдзяржуніверсітэта імя У. І. Леніна: «Праекта ж у нас яшчэ няма». Няўжо сур'ёзныя людзі страцілі, акрамя памяці, яшчэ нешта?

Няма. І невядома, калі яшчэ будзе, бо Міністэрства культуры нечакана для ўсіх чамусьці адрынула праект Ю. Градава і Л. Левіна, хаця на нарадзе ў Міністэрстве культуры ён быў прыняты з умовай пэўнай дапрацоўкі. Так, прынамсі, выцякае з зачытанага на секцыі дакумента: «...у цэлым адобрыць праектнае рашэнне Левіна і Градава. Скараціць маршрут да 3 км, размежаваць транспартны і пешаходны рух; ухваліць планіровачнае размяшчэнне зон; аднесці дарогу ад в. Строчыца; памяняць планіровачныя зоны «Заходняе» і «Усходняе Палессе». На нарадзе, акрамя супрацоўнікаў міністэрства, прысутнічалі і прадстаўнікі «Белрэстаўрацыі», у прыватнасці С. Друшчыц і А. Лакатко. Неяк не зусім прыгожа атрымоўваецца. Непрыгожа і незразумела...

Праект Ю. Градава і Л. Левіна адпавядае асноўнай канцэпцыі скансена, выкананы прафесійна, і менавіта яны павінны давесці праектаванне музея пад адкрытым небам да завяршальнага канца. Тым больш, што яго аўтары згодны ўлічыць усе станоўчыя заўвагі і пажаданні з папярэднім і фінальным абмеркаваннем на любым узроўні.

У пастанове, напісанай загадзя, не ўлічана ніводная крытычная заўвага, якія выказвалі многія прысутныя.

Знаёмая пазіцыя. Ці не праўда?

В. БАНДАРЧЫК, У. ГУРКОЎ, Н. БУРАКОЎСКАЯ, С. МІЛЮЧЭНКАЎ, В. ЦІТОЎ, А. МІКУЛІЧ, С. ЦЯРОХІН, П. ЦЕРАШКОВІЧ, Л. МІНЬКО,
супрацоўнікі аддзела этнаграфіі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР.

## ПА СЛЯДАХ ВЫСТУПЛЕННЯЎ «ЛіМа»

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 4).**

ягоным іменем, а іменем зусім іншага Максіма — Горкага.

Зрэшты, накант імя Янкі Лучыны тав. Ігліцаў пагадзіўся з нашым чытачом: імя гэтае знаходзіцца ў «банку» імёнаў, якія будуць увекавечаны.

### ПРА БУДОЎЛЮ НА МОГІЛКАХ, СХАВАНЫ ПОМНІК І ІНШАЕ

У «ЛіМе» за 12 лютага было змешчана калектыўнае пісьмо жыхароў Мінска пра незразумелую будоўлю, што разгарнулася на Вайсковых могілках. Пісьмо разгледжана ў выканкоме Мінскага гарадскога Савета народных дэпутатаў. Намеснік старшыні выканкома Г. П. Сянькевіч паведаміў у рэдакцыю: «На могілках былі пачаты работы па добраўпарадкаванні воінскіх магіл. У адпаведнасці з праектам прадугледжвалася будаўніцтва новай агароджы, надмагільных збудаванняў і мастацкай кампазіцыі воінам-вызваліцелям. Аднак з пачаткам работ ад жыхароў горада пачалі паступаць прапановы аб змяненні праектнага рашэння. У інстытуце «Мінскпраект» з удзелам прадстаўнікоў зацікаўленых арганізацый, друку і грамадскасці адбылася нарада, на якой прынята рашэнне аб прыпыненні работ па рэканструкцыі могілак. Раней распрацаваны праект прызнаны непрымальным і цяпер робіцца яго карэкціроўка з улікам выказаных заўваг і прапаноў. Новае праектнае рашэнне будзе шырока абмеркавана і ўзгоднена з усімі зацікаўленымі арганізацыямі».

Што на гэта сказаць? Добра, што думка грамадскасці была пачута і справа будзе папраўлена. Толькі вось узнікае само па сабе пытанне: а чаму адразу нельга было параіцца з гэтымі самымі «усімі зацікаўленымі арганізацыямі»? Чаму трэба было пачынаць рэканструкцыю без такога абгаварэння? Навошта было рабіць марную работу і выкідваць на вецер дзяржаўныя сродкі? Калі мы, нарэшце, навучымся гаспадарнічаць?

●

На ліст нашага чытача з Чачэрскага раёна С. Сыса «Схавалі помнік» («ЛіМ» за 18 сакавіка г. г.) прыслаў рэагаванне намеснік старшыні райвыканкома, старшыня райсавета Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры М. А. Піліпец. Ён паведамляе, што факты, выкладзеныя ў лісце С. Сыса, «часткова пацвердзіліся». Але чаму — часткова? Помнік воінам-землякам сапраўды праляжаў у калгасе «50 год БССР» больш чым два гады і так і не быў там пастаўлены. І Чачэрская ратуша, помнік архітэктуры XVIII стагоддзя, пасля пажару 1974 года таксама дагэтуль не адрэстаўрыравана, бо не могуць жа замяніць сапраўднай рэстаўрацыі рамонтныя работы, якія наладжвае штогод райвыканком гаспадарчым спосабам.

●

4 сакавіка наш чытач Л. Ермаловіч пісаў аб тым, што ў вёсцы Навасёлкі Дзяржынскага раёна недагледжана магіла пісьменніка-дэмакрата Каруся Каганца, што на ёй няма ніякага помніка. Кіраўніцтва раёна парупілася аб выпраўленні становішча. 20 мая г. г. у дзень 80-годдзя з часу смерці пісьменніка на ягонай магіле пастаўлены нарэшце прыстойны мармуровы помнік.

●

Студэнт Мінскага інстытута замежных моў А. Яжэвіч у пісьме, якое было змешчана ў «ЛіМе» 8 красавіка, пісаў пра недарэчнае правіла, у адпаведнасці з якім і для разавага наведвання нашай цэнтральнай рэспубліканскай бібліятэкі патрэбен... фотаздымак. На ліст чытача адгукнуўся дырэктар Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У. І. Леніна А. Г. Міхаленя. Аказваецца, фота патрабуецца пры запісе ў бібліятэку студэнтаў, каб, як піша тав. Міхаленя, «выключыць перадачу чытацкага білета іншай асобе. Карыстанне чужым білетам катэгарычна забараняецца ў мэтах захаванасці літаратуры». У дадатак да гэтага тут жа нашаму чытачу яшчэ і кідаецца папрок: «Хацелася б, каб т. Яжэвіч як будучы спецыяліст падзяляў занепакоенасць супрацоўнікаў бібліятэкі ў захаванасці фондаў не толькі для сённяшняга, але і для будучых пакаленняў». Вось так!

●

22 красавіка г. г. наш чытач С. Крапівін пісаў пра загадку, якую задае людзям на пошце тэлеграмны віншавальны бланк з серыі Е-51, пра тое, што гэтымі бланкамі завалены ўсе паштовыя аддзяленні, а бланкаў з надпісамі па-беларуску днём з агнём не знойдзеш. На просьбу «ЛіМа» пракаменціраваць гэты ліст адгукнуўся намеснік міністра сувязі рэспублікі В. Я. Уласік. Ён піша: «У 1987 і 1988 гадах Ціраспальская фабрыка афсетнага друку з-за адсутнасці паперы не паставіла шэраг серый мастацкіх бланкаў, у выніку чаго прадпрыемствы сувязі вымушаны выкарыстоўваць для дастаўкі адрасатам наяўныя мастацкія бланкі, у тым ліку і бланкі серыі Е-51». Далей В. Уласік паведамляе: «Сюжэт і тэматыка мастацкіх тэлеграфных бланкаў распрацоўваюцца Міністэрствам сувязі СССР і з'яўляюцца адзінымі для ўсёй краіны». Міжволі ўзнікае пытанне: а ці патрэбна такая строгая цэнтралізацыя? Чым яна выклікана? Чаму прапанову нашага чытача аб выданні мастацкіх тэлеграфных бланкаў на беларускай мове, як піша намеснік міністра сувязі БССР, трэба яшчэ вывучаць? Што тут вывучаць? Трэба выпускаць бланкі, паштоўкі, канверты, а не вывучаць пытанне. Тут няма так званых пытанняў, а ёсць элементарныя ісціны.

●

26 лютага г. г. пад рубрыкай «Два лісты на адну тэму» ў «ЛіМе» былі змешчаны пісьмы аршанцаў пра лёс будынка на беразе Дняпра — былога касцёла, у якім зараз месціцца Дом культуры будаўнікоў. Нашы чытачы выказвалі непакой за лёс гэтага адзінага, бадай, больш-менш старадаўняга (XIX стагоддзе) будынка ў дзевяцьсотгадовым горадзе: будаўнікі задумваюць яго чарговую «рэканструкцыю» замест таго, каб адрэстаўрыраваць, надаць будынку першапачатковы выгляд і прыстасаваць пад канцэртную залу, якой няма ў горадзе.

Лісты рэдакцыя пераслала ў Аршанскі гарвыканком. Старшыня гарвыканкома Г. П. Пітушко паведаміў: «Будтрэстам № 18 сапраўды заказана і распрацоўваецца праектна-каштарысная дакументацыя на рамонт і рэканструкцыю Дома культуры будаўнікоў. У «Збор помнікаў» гэты будынак не ўнесены. Для вызначэння прыналежнасці будынка ДК будаўнікоў да помнікаў архітэктуры паслана запытанне ў аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў Міністэрства культуры БССР. Пасля заключэння спецыялістаў пытанні аб лёсе будынка, пры неабходнасці, будуць вынесены на абмеркаванне грамадскасці горада і разгледжаны ў гарвыканкоме. Рэдакцыі газеты будзе выслана дадатковая інфармацыя па гэтым пытанні».

Зноў жа, адказ быццам і па сутнасці, аднак жа... Будынку, як сведчыць надпіс на ім, больш за сто гадоў. Чаму ж ён не ўключаны ў «Збор помнікаў»? Хто ў гэтым вінаваты? Ды ці ж справа толькі ў гэтым? Справа ў разумным, рацыянальным выкарыстанні і будынка, і дзяржаўных грошай, якія адпушчаны на яго чарговы рамонт-рэканструкцыю. І таму прапанова чытачоў не псаваць помнік, знайсці яму разумнае прымяненне, а ДК будаўнікоў пабудаваць у іншым месцы, выглядае бясспрэчнай.

●

І яшчэ два адказы на ліст нашага чытача П. Капчыка «А вышэй так і не знойдзена», які быў змешчаны ў «ЛіМе» яшчэ ў канцы мінулага года — 25 снежня. Пра што пісаў у ім былы работнік кнігагандлю, а цяпер настаўнік? У тым, што беларуская кніга часта не знаходзіць свайго пакупніка, П. Капчык дакараў найперш прадаўцоў і наогул работнікаў кніжнага гандлю, якія ў большасці сваёй не любяць і не ведаюць беларускай кнігі. «Калі ў Вілейцы, Мядзелі ці Браславе ёсць магчымасць прадаставіць маёй сям'і 2-пакаёвую кватэру, я згодны вярнуцца ў кніжны гандаль і даказаць усім скептыкам, што беларускай кнігай можна гандляваць паспяхова! Трэба проста любіць справу, за якую бярэшся, мець жаданне працаваць з кнігай, шукаць новыя формы яе рэалізацыі», — пісаў наш чытач.

На ягоны ліст, на жаль, ніхто з кіраўнікоў кнігагандлю так і не адгукнуўся. Водгукі ж прыйшлі з Браслава і Мядзеля. Дзіўнае ўражанне пакідаюць яны! Старшы таваразнаўца па кнізе Браслаўскага райспажывсаюза Г. В. Жарык (так у лісце) расказаў (ці расказала) пра поспехі, якіх дамогся кніжны гандаль раёна, на якую суму было прададзена кніг беларускіх пісьменнікаў, як зніжаюцца нарматывы запасаў кніг, і завяршыў (завяршыла) сваё пісьмо ў рэдакцыю так: «Попыт на кватэры ў раёне не зменшыўся, а маецца доўгачаканая чарга на кватэры». Старшыня праўлення Мядзельскага райспажывсаюза М. М. Шаплыка таксама паведаміў у рэдакцыю некалькі каштоўных фактаў: што кнігі беларускіх пісьменнікаў заказваюцца ў раён па тэматычных планах рэспубліканскіх выдавецтваў, што ў 1987 годзе «прададзена ў раёне літаратуры мясцовых выдавецтваў на суму 178 тысяч рублёў з агульнага плана 250,8 тысяч рублёў» і што «адсутнасць кніг папулярных беларускіх пісьменнікаў на прылаўках кнігарняў больш за ўсё тлумачыцца тым, што гэтыя кнігі карыстаюцца павышаным попытам, а тыражы кніг абмежаваныя». Чытаеш такое і не ведаеш, ці смяяцца, ці плакаць. Аказваецца, дарэмна непакоіцца наш чытач (і мы разам з ім) за лёс роднай кнігі. Аказваецца, вунь як хораша ідзе яна да людзей на Браслаўшчыне і Мядзельшчыне! Міжволі расчулішся. Асабліва расчульваюць выразы, накшталт «літаратура мясцовых выдавецтваў». Разумееце, не беларускіх, не нашых, а — нейкіх мясцовых. Мядзельскіх хіба? І пры ўсім гэтым амаль ні слова пра тое, пра што пісаў лімаўскі чытач П. Капчык.

●

Тры гады ўжо краіна жыве ў новым часе — у часе перабудовы. Толькі вось ці ідзе яна належным чынам, перабудова нашага жыцця? Чытачы сведчаць: часта, нават вельмі часта перабудова натыкаецца на перашкоды, часта ход яе затармажваецца, а калі-нікалі яна і наогул дае прабуксоўку. Чыноўнік і бюракрат не дрэмле, усяляк замінае перабудове. І замінае часцей за ўсё не адкрытым супраціўленнем новым павевам, а тым, што сваёй звычнай безадказнасцю і абыякавасцю прыніжае гэтае новае, акружае яго хлуснёю і пошласцю і ўрэшце забівае, усмерчывае яго. Што гэта так, сведчаць, на жаль, і многія адказы-рэагаванні на лімаўскую пошту, з якімі мы парашылі вось так шырока пазнаёміць нашых чытачоў.

**АДДЗЕЛ ПІСЬМАЎ «ЛіМа».**

## Часопісы ў чэрвені

### «МАСТАЦТВА БЕЛАРУСІ»

**Пытанні тэатра разглядаюцца ў артыкулах А. Петрашкевіча «Феномен развіцця», К. Кузняцовай «Што жывіць творчасць?», В. Раеўскага «Калі падыходзіць з самай высокай меркай...», В. Мазынскага «А там была патрэба сардэчная...», гутарцы з Р. Янкоўскім «Працаваць па Станіслаўскаму», матэрыяле Г. Алісейчык «Тэатральныя сезоны Барыса Герлавана».**

**Гісторыя і сённяшні дзень выяўленчага мастацтва асвятляюцца ў інтэрв'ю з першым сакратаром праўлення СМ БССР С. Гарбуновай «Выказаць іх гарачую веру...», матэрыялах А. Шамрук «Гродзенскія акцэнты», Э. Пугачовай «Патаемныя дыялогі жывапісца», П. Зарэцкага і В. Шыкіна «Пясняр палескай прыроды», Я. Шунейкі «Без пафасу і фанфараў», Л. Дробава «Пошукі стылю ці развіццё традыцый?».**

**Асобным старонкам народнага мастацтва рэспублікі прысвячаюцца артыкулы М. Раманюка «Брагінскі строй», М. Макарцова «Каб не перасыхала крыніца...», У. Ганецкай, Н. Здановіч, А. Трусава «Вытокі беларускага фаянсу», В. Лабачэўскай «Зберагчы самабытнасць».**

**Уражаннямі пра работу на тэлебачанні і яго праблемы дзеліцца, разважае А. Кажадуб («Чорная скрыня»). Р. Кобец («На ўмацаванне...») апавядае пра гісторыю кінасцэнарыя «Двойчы народжаны».**

**70-годдзю ўтварэння БССР і Кампартыі Беларусі прысвечаны артыкул Т. Дзядзюлі «На шляху станаўлення».**

### «БЯРОЗКА»

**Друкуецца фантастычная п'еса М. Арэхава і Г. Шышко «Я вынайшаў машыну часу!» і «Вянок паэзіі» — вершы паэтаў з братніх рэспублік, ганарар за якія аўтары і перакладчыкі пералічылі ў Савецкі дзіцячы фонд імя У. І. Леніна. Змешчана і гутарка з Н. Кушняровай — намеснікам старшыні праўлення Беларускага аддзялення фонду.**

**«З адкрытым сэрцам» — нарыс М. Кузняцова пра М. М. Галадзеда. З публіцыстычнымі матэрыяламі выступаюць таксама М. Зарэмба — «Вяртанне «Тадэвуша», Л. Грамовіч — «Няхай дрэвы растуць!», С. Чыгрын — «Ён быў рэдактарам «Піянера», Л. Клышка — «Выпрабавальны тэрмін».**

**У. Ягоўдзік у нататках «А да сонца дарога адчынена...» знаёміць з вучнямі беларускамоўных класаў СШ №№ 108 і 180 г. Мінска.**

**У рубрыцы «Беларускія Калумбы» У. Малашкевіч расказвае пра славутую балерыну Кацярыну Азарэвіч, а ў матэрыяле «Чыё ж гэта свята?» гаворка ідзе пра 1000-гадовы юбілей хрысціянства на Русі.**

**Ю. Рудзіна, мастак-мадэльер беларускага рэспубліканскага цэнтра моды, прапаноўвае дзяўчынкам новыя мадэлі і выкрайкі летніх сукенак у рубрыцы «Мода-88».**

**Змешчаны працяг легенды ў малюнках «Дзікае паляванне...» А. Глобуса паводле аповесці У. Караткевіча; каляндар, займальныя доследы, гумарыстычныя вершы М. Гамолкі і С. Панізніка, загадкі-лагагрыфы, метаграмы, жарты.**

## НЕЎМІРУЧЫ ГЕНІЙ

«Расіі першая любоў» — гэтыя вядомыя словы Ф. Цютчава, сказаныя ў свой час пра Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна, набываюць сёння яшчэ больш глыбокі сэнс. Вялікі рускі паэт — «першая любоў» Беларусі і Украіны, Літвы і Латвіі — кожны народ з асаблівай павагай называе яго імя, ставіцца да яго неўміручай творчасці.

Гэта пацвердзілі мерапрыемствы чарговага Усесаюзнага Пушкінскага свята паэзіі. Маршруты яго пралеглі і ў Магілёў, дзе некалі ўдзячныя чытачы віталі свайго куміра.

Пра велічнасць пушкінскага генія гаварылі сакратар праўлення СП БССР В. Зуёнак, старшыня праўлення Беларускага фонду культуры І. Чыгрынаў, паэты П. Макаль і А. Пісьмянкоў, мясцовыя літаратары. Прагучалі творы, прысвечаныя А. С. Пушкіну.

В. СЯРОДКА.

## ГОСЦІ З В'ЕТНАМА

Паміж правінцыяй Бінь Чо Тхьен і Беларуссю існуюць трывалыя сяброўскія культурныя сувязі. Рэдакцыя часопіса «Зонг хуонг» («Духмяная рака»), якая выходзіць у гэтай правінцыі, у 1984 годзе адзін са сваіх нумароў прысвяціла беларускай літаратуры. Тады былі апублікаваны вершы Пімена Панчанкі, Анатоля Грачанікава, Сяргея Законнікава, апавяданне Васіля Быкава і артыкул пра сучасную беларускую літаратуру Уладзіміра Гніламёдава. Былі змешчаны таксама шэраг вершаў в'етнамскіх паэтаў пра Беларусь, пра Янку Купалу.

Днямі Мінск наведалі паэт, сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў СРВ, загадчык аддзела прапаганды правінцыі Нгуен Хоо Дзьем і галоўны рэдактар часопіса «Зонг хуонг» То Н'уан.

Госці пазнаёміліся з выдатнасцямі горада-героя Мінска, Музеем гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, наведалі мемарыяльны комплекс «Хатынь», Дом творчасці пісьменнікаў «Іслач».

Адбыліся сустрэчы з калектывам рэдакцыі часопіса «Нёман», у Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі.

У гутарцы ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі ўдзельнічалі сакратары праўлення СП БССР Алесь Жук, Васіль Зуёнак, галоўны рэдактар часопіса «Нёман» Анатоль Кудравец і загадчык аддзела паэзіі Бранілаў Спрынчан. Размова ішла аб пашырэнні творчых сувязей паміж пісьменнікамі Беларусі і правінцыі Бінь Чо Тхьен, аб творчым супрацоўніцтве паміж часопісамі «Нёман» і «Зонг хуонг».

## У Ракуцёўшчыну, да Максіма Багдановіча

Зноў людна было мінулай суботай у Багдановічавай Ракуцёўшчыне...

Урачыстасць лачынае дырэктар Літаратурнага музея Максіма Багдановіча Л. Хадкевіч і перадае слова С. Законнікаву. Прамоўца гаворыць пра веліч паэтавага здзяйснення, чытае верш, прысвечаны неўміручаму сыну Беларусі.

Хор Красненскага Дома культуры выконвае некалькі песень. Перад мікрафонам — В. Шніп. Ён выказвае свае адносіны да творчасці Багдановіча, прапануе ўвазе слухачоў вершы пра родны край.

Слова на свяце сказалі таксама заслужаны работнік культуры БССР, мастак-афарміцель музея М. Багдановіча Э. Агуновіч, пісьменнік, адзін з заснавальнікаў традыцыйнага ракуцёўскага свята Г. Каханоўскі, навуковы супрацоўнік Літаратурнага музея Якуба Коласа І. Курбека.

Ухвальна прыняла публіка дзве песні на словы М. Багдановіча ў выкананні самадзейнага кампазітара, спевака і гітарыста А. Камоцкага. Усцешыў слухачоў і дуэт музыкаў — У. Пузыня з сынам (дудка і скрыпка).

Сардэчна сустрэлі прысутныя выступленне акцёра Львоўскага дзяржаўнага ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга ўкраінскага драматычнага тэатра імя М. Заньковецкай С. Максімчука. Яго, свайго сябра, на свята запрасіў С. Законнікаў. Госць прачула гаварыў пра Максіма Багдановіча як выдатнага сына ўсіх славян, натхнёна прачытаў два вершы з украінскай класікі на тэму служэння мастацтва народу.

К. СЦЕПАНЮК.

## ВУЛІЦА ІМЯ КАРАТКЕВІЧА

З мэтай ушанавання памяці пісьменніка лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа Уладзіміра Караткевіча выканком Віцебскага гарадскога Савета народных дэпутатаў вырашыў перайменаваць участак вуліцы П. Броўкі ад праспекта Будаўнікоў да вуліцы Воінаў-інтэрнацыяналістаў у вуліцу імя У. Караткевіча. У знак гэтага на адным з будынкаў будзе ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

Многія з віцябчан памятаюць асабістыя сустрэчы з Уладзімірам Сямёнавічам — ён любіў Віцебск і часта сюды прыязджаў. На сцэне коласаўскага тэатра працяглы час ішлі спектаклі па яго п'есах «Званы Віцебска» і «Кастусь Каліноўскі».

## МАРШРУТЫ ЮНЫХ МУЗЫКАЗНАЎЦАЎ

Навучэнцы тэарэтычнага аддзялення Мінскага музычнага вучылішча актыўна займаюцца прапагандай беларускай музыкі за межамі рэспублікі. Сёлета на творчай сустрэчы ў Маскве з навучэнцамі Дзяржаўнага музычнага вучылішча імя Гнесіных выпускніца ММВ Таццяна Ражкова і Наталля Запека зрабілі вялікі даклад пра творчасць Віктара Помазава, ягоную сюіту «Батлейка» і сімфанічную паэму «Заслаўская легенда». Адбылася таксама канферэнцыя ў Кішынёве, куды сабраліся прадстаўнікі музычных вучылішчаў Малдавіі, Украіны, Закаўказзя, Прыбалтыкі і Беларусі. Вучаніца Н. Запека прачытала даклад «Купалаўская тэма ў творчасці І. Лучанка і У. Мулявіна». Абодва даклады (навучэнкі рыхтавалі іх пад кіраўніцтвам педагога-музыказнаўцы Л. Рашчынскай) выклікалі вялікую цікавасць аўдыторыі.

Наступны маршрут юных музыказнаўцаў Мінскага музычнага вучылішча — на восеньскую канферэнцыю ў Тбілісі.

Л. МІРАШ.

## БЭНДЭ

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 8—9).

выйшаў з кабінета, сабраў я рэшткі адказных работнікаў апарату. Пытаю: «Могуць быць Купала і Колас ворагамі народа?» Ніхто мне нічога не адказвае. галовамі толькі круцяць — не. Запалоханыя ж людзі надта былі. Думаць пачаў я, што рабіць. З Масквою, з самім Сталіным звязвацца трэба, параіцца. А як? Пісьмо пасылаць — перахопяць. Нарачнага пасылаць — тым больш. Па тэлефоне? Не, тут пра такое толькі з вока на вока гаварыць можна. Нарада па прамысловасці якраз намячалася. Вось на яе я і паспадзяваўся. Думаю, закончыцца нарада, папрашуся на пяць хвілін да Сталіна, раскажу яму, як і што. А заадно — і параюся, як быць. Закончылася нарада, я да Сталіна падышоў. «Іосіф Вісарыёнавіч, параіцца з вамі хачу». «Што такое?» — пытае Сталін. «Чалавек я новы ў Беларусі, да таго ж рускі. А мяне, адразу ж, як прыехаў, у нацыянальнае пытанне ўблытваюць». «Якое нацыянальнае пытанне?» — і вочы ў Сталіна, бачу, загарэліся, заскакалі ў іх шалёныя агеньчыкі — вялікім жа знаўцам у нацыянальным пытанні Сталін сябе лічыў. Я і расказаў, як Берман да мяне зайшоў, папку са справамі на самых вядомых у Беларусі пісьменнікаў перада мною паклаў, быццам ворагі народа беларускія пісьменнікі. «А што, калі яны і сапраўды ворагі, дык шкадаваць?» — вымавіў Сталін. «Ну, думаю, усё», — у сярэдзіне ў мяне быццам абарвалася штосьці — не хацеў сваю работу ў Беларусі я з гэтага пачынаць. А Сталін — о, прадбачыць, што скажа ці зробіць ён — хто, хто мог? — усміхаецца, бярэ мяне лёгенька пад локаць, штурхае наперад. Іду я, і Сталін — поплеч. Прыводзіць мяне ў нейкі кабінет. Са сталом, крэсламі, канапай. Нічога не кажучы, да селектара сваёю ціхаю кацінаю паходкаю кіруецца. Націскае клавіш, гаворыць: «У мяне тут у кабінеце малады беларускі сакратар Панамарэнка,ён кажа, што за ўсе гады Савецкай улады ні адзін беларускі пісьменнік не атрымліваў ніякіх узнагарод. Гэта праўда?» «Праўда», — чую я голас з селектара. «Дык Панамарэнка зойдзе да вас, афарміце». Вось так і заменены былі тады ордэры на ордэны, — засмяяўся Панамарэнка. — Я зайшоў да таго таварыша, якому званіў Сталін, і тым, на каго афармлены былі справы як на ворагаў народа, афарміў ордэны...»*

— А Берман як жа? — падняў я вочы на Міхася Ціханавіча.

— Такое самае пытанне задаў і я Панамарэнку, — прадаўжаў Міхась Ціханавіч. — І ведаеце, што ён мне адказаў? Паслухайце вось — «Бермана перавялі ў Маскву. На яго месца прызначылі Наседкіна. Ад Сталіна, кажа, я атрымаў пэўныя ўказанні, што і як далей рабіць. Нельга было дапускаць, каб органы НКУС выходзілі з-пад кантролю партыі, каб яны стаялі над усімі. А ў Беларусі здарылася якраз такое... І таму трэба было наводзіць парадак». Вярнуўшыся ў Мінск, Панамарэнка паклікаў да сябе начальніка пагранвойск, загадаў яму ўночы акружыць НКУС і ўсіх, хто там будзе, арыштаваць. Начальнік разгубіўся, папрасіў дазволу звязацца са сваім непасрэдным вышэйшым камандаваннем. Панамарэнка загадаў яго завесці ў кабінет побач, пачакай, маўляў, калі дазвонімся да вышэйшага камандавання, а тым часам паклікаў яго намесніка. «Зайшоў, кажа, да мяне вялізны, што гара, чалавек з вусамі, далажыўся, пытае, чаго клікалі. Я і кажу яму — тое і тое, так і так трэба зрабіць. «Ёсць!» — узяў пад казырок гэты вусач. І скажу — выканаў заданне як найлепей. За якія дзве гадзіны ўсіх да аднаго супрацоўнікаў НКУС арыштаваў. Па начах жа тады яны працавалі...» І прадоўжыў Панамарэнка: «Я разумеў — нацыянальная творчая інтэлігенцыя — вялікая сіла. І з ёй трэба лічыцца, на яе трэба абапірацца. Асабліва мне, русаку... Таму я так часта збіраў да сябе пісьменнікаў, раіўся. Помню, яшчэ ў трыццаць восьмым годзе спытаў, каго трэба выпусціць з арыштаваных. Усе ў адзін голас сказалі: Кузьму Чорнага... Я асабіста перагледзеў справу, якую завялі на гэтага таленавітага пісьменніка, прачытаў яго творы... І Кузьма Чорны быў неўзабаве выпушчаны на волю...»

Нядаўна я наведаў адну пісьменніцкую сям'ю. Гутарка, між іншым, зайшла пра Бэндэ.

— Нядобрую аб сабе памяць пакінуў ён у нашай літаратуры, — сказаў гаспадар. — Тапор, калун... Але такія патрэбны былі ў той час... І мяне ж арыштоўвалі — «забіралі»... Помню, сеў я вячэраць... Стук у дзверы... Я адчыніў... На парозе стаяць двое... Некалькі гадзін поркаліся ў маіх рукапісах, кнігах, рэчах... Два мяшкі напакавалі «доказамі маёй вінаватасці»... Ні машыны, ні падводы не было... Давялося на сабе ўсё гэта валачы... Уявіце — ідуць гэтых двое, ідзем мы з жонкаю і нясем самі на сабе «рэчавыя доказы вінаватасці», якой не было...

Жонка пісьменніка, слухаючы нашу размову, таксама сёе-тое ўспомніла:

— Жыць мне не было за што. Ды і перадаць хоць што-кольвек у турму трэба было. І я, памеркаваўшы так і гэтак, надумала ў выдавецтва зайсці, папрасіць, каб заплацілі за падрыхтаваны да друку пераклад, памаглі ў скрутную гадзіну. Галоўным рэдактарам у выдавецтве тады працаваў Бэндэ. Зайшла я да яго, сказала, хто я, чаго прыйшла. І ведаеце, што ён мне адказаў? «Як вы, жонка ворага народа, асмеліліся да мяне з такім пытаннем прыйсці?» Я вылецела з яго кабінета куляй... Другі раз я сустрэлася з ім пасля вайны ўжо, у Мінску... Мы ішлі з Уладзіслава Францаўнай, жонкай Купалы... І ўбачылі раптам Бэндэ. Ён ішоў насустрач. Уладзіслава Францаўна павіталася, падала нават руку. А я... Успомніла трыццаць трэці год, як заходзіла да яго ў выдавецтва... І адвярнулася, зрабіла выгляд, што не ведаю яго... Уладзіслава Францаўна дагнала мяне, сказала, што і яна тое самае зрабіла б, што і я, але... Трэба арганізоўваць Купалаў музей, а ў яго, гіцаля, захавалася тое, чаго ні ў кога няма. Многія ж «рэчавыя доказы» — рукапісы, ненадрукаваныя творы, карэктуры кніг, запіскі, лісты, аказваліся ў яго...

— Быў я на кватэры ў Ленінградзе ў гэтага гіцаля, як называла яго Уладзіслава Францаўна, — памаўчаўшы, дадаў гаспадар. — Пасля вайны ўжо. Жыў ён раскошна, на Неўскім праспекце. Уся вялікая, на некалькі пакояў, кватэра застаўлена была папкамі, кнігамі... І мая знайшлася кніга, што павінна была выйсці, ды не выйшла... І невыдадзеныя кнігі іншых пісьменнікаў там стаялі — Дубоўкі, Пушчы, Гарэцкага, Жылкі... Так, як нас бралі, у такім парадку стаялі і нашы кнігі... Ён іх прадаваў, вядома, за добрую цану...

— Ён трымаў іх як «рэчавыя доказы», каб на выпадак чаго, зноў даказваць, што вы — «ворагі народа»? — спытаў я.

— Не, ён ведаў, што ніхто з нас не вораг Савецкай уладзе, што мы ні ў чым перад ёю не вінаватыя... Проста хацеў і на гэтым зарабіць, нажыцца... Хоць... Хто ведае, што ў яго было ў галаве?..

Спіс беларускіх савецкіх пісьменнікаў, якія ў гады культу Сталіна арыштоўваліся, высылаліся, сядзелі ў турмах і лагерах, былі асуджаны, расстраляны: А. Александровіч, З. Астапенка, С. Астрэйка, А. Бабарэка, М. Багун, С. Баранавых, Я. Браншгэйн, Я. Бяганская, Р. Бярозкін, А. Вольны, П. Галавач, У. Галубок, Ц. Гартны, М. Гарэцкі, Ю. Гаўрук, М. Грамыка, С. Грахоўскі, А. Гурло, С. Дарожны, С. Дзяргай, А. Дзяркач, У. Дубоўка, А. Дудар, Я. Дыла, У. Жылка, І. Замоцін, М. Зарэцкі, А. Звонак, С. Знаёмы, В. Каваль, Л. Калюга, Т. Кляшторны, Р. Кобец, Д. Курдзін, С. Куніцкі, Ф. Купцэвіч, С. Ліхадзіеўскі, М. Лужанін, Ю. Лявонны, В. Маракоў, Б. Мікуліч, А. Мрый, У. Мяжэвіч, Я. Нёманскі, М. Нікановіч, А. Пальчэўскі, А. Паўловіч, Я. Пушча, М. Піятуховіч, П. Прудпікаў, С. Ракіта, Л. Родзевіч, А. Салагуб, Я. Скрыган, В. Сташэўскі, Б. Тарашкевіч, Ю. Таўбін, С. Фамін, У. Хадыка, М. Хведаровіч, С. Хурсік, Н. Чарнушэвіч, М. Чарот, В. Шашалевіч, П. Шукайла, С. Шушкевіч...

Толькі некалькі з іх вярнуліся пасля поўнай рэабілітацыі «з-за адсутнасці складу злачынства» зноў у Беларусь, прадоўжылі літаратурна-мастацкую творчасць.

Пасля страшных падзей 1937 года ў складзе пісьменніцкай арганізацыі рэспублікі асталося менш 40 чалавек — Э. Агняцвет, З. Аксельрод, І. Барашка, В. Барысенка, П. Броўка, Л. Бэндэ, З. Бядуля, В. Вольскі, У. Глазырын, П. Глебка, А. Гурло, І. Гурскі, Ц. Даўгапольскі, А. Зарыцкі, Г. Камянецкі, Л. Кацовіч, М. Клімковіч, Я. Колас, К. Крапіва, А. Куляшоў, Я. Купала, А. Кучар, М. Лынькоў, Я. Маўр, Е. Міровіч, М. Модэль, Р. Мурашка, М. Паслядовіч, І. Платнер, Я. Рамановіч, Р. Рэлес, Э. Самуйлёнак, У. Фінкель, М. Хведаровіч, К. Чорны, І. Шапавалаў, Х. Шынклер, А. Якімовіч...

4.2.1938 г. памёр А. Гурло, 12.2.1939 — Э. Самуйлёнак. 13.10.1938 г. быў арыштаваны К. Чорны, крыху пазней — М. Хведаровіч... К. Чорнага, патрымаўшы месяцаў з восем у турме і вымучыўшы бясконцымі допытамі, дзякуючы ўмяшанню П. К. Панамарэнкі, выпусцілі на волю, а М. Хведаровіча, даўшы яму восем год працоўна-папраўчых лагераў, накіравалі ў Сібір. Вярнуўшыся пасля рэабілітацыі ў 1955 г. зноў у Мінск, ён праз дзесяць год у зборніку «Дзень паэзіі» надрукаваў верш-крык М. Чарота «Прысяга», які той выкалупаў нечым вострым перад смерцю на сцяне камеры-адзіночкі і які знайшоў там і запомніў паэт:

Я вам не здрадзіў,  
Не зманіў,  
Бо славіў наш Савецкі будзень.  
Свой верш сардэчнай чысціні  
Ахвяраваў я родным людзям.  
Я не чакаў  
І не гадаў,  
Бо жыў з адкрытаю душою,  
Што стрэне лютая бяда,  
Падружыць з допытам,  
З турмою.  
Прадажных здрайцаў ліхвяры  
Мяне заціснулі за краты.  
Я прысягаю вам, сябры.  
Мае палі,  
Мае бары, —  
Кажу вам — я не вінаваты.  
Паверце — я не вінаваты!

Іх, такіх невінаватых, было тысячы, дзесяткі, сотні тысяч... Але іх крыкаў, іх стогнаў, іх прысяг і клятваў не чулі. А калі і чулі — не верылі...

Давайце ж помніць, не забываць пра тое, што было. І рабіць усё, каб больш ніколі не паўтарыліся падзеі тых дзён — беззаконне і рэпрэсіі.

### ЗАМЕСТ ПАСЛЯСЛОЎЯ

5 сакавіка 1953 года памёр Сталін. Тады ж, неўзабаве пасля яго смерці, пачаўся перагляд заведзеных пры яго жыцці судовых спраў «удзельнікаў» розных «контррэвалюцыйных» і «антысавецкіх арганізацый» — «ворагаў народа». Ужо ў 1954—1955 гг. былі рэабілітаваны «з-за адсутнасці складу злачынства» многія тысячы «невинно пострадавших», сярод іх і нашы беларускія пісьменнікі — А. Александровіч, М. Багун (пасмяротна), С. Баранавых (пасмяротна), С. Грахоўскі, А. Звонак, С. Знаё-

* Ордэны ў 1939 г. атрымалі: Я. Купала, Я. Колас, М. Лынькоў, Э. Самуйлёнак, З. Бядуля, П. Броўка, П. Глебка; у 1940 г. ордэн Леніна атрымаў К. Крапіва.

# ВЕРНУТА НАРОДУ

**Выстаўка «Скарбы, вернутыя народу» — яна ў аўторак адкрылася ў Мінску ў Палацы мастацтваў — незвычайная. Арганізатары яе Беларускі фонд культуры, Міністэрства ўнутраных спраў БССР, Саюз мастакоў Беларусі, Міністэрства культуры БССР вынеслі на глядацкі суд карціны, прадметы культавага мастацтва, якія ў свой час былі выратаваны супрацоўнікамі крымінальнага вышуку МУС БССР, а таксама таможнікамі Брэста і Гродна.**

**Прысвечаная 70-годдзю савецкага крымінальнага вышуку, экспазіцыя раскрывае яго работу ў крыху *нечаканым* ракурсе... Карціна невядомага аўтара, напісаная ў 1821 годзе, якая адлюстроўвае батальныя сцэны; «Партрэт жанчыны з дзіцем» Ф. Шэнберга (1911 г.), «Партрэт дзяўчыны», выкананы невядомым мастаком у першай палове мінулага стагоддзя; эцюд Р. Краўса «Горнае возера» (1893 г.) і іншыя жывапісныя творы, што ўяўляюць гістарычную і мастацкую каштоўнасць, маглі б даўно апынуцца за мяжой, папоўніўшы калекцыі дзялкоў ад мастацтва, калі б на шляху раскрадальнікаў не сталі работнікі крымінальнага вышуку і таможнікі.**

**Тое ж самае тычыцца і шматлікіх ікон, вырабаў з мельхіёру, латуні, каштоўных матэрыялаў; прадметаў культавага мастацтва, а таксама вырабаў вядомай пецярбургскай фірмы Фабержэ.**

**Сёння гэтыя творы знаходзяцца ў экспазіцыях Брэсцкага краязнаўчага музея, Гродзенскага музея гісторыі рэлігіі і атэізму, Музея старажытнай беларускай культуры ІМЭФ АН БССР, а з іх і прадстаўлены на выстаўку.**

**НАШ КАР.**


Маці боская мінская. XVIII стагоддзе.


Выстаўку адкрывае І. Чыгрынаў.


Ф. ШЭНБЕРГ. Партрэт жанчыны з дзіцем.

# ШТО ПІШУЦЬ ПРА НАС

У Вільнюскай газеце «Вячэрнія навіны» (№ 98 за гэты год) надрукаваны публіцыстычныя нататкі журналіста Ёзаса Шупшынскаса «Думкі на дзвюх мовах адразу», у якіх ён, разважаючы пра колішні і сённяшні дзень Літвы, пра культурную і моўную сітуацыю ў рэспубліцы, кранае і беларускія «матывы».

Вось што, у прыватнасці, ён піша:

**«...Дык як жа магло здарыцца, што ў нашых найбліжэйшых суседзяў газета «Звязда», якая выходзіць на беларускай мове, мае зусім *малюпасенькі* тыраж (яе мала хто чытае), а «Советская Белоруссия» ў дзесяткі разоў больш? Прыгадваю, яшчэ трыццаць гадоў таму назад я і тагачасны старшыня Саюза журналістаў Літвы Ёнас Карасас, наведаўшыся ў Мінск, былі дужа здзіўлены, калі пачулі, што журналісты «Звязды» кепска валодаюць беларускай мовай,—свае артыкулы, карэспандэнцыі, фельетоны яны пішуць па-руску, а ўжо тады перакладчыкі перакладаюць гэтыя матэрыялы на «журналісцкую» *беларускую* мову. Немагчыма ўявіць, каб у 1958 годзе гэткае становішча было ў «Ціесе», у якой я, дарэчы, тады працаваў!**

**Прыкра робіцца на душы, калі слухаеш цяпер публічныя нараканні і ўздыханні украінцаў, беларусаў на пленумах Саюза пісьменнікаў СССР аб тым, што ў іх ужо з'явілася некалькі пакаленняў моладзі, якія не ведаюць, не валодаюць, не шануюць сваёй роднай мовы. Па-беларуску не выкладаецца ва універсітэтах, інстытутах, тэхнікумах. Толькі акцёры ў тэатры, толькі радыё- і тэледыктары валодаюць яшчэ беларускай мовай—гэта іхні прафесійны хлеб. Пытанняў шмат: мова суседзяў ужо ў *перадсмяротных канвульсіях? Як* яе ажыўляць? Ці варта? Колькі на ґэта спатрэбіцца дзесяцігоддзяў? Калі быў дапушчаны той крэн, які прывёў да такіх балючых вынікаў? Хто ў гэтым вінаваты? Прамоўцы вінавацяць часы культу асобы, рэпрэсіі, калі вынішчалася нацыянальная інтэлігенцыя, асветнікі. Можна віну за ўсе гэтыя беды звальваць на Сталіна, Хрушчова ці Брэжнева, аднак, мне здаецца, найбольш тут парупілася ханжаскае саслоўе мясцовых начальнікаў, якія звычайна далёка наперад прадугадваюць жаданні вышэйстаячых асоб і з'яўляюцца «большымі каталікамі, чым папа рымскі». У сваім угодніцкім імпэце яны гатовы адрачыся нават ад бацькі і маці...»**

мы (пасмяротна), В. Каваль (пасмяротна), С. Куніцкі (пасмяротна), Б. Мікуліч (пасмяротна), Я. Пушча, А. Пальчэўскі, С. Ракіта (пасмяротна), Я. Скрыган, М. Хведаровіч, В. Шашалевіч (пасмяротна), С. Шушкевіч...

У лютым 1956 года адбыўся XX з'езд КПСС. Партыі і народу вуснамі Першага сакратара ЦК КПСС М. С. Хрушчова ўпершыню было шчыра і мужна сказана, хто такі быў Сталін, што ён не толькі ведаў пра рэпрэсіі і беззаконне, якія тварыліся ў краіне, але і спрыяў ім, асабіста прымаў удзел. Даклад М. С. Хрушчова чытаўся ва ўсіх партыйных арганізацыях, на сходах рабочых, сялян і інтэлігенцыі, у студэнцкіх аўдыторыях...

Працягваўся і перагляд «спраў», ішла рэабілітацыя ні за што асуджаных. У 1956—1957 гг. зноў жа, сярод тысяч іншых савецкіх людзей, былі рэабілітаваны і многія беларускія пісьменнікі — С. Астрэйка (пасмяротна), Я. Бранштэйн (пасмяротна), Р. Бярозкін, М. Гарэцкі (пасмяротна), У. Галубок (пасмяротна), П. Галавач (пасмяротна), М. Грамыка, А. Вольны (пасмяротна), У. Дубоўка, А. Дзяркач (пасмяротна), У. Жылка (пасмяротна), І. Замоцін (пасмяротна), Л. Калюга (пасмяротна), Т. Кляшторны (пасмяротна), Д. Курдзін (пасмяротна), С. Ліхадзіеўскі, М. Лужанін, Ю. Лявонны (пасмяротна), В. Маракоў (пасмяротна), Я. Нёманскі (пасмяротна), М. Піятуховіч (пасмяротна), А. Салагуб (пасмяротна), В. Сташэўскі (пасмяротна), Б. Тарашкевіч (пасмяротна), Ю. Таўбін (пасмяротна)...

З «закрытых фондаў», падвалаў бібліятэк падымаліся для перагляду — можна іх даваць чытаць ці не? — кнігі, газеты, часопісы, што выходзілі ў 20—30, ды і ў перадваенныя, ваенныя і пасляваенныя гады. Помню кабінет беларускай літаратуры ў Дзяржаўнай бібліятэцы імя Леніна, які проста быў завалены пажаўцелымі нумарамі часопісаў «Маладняк», «Узвышша», «Полымя», а таксама кнігамі тых, каму вернута было грамадзянства. З якой неспатольнай прагай накінуліся ўсе, хто працаваў тады ў гэтым кабінеце, на неспадзявана падоранае багацце, якога не бачылі, нават некаторыя не ведалі, што яно ёсць...

Пачалі вяртацца з «мест не столь отдаленных» і тыя, хто выжыў, каму пашанцавала больш, чым многім і многім іх сябрам і таварышам па няшчасці. Яны друкавалі новыя свае творы, расказвалі пра тых, каго, на жаль, няма. Газета «Літаратура і мастацтва» зноў «адкрывала» тых, каго ў трыццатыя гады «закрывала», аб'яўляла «ворагамі народа»...

Выходзілі кнігі «невинно пострадавших» — аднатомнікі, двухтомнікі, трохтомнікі, чатырохтомнікі...

Але ўсяго гэтага было мала. Праўда пра перажытае хоць быццам і гаварылася, *але не ўся, не да канца. Паміралі* адзін за адным і тыя, хто прайшоў усе кругі сталінскага пекла, хто многае бачыў і ведаў, і пра многае мог расказаць: А. Александровіч, Я. Пушча, Н. Чарнушэвіч, М. Грамыка, Я. Дыла, С. Ліхадзіеўскі, Ю. Гаўрук, А. Пальчэўскі, У. Дубоўка, С. Дзяргай, Р. Бярозкін, М. Хведаровіч... І ўсё ж верылася — не можа такога быць, каб праўда пра перажытую несправядлівасць не засталася, не была засведчана літаратурай. І вось летась часопіс «Нёман» змясціў у сакавіцкім нумары «Аповесць для сябе» Б. Мікуліча. Усяго, што ёсць у гэтым творы, не перакажаш. Трэба чытаць. Чытаць *ад першага слова да апошняга,* чытаць уважліва. І думаць, думаць. Вось толькі некалькі вытрымак з яго:

«Што ўбачыў, пачуў і зразумеў я ў Мінску і які ён быў увосень 1930 года?

Толькі што прайшла «чыстка» літ. радоў... Так мне ніколі і не пашанцавала бачыць і чуць «легендарных» Дубоўку і Пушчу, але дыханне іх адчувалася вельмі моцна. Пачаўся бой па ўсім фронце. І як бывае ў азарце, усё створанае раптам *было аб'яўлена крамолай.* Паспрабавалі закрэсліць усё мінулае, у тым ліку і Багдановіча, і Цётку, і Багушэвіча. Уладарылі Канакоцін, Бэндэ і К°... БелАПП — гэта была не толькі арганізацыя, гэта была паласа, «перыяд», вельмі шкодны».

Нельга без хвалявання чытаць і тыя радкі, дзе Б. Мікуліч расказвае, як яго ні ў чым невінаватага, чалавека светлай душы і шырокіх поглядаў, які любіў Савецкую ўладу і марыў ёй шчыра служыць, арыштоўвалі, потым дапытвалі. «Самае недарэчнае і страшнае было ў тым, што следчыя рашуча ўсё — і літ. справу, і выдавецтва, і тэатр, і кам. арганізацыю — адразу ж аб'явілі контррэвалюцыяй. Я помню амаль фізічнае адчуванне болю, калі пачуў гэта, і тут зніклі многія ілюзіі.

Па-першае, мне інкрымінавалі ўдзел у нейкай фантастычнай і малавераготнай трацкісцкай арганізацыі. Выявілася, што па ўзросту гэта не ўвязваецца... Адпала. Затым — шпіянаж у карысць Польшчы. Але тут сапраўды нельга было хоць бы набліжана знайсці якія-небудзь сувязі... Адпала і гэта. І што ж? Аднойчы ноччу следчы Соцікаў сказаў мне: «Вы, Б. М., сапраўды ні ў чым невінаваты». Я законна адказаў: «Тады пішыце пацверджанне маёй невінаватасці і канец». — «Не, вас перададуць іншаму следчаму, прыменяць розныя метады, мне шкада вашай маладосці». Па метаду — «быў бы чалавек, а «справа» знойдзецца» — «знайшлі» «справу» і Б. Мікулічу — далі дзесяць гадоў папраўча-выхаваўчых лагераў за тое, што, «працуючы ў Белдзяржвыдзе», ён «садзейнічаў выданню контррэвалюцыйнай літаратуры».

Балючыя звесткі пра перажытае ў тыя нялёгкія гады падае і С. Грахоўскі («Два лёсы — дзве трагедыі», «Маладосць», № 1, 1988 г.). Пераказваць гэтыя ўспаміны зноў жа я не бяруся, дам лепш слова самому аўтару, які нечакана для сябе ў кастрычніку 1936 г., як і многія ў той час, апынуўся ў турме:

*«Дакладна расказаць, як выразаліся* ўсе гузікі, гаплікі і зашчэпкі, выцягваліся шнуркі з чаравікаў, прамацваўся кожны рубец у адзежы, як бессаромна прыходзілася распранацца і прымаць позы, у якія і перад доктарам не заўсёды станавіўся, проста немагчыма. Потым прызвычаіўся ўсё насіць на матузках, а калі іх не было, дык і ў руках. Галоўнае было наперадзе. Тры месяцы ў адзіночцы, падобнай на каменную дамавіну, і дзевяноста начэй бесперапынных «канвеераў». Што гэта такое? Нават ворагу не зычу. Допыт пачынаўся праз гадзіну пасля адбою: бязгучна адчынялася акенца (кармушка) у жалезных дзвярах, таямнічы шэпт: «на Г. на допрос». Рукі назад, і павялі праз вузкі, як студня, двор па калідорах, пракураных «Беламорам». У пакоі следчага лямпа б'е прама ў вочы, сядзеш на цвёрды стул, рукі на каленях, на спінку не абапірацца. Следчы дзяўбе адно і тое ж: «Признавайтесь! Говорите правду!» Зарыпяць на калідоры боты, крык узмацняецца, грукаюць па стале кулакі. І так да раніцы. Зморany следчы ідзе *дадому, яго змяняе чыста паголены* наадэкалонены другі і паўтарае тое самае да вечара. Яго змяняе трэці, а ты, ачмурэлы, валішся з крэсла, заплюшчваюцца вочы. Будзіць штуршок і крык: «Не спаць!» Пачынае світаць. Раніцай прыходзіць першы, і так па трое сутак».

А яшчэ ж і катавалі, білі. Ды як, як! К. Чорны ў сваім «Дзённіку» («Полымя», № 4, 1988 г.) піша: «У нядзелю ўвечары Пестрак расказваў Лужаніну, як яго мучылі ў польскай турме. Алоўкі паміж пальцаў, пампавалі ваду праз нос, білі гумовым кіем, замыкалі рукі ў кайданы. Я слухаў. Пестрак умее цікава расказваць.

У яжоўскай турме ў Мінску ўвосень 1938 г. мяне саджалі на кол, білі вялікім жалезным ключом па галаве і палівалі збітае месца халоднай вадой, паднімалі і кідалі на рэйку, білі паленам па голым жываце, устаўлялі ў вушы папяровыя трубы і раўлі ў іх на ўсё горла, уганялі ў камеру з пацукамі, але рук у кайданы не замыкалі».

Не дзіва, што многія не вытрымлівалі здзекаў, падпісвалі тое, у чым не былі вінаваты. Вось прызнанне яшчэ аднаго вельмі сумленнага чалавека і таленавітага пісьменніка С. Баранавых, якое ён зрабіў у пісьме да сваёй жонкі Надзі: «Мае ж пратаколы ў справе падпісаны мною пад прымусам, г. з. мяне следчы прымусіў падпісаць пратаколы, ім напісаныя ў сябе дома ці ў кабінеце без мяне. Я падпісваў іх, нават некаторыя не чытаючы і не слухаючы. Я гаварыў і *гаварыў следчаму адну праўду* — я невінаваты! Я нічога не ведаю. Ніколі ў арганізацыі не быў. Я сумленны грамадзянін нашай Савецкай краіны. Мяне следчы ўгаворваў, што гэта так трэба дзеля іх і што ён, следчы, ведае, што я не вінаваты, але трэба гэта. Я і цяпер не ведаю, каму гэта «трэба» было арыштоўваць чалавека, які гатовы перагрызці любому ворагу горла за маю дарагую Савецкую ўладу... Каму гэта трэба? Памойму, *трэба гэта было* ворагу Савецкай улады і больш нікому. Я пісаў у сваіх заявах і заўсёды гаварыў і пішу табе, я, дарагая Надзечка, невінаваты. Я ніколі і нідзе не зняважыў нават маёю думкаю, дарагой, паўтараю, для мяне Савецкай краіны. Вораг нашага савецкага народа мог пасадзіць мяне і больш ніхто». («Нёман», № 4, 1988 г.).

Прыкладна тое самае, толькі іншымі словамі, пісаў у пісьме, але ўжо не жонцы, а «другу працоўных Іосіфу Вісарыёнавічу Сталіну» А. Мрый («Полымя», № 1, 1988 г.). «Я ў час апошняга следства нават хацеў, каб да мяне былі ўжыты самыя рэпрэсіўныя меры ўздзеяння. *Я думаў, што мне ўдалося б* перараканаць і даказаць сваю непрыналежнасць да контррэвалюцыйных арганізацый. Я гатовы быў праз слёзы крычаць аб сваёй невінаватасці, клясціся вялікім ценем Леніна і Вашым вялікім імем тым, што, можа, у маіх роспачных словах адчуюць праўду».

Але, як піша А. Мрый, следства чакала не прызнання яго невінаватасці, а прызнання яго ўдзелу ў «антысавецкай арганізацыі», іншых звестак, дакладней, паклёпу на самога сябе і на сяброў...

Вядома, кожны, хто трапляў у турму, вінаваціў усіх, толькі не Сталіна, не тых, хто акружаў тырана і па волі каго рабі*ліся страшныя злачынствы.* Адзін хіба Цішка Гартны разумеў больш, як некаторыя. На пытанне следчых, хто ва ўсім вінаваты, ён адказваў: «Усе вінаваты, што так здарылася. Усе». — «Можа, і таварыш Сталін?» — здзекліва пыталі ў яго. «Усе. І вы, хто згубіў чалавечы воблік. А Сталін больш за ўсіх. Так і скажу на судзе». («Нёман», № 2, 1988 г., стар. 105).

Хіба ж мог так гаварыць тады нармальны чалавек? Нават чуць такое было боязна і небяспечна. Маршал Тухачэўскі, напрыклад, верыў Сталіну, пісаў яму перад смерцю пісьмо, прызнаваўся ў сваёй невінаватасці і кляўся ў вернасці і любові. (*Сталін на гэтым пісьме, як вядома,* наклаў рэзалюцыю: «Усё брэша! Расстраляць! Сталін»).

Цішку Гартнага — ды хіба ж інакш і магло быць? — аб'явілі вар'ятам, накіравалі ў Магілёў у псіхбальніцу, дзе ён і пакончыў жыццё самагубствам, не дажыўшы да свайго пяцідзесяцігоддзя...

А яго ж, Цішку Гартнага, разам з М. Зарэцкім, М. Чаротам, А. Дударом рыхтавалі ў кіраўнікі той «нацдэмаўскай» контррэвалюцыйнай арганізацыі», якая ставіла сабе за мэту аддзяленне Беларусі ад СССР і ў якую былі ўпісаны дзесяткі прозвішчаў беларускіх пісьменнікаў і якая, на самай справе, як выявілася, не існавала ды і не магла існаваць — Беларусь жа толькі дзякуючы Савецкай уладзе атрымала дзяржаўнасць і хто ж з беларусаў гэта не ведаў і не цаніў!

Архівы пакуль што маўчаць. Гавораць сведкі і ўдзельнікі тых падзей...

Хто, хто яшчэ абзавецца, скажа праўду пра тое, чаго ні я, ні тым больш маладзейшыя за мяне не ведаюць?

Будзем чакаць. І верыць — праўда будзе *сказана.* Уся, *якая б горкая яна* ні была. Бо толькі праўдай жыў і жыве чалавек. Так было і — трэба спадзявацца — будзе!

P. S. Дарэчы, «бэндэ» па-латышску — кат, ці той, хто вядзе чалавека на смерць.

